—Людзьмі звацца!
Янка Купала

ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

# ЛіМ

ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
26
САКАВІКА
1993 г.
№ 13 (3683)
КОШТ
3 рублі





Наталля АРСЕННЕВА

## 25 САКАВІКА

Ён прыйдзе, гэты дзень!
Ён не прыйсці не можа!
Ён прыйдзе —
й загудзе вясновы буралом,
пакрышыць, размяце,
раскідае, зніштожыць
усё, што нам шляхі да хаты замяло!
Ці чуеце?
Аб ім
шасціць быльнёг аселіц,
пяюць вятры ў лазе,
і звоніць крыгаў лёд.
Ахвяраю крыві,
а Слова стане Целам,
і ўжо ніколі больш не ўстане Чорны
Год.
Няхай бярэмя він
прыгнула нас, і крылы
апалі,
й хлеб чужы нясмачны і важкі,
няхай нас апавіў
тугой агоркны вырай, —
трывайма!
Ён ідзе —
Вялікі Сакавік!
Ідзе...
й пад ногі рунь
яму кладзецца, таюць
снягі, на поплавах зяленіцца трава...
Радзіма!
Беларусь
Каханая, святая!
Багаславі нас жыць
і веру захаваць!

1950




Гэтыя здымкі зроблены ў нядзелю 21 сакавіка ў час шэсця і мітынгу ў гонар 75-х угодкаў БНР.

Фота У ПАНАДЫ



# КОЛА ДЗЁН

***Мінулы тыдзень быў багаты на падзеі рознага кшталту. Але адна, бадай, самая галоўная, прайшла амаль незаўважанай: на Беларусь прыйшла Вясна. Сапраўдная, якую не спыняць цяпер ніякія прымаразкі, тым больш — палітычныя. Яны толькі яшчэ больш акрэсліваюць і адцяняюць прагу зямлі да сонца, да цяпла, а людзей — да волі, да шчасця.***

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Спікер расійскага парламента Руслан Хазбулатаў нечакана-негадана, без папярэдняга паведамлення, прыехаў на Беларусь. Візіт, як патлумачыў ён, быў запланаваны раней і скіраваны выключна на развіццё міжпарламенцкіх сувязяў. Пасля нядаўняга з'езда ВС Расіі ў гэта цяжка было паверыць... З Беларусі Р.Хазбулатаў накіраваўся на Украіну, потым у Казахстан. Ягонае жаданне ўзняць свой аўтарытэт у блізкім замежжы і пашукаць магчымых саюзнікаў у аднаўленні «адзінага і непарушнага» — відавочнае.

### ЗАЯВА ТЫДНЯ

Прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын выступіў па тэлебачанні са зваротам да народа сваёй краіны. Ён заявіў, што лічыць неабходным правесці 25 красавіка рэферэндум, на якім будзе пастаўлена пытанне аб даверы прэзідэнту і віцэ-прэзідэнту, а таксама паведаміў, што падпісаў указы аб адмене некаторых рашэнняў апошняга з'езда ВС Расіі. Рэакцыя на яшчэ ненадрукаваныя ўказы была імгненнай: Канстытуцыйны суд Расіі і экстраная сесія ВС прызналі іх неканстытуцыйнымі, а заяву Ельцына — спробай дзяржаўнага перавароту. Прэзідэнта падтрымаў урад і лідэры вядучых краін Захаду. Шырыцца падтрымка Ельцына і сярод простага люду. Беларускі парламент свае адносіны да падзей у Расіі пакуль не выказаў. Можа, яно і лепш...

### «АДМЕТНАСЦЬ» ТЫДНЯ

Прэм'ер-міністр Беларусі Вячаслаў Кебіч выступіў з дакладам на нарадзе-семінары старшынь выканкамаў гарадскіх і раённых Саветаў народных дэпутатаў. Сам дух нарады і выступленне нагадалі не такія ўжо і даўнія сходы партактыву. На нарадзе прысутнічалі і вайскоўцы. Адметнасцю нарады стала прапанаваная В.Кебічам новая знешнепалітычная канцэпцыя: адмаўленне Беларусі ад курсу на нейтралітэт і ўваходжанне ў сістэму калектыўнай бяспекі. Антыканстытуцыйнымі гэтыя прапановы пакуль нікім не названы.

### НЕЧАКАНАСЦЬ ТЫДНЯ

Прэзідэнт ЗША Біл Клінтан даслаў Старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіславу Шушкевічу спецыяльнае пасланне. У ім прапанаваны шэраг буйнамаштабных крокаў адміністрацыі ЗША па садзейнічанні і дапамозе Беларусі ў гуманітарнай і тэхнічнай галінах, у справе канверсіі і сацыяльнага забеспячэння. Пасланне выклікана найперш паслядоўнымі крокамі Рэспублікі Беларусь да пераўтварэння краіны ў бяз'ядзерную зону, да сапраўднага нейтралітэту.

### СВЯТА ТЫДНЯ

75-я ўгодкі з дня ўтварэння БНР адзначаны ў рэспубліцы. Афіцыйна непрызнанае дзяржавай, падмурак якой быў закладзены якраз у тыя сакавіцкія дні, свята прайшло на дзяржаўным узроўні.

### ГАДАВІНА ТЫДНЯ

50 гадоў назад, 22 сакавіка 1943 года, была спалена разам з жыхарамі вёска Хатынь. Як было яшчэ раз пацверджана «Звяздзе», зрабілі гэта «галаварэзы батальёна спецпрызначэння СС, які камандаваў Дзірлівангер, сумесна з паліцэйскімі ахоўнага паліцэйскага батальёна N 118. Апошні быў сфарміраваны немцамі вясной 1942 года пад Кіевам у асноўным з дабравольцаў і ваеннапалонных украінцаў». Прыкра, аднак гэтую трагічную дату скарысталі ў сваіх мэтах неакамуністы. 22 сакавіка яны правялі шэсце і мітынг пад чырвонымі сцягамі (без жалобных чорных стужак), падчас якіх Хатынь згадвалася толькі ў сувязі з гнюснай хлуснёю, распаўсюджанай Партыяй камуністаў Беларусі ў сваіх лістоўках напярэдадні гадавіны хатынскай трагедыі. У іх сцвярджалася, што Хатынь спалілі беларускія нацыяналісты пад бел-чырвона-белым сцягам. Як і раней, у палітычнай барацьбе камуністы карыстаюцца прывычнымі сродкамі: фальсіфікацыяй, маной, паклёпам, спекуляцыяй на народным горы.

### ХАЎРУС ТЫДНЯ

18 палітычных і грамадскіх аб'яднанняў Беларусі стварылі адзіны блок левацэнтрысцкіх сіл, які назвалі Народным рухам Беларусі. У склад яго ўвайшлі сумна вядомыя ПКБ, КПБ, Славянскі сабор «Белая Русь», а таксама дэпутацкія фракцыі ў Вярхоўным Савеце «Беларусь» і «Саюз», ЛКСМБ, Саюз афіцэраў, суполка «Палессе», ветэранскія і іншыя арганізацыі. Свой сапраўдны твар паказала, нарэшце, дэпутацкае аб'яднанне «Беларусь», якое стала на адкрытую падтрымку пракамуністычных і праімперскіх сіл. Тое, што схаўрусаваліся між сабою левыя сілы з рознымі палітычнымі платформамі, прымушае сёння задумацца дэмакратаў, адзінства якіх напярэдадні З'езда беларусаў свету моцна падарвана.

### СЮРПРЫЗ ТЫДНЯ

Пасол ЗША ў Беларусі Дэвід Суорц набыў сабе міні-трактар Мінскага трактарнага завода. Журналісты доўга дапытваліся пра кошт пакупкі, аднак так і не даведаліся яго. Нічога дзіўнага — на Захадзе за такую рэкламу падобным пакупнікам яшчэ і плацяць.

### КУР'ЁЗ ТЫДНЯ

Польшча і Расія дамовіліся пабудаваць да 1997 года газапровад. Наколькі нам вядома з геаграфіі, Польшча і Расія між сабою не мяжуюць (Калінінградскую вобласць у дадзеным выпадку ўлічваць нельга), аднак пра ўдзел у дагаворы нейкай трэцяй краіны (Беларусі, Украіны, Летувы...), праз якую пройдзе газапровад, нічога не гаворыцца. З намі зноў не лічацца нашыя «вялікія» суседзі? Ёсць нагода паказаць характар.

## З НАГОДЫ

# «ЗНОЎ ПАЎСТАЛА ПАГРОЗА СУВЕРЭНІТЭТУ»

19 сакавіка ў Доме літаратара адбылася Навуковая Акадэмія, прысвечаная 75-м угодкам Беларускай Народнай Рэспублікі. У ёй бралі ўдзел навукоўцы Беларусі, а таксама іхнія калегі з блізкага замежжа (Расія, Польшча). Да нядаўняга часу гісторыя БНР, увогуле нацыянальна-вызваленчая барацьба беларусаў супраць маскоўскага, польскага і германскага імперыялізму была ў свядомасці нашага народа суцэльнай «белай плямай». Ды і зараз нямала тых, хто наіўна лічыць пачаткам беларускай дзяржаўнасці кнорынска-мяснікоўскую БССР. Нібыта не было Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў («Літвы» і «Кароны») і, нарэшце, спадкаемцы, гістарычнай пераемніцы гэтых дзяржаўных утварэнняў — Беларускай Народнай Рэспублікі.

У дзень Акадэміі ў Доме літаратара сабраліся аднадумцы, людзі ў гісторыі дасведчаныя, але і для іх, як мне здаецца, гэта была добрая магчымасць паглыбіць свае веды. Здзіўляе і выклікае захапленне: як многа паспеў зрабіць урад БНР у галіне дзяржаўнага будаўніцтва, міжнароднай палітыкі, вайсковай справы, у галіне культуры і асветы за кароткі час існавання рэспублікі. Сённяшні Вярхоўны Савет і ўрад Рэспублікі Беларусь маглі б павучыцца патрыятызму і працаздольнасці ў сваіх папярэднікаў, што ў сакавіку 1918 года абвясцілі незалежнасць Беларусі.

На пачатку Акадэміі прагучала фанаграма выступлення Міхася Ткачова на святкаванні 73-х угодкаў БНР. Так была ўшанавана памяць выдатнага навукоўца і палітычнага дзеяча. Потым прагучаў гімн «Магутны Божа». Першым сярод выступоўцаў быў У.Конан са сваім дакладам «БНР у кантэксце гісторыі: духоўны і геапалітычны сэнс беларускай ідэі» (у асноўным ён надрукаваны ў папярэднім нумары «ЛіМа»). Наступным слова атрымаў гісторык І.Саверчанка («Аднаўленне дзяржаўнасці: пошукі гістарычнага грунту»). Ён адзначыў, што беларусам на працягу апошніх стагоддзяў даводзілася супрацьстаяць агрэсіўным суседзям і даводзіць усяму свету, што яны, беларусы — не частка суседніх этнасаў, а народ самастойны; народ, які жыве на сваёй уласнай этнічнай тэрыторыі. На зямлі, якая належыць яму паводле гістарычнага права.

Тое ж датычыцца пытання беларускай дзяржаўнасці. Падабаецца гэта ці не падабаецца нашым суседзям, але беларусы мелі сваю дзяржаву заўжды. Болей таго, Полацкае княства было першай у Еўропе рэспублікай: пэўны час на чале Полацкай дзяржавы замест традыцыйнага для сярэдняевечча князя стаяла рада ў складзе 30 абраных народам старшынь.

У дакладзе С.Рудовіч «Праблемы беларускай дзяржаўнасці ў грамадска-палітычнай думцы Беларусі ў 1917 - пачатку 1918 г.» разглядаліся падзеі напярэдадні абвяшчэння незалежнасці Беларусі. Галоўная выснова навукоўца: адасабленне Беларусі ад агульнарасійскага хаосу было гістарычнай неабходнасцю.

Міжнародна-палітычны аспект 25 сакавіка быў грунтоўна асветлены ў выступленні Я.Юхо. Некаторы час беларускія патрыёты, зыходзячы з палітычных рэалій, арыентаваліся на аўтаномію (досыць шырокую) у межах Расійскай дзяржавы. Але пасля таго, як Расія фактычна здрадзіла Беларусі, разам з немцамі раздзяліўшы яе на тры часткі (на землях Гарадзеншчыны і Віленшчыны стваралася так званая «Новая Усходняя Прусія», частка беларускіх земляў трапляла пад «часовую» германскую акупацыю, якая ў перспектыве мелася стаць вечнай, а рэшткі нашай зямлі адыходзілі да РСФСР у якасці звычайнай губерні), беларускія патрыёты былі вымушаны абвясціць аб незалежнасці сваёй Радзімы, гэтым самым кінуўшы выклік захопнікам з Захаду і Ўсходу.

Цікавыя звесткі аб беларуска-летувіскіх дачыненнях у 1918—1922 гадах былі ў дакладзе А.Грыцкевіча. Навуковец апавядаў аб удзеле беларускіх войск у барацьбе за незалежнасць Летувіскай Рэспублікі (беларускія аддзелы ў Летувіскім войску існавалі да 1923 года), аб палітычных кантактах урадаў БНР і Летувіскай Рэспублікі.

## ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК

# ДЗЯРЖАВА ЁСЦЬ. ЯКАЯ?

Нечарговая сесія беларускага парламента па традыцыі пачала сваю работу са спрэчак і ўзаемных абвінавачванняў.

І, як гэта ўжо было неаднойчы, на адны прапановы, што гучалі ад мікрафонаў, прэзідыум і старшыня парламента спадар С.Шушкевіч адгукаліся адразу, на другія... рабілі выгляд, што іх не чуюць. Так было з вельмі, на наш погляд, слушнай прапановай народнага дэпутата Алега Трусава (парламенцкая фракцыя Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады) выступіць Вярхоўнаму Савету Беларусі з заявай у падтрымку прэзідэнта Расіі Б.Ельцына, яе дэмакратычных сіл, як гэта ўжо зрабілі прыбалтыйскія і некаторыя краіны СНД. Адказу на сваю прапанову А.Трусаў не атрымаў, як і яго калега па фракцыі М.Крыжаноўскі, які таксама выказаўся на карысць такой заявы.

Не на жарт усхадзіліся дэпутаты пры абмеркаванні парадку дня сесіі. Да асноўных пытанняў, звязаных з удасканаленнем дзеючага ў рэспубліцы заканадаўства, асобныя дэпутаты і дэпутацкія групы паспрабавалі далучыць пытанні, здаецца, і надзённыя, але ў дадзеным выпадку другарадныя.

Так, дэпутаты Я.Цумарау і А.Трусаў прапанавалі ўнесці на разгляд сесіі законапраект «Аб друку». Як журналіст, я перакананы, што пытанне гэта даўно наспела, але як грамадзянін павінен быў пагадзіцца з тым, што абмеркаванне гэтага законапраекта павінна быць адкладзена.

На абмеркаванні надзвычай «блізкага» да прапанаванага парадку дня сесіі пытання настойваў Я.Новікаў. Ён меў на ўвазе законапраект аб барацьбе з карупцыяй і арганізаванай злачыннасцю. На што старшыня камісіі М.Грыб заявіў, што гатовы хоць сёння разглядаць гэты закон, які ўжо прыняты ў першым чытанні, але ён па плану будзе абмяркоўвацца на чарговай сесіі ў маі.

Многія дэпутаты заклікалі разглядаць у першую чаргу эканамічныя праблемы. У зале нават прысутнічала група «лабістаў» — дырэктароў мінскіх прадпрыемстваў, якія хацелі выступіць перад парламентам з доказамі неабходнасці стварэння эканамічнага саюза ў рамках СНД, падтрымаўшы гэтым самым Старшыню Саўміна рэспублікі В.Кебіча. А прапановы, прытым зробленыя на нервовай ноце, заслухаць старшынь урада і парламента тут гучалі. З.Пазняк нават узняў пытанне аб даверы прэм'ер-міністру ў сувязі з яго нядаўнім выступленнем перад кіраўнікамі выканкомаў мясцовых Саветаў. На думку Зянона Станіслававіча, у выступленні былі выкладзены думкі, якія супярэчылі дзяржаўнай палітыцы суверэннай краіны.

У выніку шматлікіх галасаванняў парадак дня сесіі быў зацверджаны. У ім засталіся наступныя пытанні: «Аб грамадзянскім кодэксе», «Аб праекце крымінальнага кодэкса», «Аб адвакатуры». Таксама, як і пытанне «Аб Канстытуцыйным судзе РБ», хоць многія дэпутаты, у тым ліку Генеральны пракурор В.Шаладонаў, даказвалі, што пакуль не прынята новая Канстытуцыя, гэты праект прымаць зарана.

Вялікія спрэчкі выклікаў законапраект «Аб следчым камітэце». Скончыліся яны на карысць «скептыкаў», праект быў выключаны з абмеркавання.

Эканамічная частка парадку дня ўвасобілася ў пытанні аб стане і развіцці эканамічных адносін з краінамі СНД.

Канец дзённага пасяджэння сесіі быў гарачы. Дэпутат В.Голубеў абвінаваціў С.Шушкевіча ў парушэнні рэгламенту. Станіслаў Станіслававіч пераадрасаваў абвінавачванне аўтару. Затым па пытанні валютных аперацый дзяржавы з С.Шушкевічам пачаў пікіравацца З.Пазняк.

Вячэрняе пасяджэнне пачалося з разгляду праекта Грамадзянскага кодэкса Рэспублікі Беларусь. Праект прадстаўлялі намеснік міністра юстыцыі РБ В.Падгруша і старшыня камісіі Вярхоўнага Савета Д.Булахаў.

Пасля гэтага ўвазе дэпутатаў быў прадстаўлены праект Крымінальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь.

**НАШ КАР.**

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫІ

# МАЛАДЫМ У НАС ДАРОГА?

Чарговую спробу накіраваць раз'яднаную пакуль што энергію нашай моладзі ў рэчышча дзяржаўнай палітыкі прадпрыняў урад рэспублікі. Прэзідыум Савета Міністраў Беларусі прыняў праграму дзяржаўнай маладзёжнай палітыкі на 1993 — 1994 гады. Яна, па-першае, прадугледжвае стварэнне арганізацыйных структур па справах моладзі ў выканкомах Саветаў усіх узроўняў. Па-другое, стваральнікі праграмы за аснову ўзялі прынцып, пры якім дапамога моладзі не павінна абмяжоўвацца нейкай матэрыяльнай падачкай.

Самы аб'ёмны раздзел праграмы прысвечаны пытанням забеспячэння эканамічнай самастойнасці і матэрыяльнай падтрымкі моладзі.

Прыемна бачыць, што ў наш час татальнай дэвальвацыі духоўных каштоўнасцяў праграма ўтрымлівае асобны раздзел, які прысвечаны рэалізацыі культурных і духоўных патрэб моладзі, стварэнню ўмоў для развіцця здаровага ладу жыцця маладога чалавека, павышэння яго адукацыйнага ўзроўню.

Як паведаміў на прэс-канферэнцыі старшыня камітэта па справах моладзі пры СМ РБ Міхаіл Падгайны, пры падрыхтоўцы праграма на розных этапах была абмеркавана членамі падкамісіі па справах моладзі Вярхоўнага Савета Беларусі, на нацыянальнай радзе маладзёжных грамадскіх аб'яднанняў, узгоднена з усімі аблвыканкомамі і Мінскім гарвыканкомам, 24 міністэрствамі і дзяржкамітэтамі.

**Я.Л.**

Афіцыйныя стасункі БНР—Летува скончыліся пасля Рыжскай змовы (1921 г.), калі Беларуская дзяржава была падзелена паміж бальшавікамі і пілсудчыкамі.

На думку А.Грыцкевіча, летувісам на тым гістарычным этапе пашчасціла болей, чым нам, а стасункі паміж Беларуссю і Летувой маглі быць больш плённымі, калі б Летувіская Рэспубліка не прадэманстравала тыповы палітычны эгаізм.

У сувязі з выступленнем А.Грыцкевіча з залы прагучала прапанова, каб не блытаць гістарычную Літву і сучасную Летуву, карыстацца тэрмінамі «Жмудзь», «жмудзіны», «Жмуцкая Рэспубліка».

В.Мазец у дакладзе «Дзяржаўна-культурнае будаўніцтва Беларусі: год 1918» адзначыў, што так званая «беларусізацыя» ў БССР 20-х гадоў, пэўныя поспехі культурнага будаўніцтва ў Савецкай Беларусі былі б немагчымымі без грунту, закладзенага палітыкай урада БНР у галіне школьніцтва, культурна-асветнай і выдавецкай дзейнасці. Дарэчы, менавіта ўрад БНР першым паставіў пытанне аб вяртанні беларускаму народу яго культурна-гістарычных каштоўнасцей, нарабаваных суседзямі.

Ю.Туронак разгледзеў пытанне дзяржаўнасці Беларусі ў гады Другой сусветнай вайны. Ён падкрэсліў, што менавіта бальшавіцкі тэрор прымусіў беларускіх палітыкаў арыентавацца на Германію, як рэальную сілу, пры гэтым цудоўна разумеючы, што сабою ўяўляе Гітлер, як асоба, і германскі імперыялізм, як з'ява. Яны разважалі: альбо Германія, каб замацавацца на заваяваных тэрыторыях, будзе вымушана з часам адрадзіць на гэтых землях нацыянальную дзяржаўнасць, у прыватнасці, дзяржаўнасць беларускую — альбо камунізм і фашызм будуць узаемнаасабленыя, і лёс Еўропы будуць вырашаць заходнія саюзнікі, што таксама дае для Беларусі пэўны шанц.

Т.Процька ў паведамленні «Берлінская драма. Акцёры і рэжысёры» прапанавала досыць асцярожна ставіцца да тэзіса бальшавіцкай прапаганды аб нібыта самароспуску ўрада БНР і перадачы ім паўнамоцтваў ураду БССР, бо тут сыграла сваю ролю ГПУ. Можа, правільней гаварыць аб прыватнай ініцыятыве асобных палітычных дзеячаў? І яшчэ: калі ўрад БССР — пераемнік урада БНР, дык чаго ж ён сёння дамагаецца, каб беларуская эміграцыя прызнала ягоную легітымнасць?

Дыпламатычнай дзейнасці БНР быў прысвечаны даклад Р.Лобава, лёсу архіваў БНР — паведамленне Г.Сурмач, архіўным матэрыялам БНР у Вільні — выступленне Я.Янушкевіча.

Ці не галоўным на Акадэміі стала непрадугледжанае праграмай выступленне З.Пазняка. Лідэр БНФ гаварыў аб сувязі з сённяшнім днём падзей 75-гадовай даўніны. «Мы святкуем 75-я ўгодкі БНР, калі паўстала рэальная пагроза нашаму суверэнітэту», — адзначыў ён. Гэта пагроза зыходзіць ад імперскай Расіі і камуністычных, антыбеларускіх урада і Вярхоўнага Савета Беларусі. Заяву Кебіча аб ваенна-палітычным саюзе Беларусі з Расіяй З.Пазняк класіфікаваў, як дзяржаўную здраду. Беларусь — нейтральная бяз'ядзерная дзяржава. Так запісана ў нашай Канстытуцыі.

Тое, што народ маўчыць (пакуль), не азначае, што народ згодны. Пытанне рэферэндуму аб даверы Вярхоўнаму Савету РБ, пытанне аб легітымнасці ўрада і Вярхоўнага Савета паўстае зноў, — скончыў сваю прамову З.Пазняк.

**П.ВАСІЛЕЎСКІ**

# ПАШТОЎЦЫ — 44 ГАДЫ




**Для мяне Дзень 25 сакавіка — самае вялікае свята, а тым больш сёлета, калі спаўняецца 75 гадоў з дня абвяшчэння незалежнасці нашай Беларусі.**

**Адразу скажу, што ніхто і ніякія сілы не змогуць цяпер выкрасліць і выкінуць з усіх календароў і сэрцаў беларусаў гэты Дзень. Ён адзначаўся ўчора, ён будзе святкавацца і сёння, а таксама заўтра нашымі дзецьмі і ўнукамі. Гэта, сапраўды, залаты радок у нашай гісторыі.**

**У маім хатнім архіве захоўваюцца некалькі экземпляраў вось гэтай паштоўкі. Яна была выдадзена аж у 1949 годзе ў Германіі беларусам Янам Пятроўскім, які зараз жыве ў Амерыцы. Арыгінальнае выданне, ці не праўда? А што на ім напісана — гэта віншаванне ўсім беларусам!**

**Сяргей ЧЫГРЫН**

*г.Слонім*

## НАПЯРЭДАДНІ ПАДЗЕІ

# СПЕКТАКЛЬ, ЯШЧЭ СПЕКТАКЛЬ!

27 сакавіка — Міжнародны дзень тэатра, свята, якое шануецца тымі, хто верай і праўдай слугуе Мельпамене, і якім яны шчодра дзеляцца з прыхільнікамі свайго таленту.

У гэты дзень у Віцебску, на акадэмічнай коласаўскай сцэне стартуе тэатральны марафон. Дваццаць чатыры гадзіны запар будзе працаваць тэатр, больш за два дзесяткі творчых калектываў прымуць удзел у гэтым «нон-стопе». Арганізатары падрыхтавалі нямала сюрпрызаў, дзеля якіх варта прыйсці ў тэатр і — застацца ў ім на суткі.

А «звышзадачай» гэтай тэатральнай акцыі з'яўляецца збор сродкаў на аднаўленне Старога Віцебска.

На шчасце, у Віцебску яшчэ ёсць што аднаўляць. Справа за тымі, хто можа і хоча нешта зрабіць дзеля гэтага. Спадзеючыся, што ідэя тэатральнага марафона прывабіць многіх, паведамляем: рахунак Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа N 000601902 МФО 150801701 у Віцкамбанку («На аднаўленне Старога Віцебска»).

# КУДЫ КЛІЧА ЗДАНЬ,

## або ЧАМУ НЕ ПРЫЙШОЎ ТАВАРЫШ ЧЫКІН

Камуністычную газету «Мы и время» я праглядаю ад выпадку да выпадку, і аднойчы, мо і нечакана, з'явілася думка сустрэцца з яе рэдактарам, сустаршынёй палітвыканкома партыі камуністаў Беларусі Віктарам Валянцінавічам Чыкіным, каб зрабіць матэрыял для нашай рубрыкі «Лімаўскія дыялогі». Я патэлефанаваў яму і з задавальненнем пачуў, што мой тэлефонны візаві таксама не супраць гэтай ідэі. Дамовіліся сустрэцца назаўтра роўна ў 14.30 у рэдакцыі «ЛіМа». «Хай гэта адбудзецца на вашай тэрыторыі», — выказаў пажаданне таварыш Чыкін. «На нашай, дык на нашай», — пагадзіўся я.

Але ў прызначаны тэрмін В.Чыкін не прыйшоў. Праўда, быў тэлефонны званок з яго рэдакцыі, і нечый мужчынскі голас ветліва папярэдзіў, што Віктара Валянцінавіча няма ў Мінску, будзе праз два дні і сам пазвоніць, каб зноў дамовіцца аб сустрэчы. Праз два дні, гэта была акурат пятніца, Чыкін не пазваніў, хоць у горадзе быў, пра што мне паведаміла супрацоўніца «МиВа». Не было ад Віктара Валянцінавіча званкоў і ўвесь наступны тыдзень, хоць з яго рэдакцыі мне адказвалі, што «ён недзе ў горадзе...»

Стала відавочна, што Чыкін на сустрэчу не прыйдзе, хоць, я ведаў, ён старанна падтрымлівае сваё рэнаме ідэолага партыі, які гатовы ў любы момант увязацца ў бойку з яе апанентамі.

Яшчэ больш відавочна гэта стала пасля таго, калі неўзабаве выйшаў чарговы нумар «Мы и время», у якім адзін з артыкулаў быў прысвечаны «ЛіМу». Каб ахарактарызаваць гэту публікацыю ў двух словах, скажу, што ў мяне яна выклікала асацыяцыю з так званым залпавым выкідам нечыстот. Відаць, В.Чыкін гэтым артыкулам «выплеснуўся» да дна, выкарыстаўшы ўсе аргументы, прыгатаваныя для дыялога з прадстаўніком «ЛіМа». І таму не прыйшоў...

Што тычыцца мяне, дык жаданне паразважаць аб некаторых аспектах дзейнасці беларускіх камуністаў не толькі не праходзіла, але нават узмацнілася. Падумалася: а ці так ужо неабходна для гэтай мэты бачыць перад сабой Віктара Валянцінавіча Чыкіна? У рэшце рэшт, палітычная пазіцыя камуністаў, іх стратэгія і тактыка паслядоўна выкладзены на старонках «Мы и время». Трэба толькі ўявіць, што тэксты «МиВа» агучаны голасам Чыкіна, і атрымаецца своеасаблівы дыялог.

Я б пачаў яго мо з нечаканай для таварыша Чыкіна тэмы — візіту дэлегацыі Партыі камуністаў Беларусі ў КНДР па запрашэнні ЦК Працоўнай партыі Карэі. Паведамленне пра гэта ў выглядзе «Сумеснай заявы Партыі камуністаў Беларусі і Працоўнай партыі Карэі», падпісанай адразу трыма сустаршынямі ПКБ В.Чыкіным, В.Сямёнавым, А.Лашкевічам і кандыдатам у члены палітбюро ЦК ППК, сакратаром ЦК ППК Цой Тхэ Бокам, змешчана на самым відным месцы шостага нумара «Мы и время».

Чытаў заяву, ад пачатку да канца напоўненую ўжо напаўзабытай камуністычнай рыторыкай, накшталт — «Партия коммунистов Беларуси и Трудовая партия Кореи и впредь будут выступать против политики кабалы и господства, агрессии и войны, тесно сотрудничать и поддерживать друг друга в интересах мира, демократии и социализма, во имя свободы и процветания всех народов», і думаў, што больш скампраметаваць сябе, чым пабратаўшыся з адыёзнейшым дыктатарскім рэжымам, цяжка было. Мне ўспомніўся расказ журналісткі часопіса «Ветразь» Святланы Шыдлоўскай аб днях, праведзеных на сусветным фестывалі моладзі і студэнтаў у КНДР у 1989 годзе. Ёй, маладой жанчыне, што нарадзілася ў пасляплінскія гады, было дзіка бачыць на кожным кроку каменныя ідалы-статуі «вялікага правадыра» Кім Ір Сена, яго вялізныя партрэты, сутыкацца з агентамі тайнай паліцыі, якія не таячыся хадзілі за дэлегатамі фестывалю, заўважаць сляды пастаянных «шмонаў» у гасцінічных нумарах, дзе жылі госці. І галоўнае, штодня бачыць запалоханы, замардаваны, ашуканы народ, загнаны яго правіцелямі ў «сацыялістычную» казарму.

Я ўсё думаў, хто тут першы каго ўгледзеў — нашы дамарослыя камуністы карэйцаў ці наадварот? А потым прыйшоў да высновы: відаць, усё-такі карэйскія таварышы першымі звярнулі ўвагу на беларускіх аднадумцаў. І хоць не маглі не ведаць, што тыя на Беларусі не маюць ніякай улады і больш-менш трывалай палітычнай вагі, усё роўна вырашылі запрасіць іх да сябе, вядома ж, аплаціўшы ўсе выдаткі. Тлумачыцца гэта проста — пры міжнароднай ізаляцыі, у якой апынулася КНДР з-за сваіх пастаянных парушэнняў Статута ААН, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, там справядліва вырашылі, што на бязрыб'і і рак рыба, тым больш, што той «рак» гучна дэкларуе сябе, як прававернага камуніста.

Мяркуючы па «Сумеснай заяве», беларускім гасцям вельмі спадабалася ў КНДР, дзе «под руководством Трудовой партии Кореи во главе с товарищами Ким Ир Сеном и Ким Чен Иром корейский народ, энергично осуществляя три революции — идеологическую, техническую и культурную, добился больших успехов и прогресса в строительстве социализма, служащего интересам народных масс». З такімі высновамі вярнулася на радзіму дэлегацыя беларускіх камуністаў. Што нам цяпер ад вас, Віктар Валянцінавіч, чакаць? Мо трох рэвалюцый па карэйскім узоры? Сваіх было мала? А мо вы, таварыш Чыкін, ужо пацІху, так бы мовіць, праецыруеце на сябе вобраз «вялікага і мудрага» Кім Ір Сена? Ці занадта для вас? «Вялікі і мудры» — гэтыя эпітэты, мабыць, больш падыходзяць паважанаму лідэру КПБ таварышу Малафееву. А вы, Віктар Валянцінавіч, маглі б стаць проста «любімым кіраўніком», як у КНДР афіцыйна называюць сына дыктатара Кім Чэн Іра?

Я ведаю, таварыш Чыкін, вы маеце слабасць да тэарэтызавання на ніве марксісцка-ленінскага вучэння. Помню ваш удзел у лімаўскім «круглым стале», калі вы зацята спрачаліся з прадстаўнікамі некаторых дэмакратычных суполак рэспублікі, якія таксама прымалі ўдзел у дыскусіі. Мне тады падалося, што ваша аргументацыя была слабейшая за аргументацыю вашых апанентаў. Мо таму, што вы вырашылі пусціць у «навуковы» зварот фармулёўкі, завучаныя, мабыць, яшчэ са студэнцкай пары на лекцыях па марксізме-ленінізме. Дальбог, няёмка было слухаць вашы развагі аб эксплуатацыі і прыгнечанні працоўнага люду ў краінах капіталу, аб абвастрэнні там класавай барацьбы, уздыме рэвалюцыйнага руху і іншыя, кажучы па-руску, «благоглупости». І, у той жа час, вы нічога не маглі запярэчыць аднаму з прысутных, які заўважыў, што камуністы ў поўнай меры нясуць адказнасць за знішчэнне грамадскай маралі. Мабыць, упершыню ў гісторыі палітычная партыя адкрыта заявіла, што яна стаіць над чалавечай мараллю, якая з'яўляецца буржуазнай выдумкай. «Маральна толькі тое, што карысна для рэвалюцыі», — гаварыў Ленін. На пачатку трыццатых гадоў нешта падобнае скажа, звяртаючыся да немцаў, Гітлер: «Я вызвалю вас ад хімеры, якая называецца сумленнем. Сумленна ўсё тое, што карысна для ідэі нацыянал-сацыялізму».

Размова за «круглым сталом», пра які я нагадаў, адбывалася яшчэ да жнівеньскіх падзей 1991 года. Але ўжо моцна дзьмулі перабудовачныя ветры, руйнаваліся камуністычныя рэжымы, усталяваныя пасля вайны Сталіным у краінах Усходняй Еўропы. Я тады слухаў вас, і думаў: няўжо вы не разумееце, што камуністычная сістэма беззваротна канае? А мо разумееце, ды не хочаце сабе прызнацца ў гэтым? Я ведаў аднаго першага сакратара райкома партыі, які ў кампаніі, пад чаркай, вельмі любіў расказваць антысавецкія анекдоты. Не дурны ад прыроды, ён разумеў, у якім царстве крывых люстэрак жыве, але гэта была сістэма, якая карміла і паіла яго, і іншага жыцця для сябе ён не ўяўляў.

Помню, Віктар Валянцінавіч, ваша радыёінтэрв'ю неўзабаве пасля паражэння крамлёўскіх змоўшчыкаў; спыненне дзейнасці КПБ-КПСС. Карэспандэнтка спытала, якой прафесіяй вы валодаеце, і, пачуўшы, што тэхнічнай, пацікавілася, ці збіраецеся цяпер, калі партыі няма, пайсці працаваць па спецыяльнасці. Помню ваш разгублены адказ, што зрабіць гэта будзе няпроста, бо за гады партыйнай работы страцілі працоўныя навыкі.

Вам пашанцавала. Неўзабаве абставіны ў грамадстве склаліся так, што вам не давялося шукаць працу недзе ў заводскім цэху. Дзякуючы дэмакратычным нормам, якія ўсталяваліся ў рэспубліцы, нормам, да якіх вы, дарэчы, ставіцеся з пагардай, учарашняя партакратыя набыла магчымасць аднавіць камуністычную партыю. А калі папраўдзе, дык уваскрашаць, ажыўляць тое, што аджыло і выкінута на сметнік гісторыі.

Шчыра кажучы, я асабіста доўга не мог уцяміць, як магла з такой хуткасцю разваліцца партыя, якая валодала ўсёй заканадаўчай, выканаўчай і судовай уладай у краіне, мела самую магутную ў свеце тайную паліцыю, самыя вялікія ўзброеныя сілы.

Вы і вашы аднадумцы на Беларусі, у Маскве, іншых рэгіёнах былога Савецкага Саюза асноўную віну за гэта ўскладаеце на Гарбачова, які, маўляў, дзейнічаў па заданні імперыялістычных разведак. І ўсё-такі за гэтымі сцвярджэннямі, выказанымі на сотнях камуністычных мітынгаў, на старонках камуністычнай прэсы, я адчуваю нейкую няпэўнасць, разгубленасць іх аўтараў. Бо не можаце ж вы не бачыць усёй нелагічнасці падобных тлумачэнняў. Што гэта, скажыце, была за партыя, краіна, якія змог разваліць адзін, ці хай некалькі чалавек — звычайна называюць Гарбачова, Якаўлева, Шэварднадзе, Ельцына і яшчэ некаторых асоб?

Думаю, Віктар Валянцінавіч, гэтыя «тэарэтычныя» пытанні не даюць спакою і вам. І таму, упэўнены, невыпадковай з'яўляецца публікацыя ў некалькіх нумарах «Мы и время» артыкула былога буйнога партфункцыянера ЦК КПСС В.Легастаева «Технология измены (к политической судьбе КПСС в 80-е годы)».

Пры ўсёй сваёй настальгіі па былой «велічы» партыі аўтар змушаны прыводзіць факты, якія хоча ён гэтага ці не, сведчаць пра няспынны гангрэнападобны працэс, што дзесяцігоддзямі няўмольна раз'ядаў КПСС. «У 1988 годзе, — піша Легастаеў, — у КПСС здалі партыйныя білеты і кандыдацкія карткі 18 тысяч членаў партыі, што амаль у пяць разоў перавышала аналагічны паказчык 1985 года. Больш паловы тых, хто выйшаў з партыі, склалі рабочыя. Рэзка скараціўся прыток у партыю новых сіл. Кандыдатамі ў члены партыі ў 1988 годзе сталі каля 440 тысяч чалавек, што было на 25 працэнтаў менш, чым у 1987 годзе. А наогул колькасць жадаючых уступіць у кампартыю скарацілася ў 1988 годзе, годзе XIX партканферэнцыі ў параўнанні з двума папярэднімі гадамі ў дзесяць разоў».

*(Працяг на стар. 12)*

# Добры дзень, Беларусь!



У тваіх лясох не расьцьвілі яшчэ кветкі.
Але подых пралесак так дзіўна хвалюе ўжо
і нясе запаветную вестку,
што жыцьцё паўтарыцца наноў.
Вясна й сьвята будзяць сэрцы нашыя.

25 сакавіка – 75 гадоў
з Дня абвешчаньня
Беларускае Народнае Рэспублікі.
Пачатак шляху, і людзі,
прыгожыя душою, – беларусы...

З чыстай далі вясновага неба
ўспамінам яны вяртаюцца зноў на Радзіму.
Не прапалі дарэмна іх праца й надзея...
Лунае бел-чырвона-белы сьцяг!
А шлях якім нялёгкім быў... і ёсьць.

Ды ўсё ж пойдзем далей,
усьвядоміўшы ўсёй грамадою
сьвятасьць справы свайго Адраджэньня!
Каб дачакаўся край наш той вясны,
калі яго і вольным, і шчасьлівым назавуць!

*На перадачы Беларускага тэлебачання сёння наракаюць шмат — прынамсі, пішуць пра гэта і чытачы «ЛіМа». У іншых выданнях выступаюць тэарэтыкі журналістыкі з развагамі наконт эстэтычнай недасканаласці праграмы БТ, непрафесіяналізму кадраў, убоства мовы вядучых праграм... і г.д. і да т.п. Ды апошнім часам глядач мог заўважыць якія-ніякія змены і ў тэлебачанні, перавод БТ на першы канал вяшчання, напрыклад, мадэрнізацыю інфармацыйных перадач (сюжэты з праграм «Сі-Эн-Эн», выпускі навін Бі-Бі-Сі на беларускай мове і інш.). Адчувальна, што ўнутры тэлебачання адбываюцца складаныя ўнутраныя працэсы, што змены да лепшага даюцца не так проста і не так хутка, як таго жадаў бы масавы глядач. Чым жыве зараз Беларускае тэлебачанне, якія праблемы вырашае, чаго чакаць ад яго гледачам? Падобныя пытанні закранаюцца ў гэтай гутарцы. Варта адзначыць, што першы намеснік старшыні Нацыянальнай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі Павел Шаўчук да прызначэння на пасаду працаваў як сцэнарыст і рэжысёр, зрабіў не адзін фільм, сярод якіх відэафільм «Генерал Парыжскай камуны» пра В.Урублеўскага і паўстанне 1863 г., фільмы пра чарнобыльскую катастрофу: «Дапамажыце!», «Чорная быль Беларусі» (на БТ не дэманстраваўся), «Падарожжа ў пекла», «Апакаліпсіс» і іншыя.*

# «ЦЯЖКА САПЕРНІЧАЦЬ З АСТАНКІНА...»

**АКТУАЛЬНАЕ ІНТЭРВ'Ю**



## На пытанні карэспандэнта «ЛіМа» адказвае першы намеснік старшыні Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі Павел ШАЎЧУК

**— Павел Антонавіч, асноўная сёння прэтэнзія да Беларускага тэлебачання — гэта яго прафесійнае, творчае адставанне ад «Астанкіна» і Расійскага тэлебачання. Няўжо мы сапраўды няздольныя канкурыраваць з гэтымі каналамі?**

— Нам вельмі цяжка канкурыраваць з «Астанкіна» і расійскай ТРК. Тыя сродкі, якія даюцца ім і якія нам, тая тэхніка, якая ёсць у іх і якая ў нас, — ні ў якое параўнанне не ідуць. Беларускае тэлебачанне па аснашчэнні жыве горш, чым пэўныя абласныя тэлестудыі Расіі. Не ўсе разумеюць, што тэлебачанне — не толькі мазгі, але і сучасная тэхніка. І нашы, сталічныя, і журналісты абласных студый найбольш незадаволены тэхнічнай адсталасцю, немагчымасцю рэалізаваць як след творчыя задумы. Калі на адну гадзіну ўласнай тэлепрадукцыі адводзіцца дзве мінуты кінаплёнкі, — дык як можна патрабаваць сучаснай тэлежурналістыкі? Акрамя таго, дзяржава фінансуе толькі 5 гадзін перадач у дзень, астатні час запаўняй чым хочаш, ды бясплатна! Вось адкуль бяруцца розныя занудныя дакументальныя фільмікі брэжнеўскіх часоў — пра прыроду Казахстана і да т.п. Усе гэтыя фільмы, натуральна, рускамоўныя, таму што пры СССР прадукцыя «Тэлефільма» ўсіх рэспублік павінна была выпускацца толькі на рускай мове, каб яна свабодна магла цыркуляваць па СССР. Таму і няма ані дакументальных, ані мастацкіх тэлефільмаў на беларускай мове.

**— А чытачоў «ЛіМа» якраз і цікавіць, калі па БТ можна будзе глядзець беларускія мастацкія фільмы...**

— Мабыць, ніколі... Даруйце мой песімізм, але хоць галавой бія аб сцяну, а грошай на мастацкі фільм не атрымаем, бо сёння гэта ўжо мільярды рублёў. Раней Дзяржтэлерадыё СССР рабіла заказы «Беларусьфільму». Сёння і над «Беларусьфільмам» павісла беспрацоўе. А Беларускае тэлебачанне ніколі не было г.зв. «фильмопроизводящей организацией». Гэта значыць, што калі мы хацелі што-небудзь зняць кароткаметражнае, то ішлі на «Беларусьфільм», плацілі за тэхніку і працавалі.

Прасцей было з тэлеспектаклямі. Але ж ізноў не дужа разгонішся — толькі тры тэатры ў рэспубліцы беларускамоўныя. Практычна ўсе свае спектаклі, якія пажадалі гэтыя тэатры нам прадаць, мы купілі і паказалі тэлегледачам. Ды сцэнічны варыянт спектакля — не лепшае тэлевідовішча. Акцёр звяртаецца да гледача, які сядзіць пасярод залы. А тэлекамера ўзбуйняе яго твар і тэлеглядач бачыць іншы эфект — перасціскание, фальш. Таму спектаклі абавязкова трэба адаптаваць для тэлебачання. А гэта іншыя дэкарацыі, іншы грым, іншае выкананне роляў.

Былі ўдалыя спробы стварэння сваіх тэлеспектакляў. Былі рэжысёры, як, напрыклад, А.Гутковіч, які праз завалы самых розных перашкод (ад тэхнічных да творчых) дамагаўся і ставіў тэлевізійныя спектаклі. Старэйшае пакаленне рэжысёраў адышло, а новае не вельмі імкнецца да гэтай складанай справы. Ды і няма чым заахвочваць рэжысёраў і акцёраў. Бо акцёрскія стаўкі ўзняліся, а ў нас да нядаўняга часу была магчымасць плаціць акцёру па 4 рублі 50 капеек... І ўсё ж трэба прыняць папрок тэлегледачоў. Бо маглі б зрабіць тэлевізійных мастацкіх твораў больш, чым зрабілі. Ніхто ў свеце, акрамя нас, не будзе экранізоўваць нашу беларускую літаратуру, развіваць тэледраматургію. Ёсць яскравы прыклад польскага тэлебачання — штотыдзень выходзіць прэм'ера тэлеспектакля. І большасць па класіцы польскай літаратуры. Палякі здолелі аб'яднаць намаганні розных дзяржаўных установаў, творчых арганізацый, і тэлетэатр выжыў нават пры пераходзе да рынку. Хаця ніколі не быў рэнтабельны. А ў нас спачатку моршчылі насы, маўляў, класіка наша беларуская горшая за расійскую ці англійскую... А на самай справе гэтай класікі і не чыталі, і не ведалі. Іх вучылі, што ў Маскве, што ў Мінску, на расійскай класіцы. І гэта ўвогуле не грэх — грэх, што свая нацыянальная самасвядомасць мастака не прачынаецца. Спадзяюся, што ўдасца разбудзіць, знайсці свядомых таленавітых творцаў, а потым і грошы на пастаноўкі.

**— Чаму замежныя фільмы (у студыі «Сінема», напрыклад) дубліруюцца не на беларускую мову?**

— Спадчына ў нас такая, што дубляжом увогуле Беларускае тэлебачанне не займалася. Усё замежнае ішло праз Маскву. З горам папалам наладзілі дубляж мультфільмаў для «Калыханкі». Дубліраваць мастацкія фільмы нам не пад сілу: няма ні кадраў, ні вопыту, ні сродкаў, ні адпаведнай тэхнікі.

Ёсць праблемы нават з самым простым пераагучваннем — чытаннем тэксту за кадрам. Колькі вы ведаеце на Беларусі перакладчыкаў з англійскай, французскай, нямецкай мовы на беларускую? Мы некалькіх знайшлі. І цяпер яны ўдасканальваюць веды... не, не замежнай мовы, а беларускай!

Пайшлі ў эфір выпускі дакументальных фільмаў «Падарожжы па Амерыцы» на беларускай мове, музычная перадача Эм-Ці-Ві. А мастацкія фільмы да нас трапляюць ужо пераагучаныя на рускую мову, таму пераагучваць іх яшчэ раз немагчыма. Мяркуем на прамых кантактах з замежнымі тэлекампаніямі (калі яны захочуць за рэкламны час аддаць нам свае фільмы) атрымліваць арыгінальныя копіі фільмаў і агучваць іх на беларускую мову. Гэта выпадзе нам у капеечку, але ж другога выхаду няма. Праз мастацкія фільмы на тэлебачанні народ наш хутчэй загаворыць па-беларуску. Асабліва дзеці.

**— Як вы паставіліся б да прапановы ўвогуле адключыць два маскоўскія каналы — улічваючы моўнае і асабліва інфармацыйнае засілле суседняй краіны?**

— Лічыў бы гэта нецывілізаваным падыходам, адгалоскам бальшавіцкіх прыёмаў барацьбы. Ад забароны не выйграе ніхто, ні гледачы, ні Нацыянальная тэлерадыёкампанія. Глядач страціць каналы інфармацыі, а мы канкурэнтаў. Тры праграмы запоўніць нам не будзе чым, бо нават адну не лепшым чынам запаўняем. Я разумею, што некаторыя маскоўскія перадачы не на карысць нашаму культурнаму і гістарычнаму Адраджэнню. Але ж не забаронамі трэба змагацца за гледача. Я вельмі хацеў бы, каб у гэтай сітуацыі адбылася кансалідацыя нацыянальна свядомай інтэлігенцыі вакол нацыянальнага тэлебачання. Нам патрэбны іхні разумовы патэнцыял, патрэбны яркія асобы, індывідуальнасці, якія ўмеюць пераконваць. Прывяду прыклад. У самы разгар кампаніі супраць бел-чырвона-белага сцяга і Пагоні, здаецца, гэта было ў 1988 г., я паехаў у Гародню і запісаў паўгадзінную перадачу з Міхасём Ткачовым пра гісторыю нашай нацыянальнай сімволікі. Пасля эфіру чакаў разносу, злых лістоў. Але нічога падобнага не здарылася. Значыць, Міхась Ткачоў здолеў у перадачы даказаць гледачу свой пункт гледжання. На жаль, такія людзі доўга не жывуць...

Мы маглі б пашырыць навучальнае вяшчанне, калі б далі згоду супрацоўнічаць з намі масцітыя аўтары, знакамітыя пісьменнікі. Вечнай перашкодай гэтаму былі нашы малыя ганарары. Але не толькі ў грашах прычына. Ёсць тут і чалавечы фактар. Я шчыра хацеў бы праз «ЛіМ» запрасіць творчую інтэлігенцыю да больш шырокага супрацоўніцтва.

**— А як з унутранымі сіламі самога тэлебачання, няўжо яны настолькі бездапаможныя?**

— На тэлебачанні і радыё працуе больш за тры тысячы чалавек. Але творчых работнікаў менш палавіны. Журналістаў увогуле крыху больш дзвюх соцень.

У злапамятныя часы пралетарскай дыктатуры склалася хітрая школа савецкай тэлежурналістыкі. Універсітэт гэтаму не вучыў, і толькі практыка набівання шышак усталёўвала ў мазгах журналіста спецыяльныя наборы правіл работы. Гэтыя правілы ніколі нідзе не запісваліся на паперы, а перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Напрыклад, «правадыр» любога рангу павінен на тэлебачанні выглядаць прыгожа. А калі ён на пудзіла падобны? Ну і што? Зрабі, каб быў прыгожы. Сталін быў без воспы, Хрушчоў — без барадавак, Гарбачоў — без плямы. На заводзе не павінна быць брудных сцен, на калгаснай ферме — гною. Хаты на вёсцы — толькі з прыгожымі аздабленнямі вокнаў, дзвярэй.

Былі выпадкі, калі цэкоўскі начальнік, седзячы ў прэзідыуме якога-небудзь сходу, проста здзекаваўся над здымачнай групай: як толькі аб'ектыў паварочвалі на яго, пачынаў закрываць твар кулаком альбо калупацца ў носе. І калі потым гэтага боса не паказвалі ў рэпартажы, а называлі толькі прозвішча, то ён учыняў старшыні камітэта разнос.

Не дай Бог паказаць, што на пленуме ЦК нехта спіць. Хаця спала трэць залы. Не дай Бог паказаць, як на ўсесаюзным злёце ў Мінску два палкоўнікі неслі маршала Баграмяна і г.д. Нам, у адрозненне ад Цэнтральнага тэлебачання, было лягчэй, бо нашы правадыры былі маладзейшыя. А ЦТ штодня выразала ў Леаніда Ільіча яго старэчае плямканне. Той, хто трохі ведае, што такое мантаж, разумее, якая гэта была пякельная работа.

Да тэлежурналіста ставіліся нават горш, чым да газетчыка. Нас не пускалі, а потым абвінавачвалі, што мы не здымалі.

У нас заўсёды была самая меншая зарплата. У нас ніколі не было ні свайго прафілакторыя, ці дзіцячага садка.

Рэдакцыйны корпус на Макаёнка-9 будавалі гадоў дваццаць. А калі ўсе канструкцыі склеілі-зварылі, прыехаў «камісар» з Масквы і загадаў будаўніцтва прыпыніць, бо гэта ... клуб. Чэснае слова, так і сказаў, паглядзеўшы на план будынка: «Ето же клюб. Мі клюбы нэ строім». Быў такі намеснік Старшыні Савета Міністраў СССР.

Неяк пераканалі начальніка, дабудавалі. Толькі хадзіць па гэтым корпусе страшнавата. Правая сцяна ўжо дала асадку. Гэта якраз кабінеты галоўных рэдактараў з таго боку... і смех, і грэх. Дык хто ж працуе на тэлебачанні? Многа людзей апантаных, якія нават спрабавалі кінуць гэтую няўдзячную работу, а потым вярталіся назад. Ёсць людзі вельмі таленавітыя, ёсць так сабе — «творчыя рознарабочыя», ёсць гультаі альбо, як некалі казаў Г.Бураўкін, «клінічныя гультаі»...

**— А як пачувае сябе ў калектыве ТРК беларуская мова?**

— Думаю, што не горш, чым у другіх журналісцкіх калектывах. Справа ў тым, што мы свой рэй вядзём не ад 1991 года, а значна раней, калі Дзяржтэлерадыё ўзначаліў Г.Бураўкін. Не толькі сцэнарыі, але і ўся дакументацыя ў нас вялася і вядзецца на беларускай мове. Працавалі і працуюць курсы беларускай мовы. Праз іх прайшлі ўсе рэдактары і не адзін раз. Шмат гадоў выкладаў на нашых курсах Пятро Садоўскі, на яго заняткі хадзілі ахвотна нават тыя, хто па-беларуску, як кажуць, ні бэ, ні мэ.

Былі і перадачы, за якія не сорамна нават перад самым прыдзірлівым моваведамі. Напрыклад, той жа часопіс «Роднае слова», за якім пільна сачылі ў ЦК і рэгулярна пасля чарговага скандалу рэкамендавалі выгнаць рэдактара У.Содаля.

І сёння ўсе службовыя пасяджэнні вядуцца на беларускай мове, хаця ў кулуарах студый больш чутна мова руская. Горш-лепш, але рэдактары валодаюць беларускай мовай усе. Рэжысёры — радзей. А інжынерныя, тэхнічныя службы як былі, так і застаюцца рускамоўнымі...

**— ... І атрымліваецца, што на запісе беларускамоўнага чалавека, у студыі, акрамя вядучага, усе астатнія да яго звяртаюцца па-руску?**

— Для мяне асабіста стан беларускай мовы на тэлебачанні — балючая праблема... Дома мне часта дастаецца за моўныя памылкі Беларускага тэлебачання. Жонка — настаўніца, і ніяк не можа зразумець, чаму беспакарана гвалтуецца мова на экране і ў газетах, чаму ў школе вучням ставяць двойкі, а дарослым дзядзям і цёцям нават заўваг не робяць... Я не магу раўнадушна глядзець, як у газетах і нашых цітрах дзеляць пры пераносах «дз» і «дж», забываюць ставіць кропкі над літарай «ё» альбо крэсачку над «ў».

На тэлебачанні яшчэ і сёння не ўсе электронныя шрыфты беларускія. Іх проста не выпускалі і не выпускаюць. Але я лічу, што гэта не прычына, каб цітры ішлі з граматычнымі памылкамі. Гэта непавага не толькі да мовы, але і да сябе. Шкада, не ўсе гэта хочуць разумець. Таму зараз будзе на тэлебачанні стварацца спецыяльная кантрольная служба мовы, якая не пусціць у эфір «сметанковае масла» ці граматычныя памылкі.

І апошняе з гэтай тэмы. Акрамя прафесіі рэдактара, ніякай другой тэлевізійнай прафесіі на Беларусі не вучылі і не вучаць. Усё было засяроджана ў Маскве, Санкт-Пецярбурзе, трохі ў Кіеве, Харкаве. Ды і ў Мінску дзе вы бачылі інжынера, якога вучылі

*(Працяг на стар. 12)*

**ВІНШУЕМ!**

***Часопісу «Маладосць» — 40 гадоў. Узрост, як кажуць, самы творчы. Віншуем і калектыў рэдакцыі, і аўтараў выдання, і шматлікіх чытачоў з юбілеем, зычым «Маладосці» па-ранейшаму заставацца маладой і — даём слова галоўнаму рэдактару Генрыху ДАЛІДОВІЧУ.***

# МАЛАДАЯ І ПОЎНАЯ СІЛ

## *Паўюбілейнае слова*

40 гадоў — зразумела, яшчэ не зусім сталы юбілей. Гэта той узрост, калі чалавек мае яшчэ нямала маладых эмоцый і сіл, але разам з тым сабраў ужо нямала і жыццёвага вопыту ды спрыту, здольны, можа, на самае дзейснае і значнае.

Адпаведна, варта сказаць некалькі слоў і пра 40-ыя ўгодкі часопіса «Маладосць»: за гэты час шмат чаго адшумела-адгуло ў свеце, у былых СССР і БССР, а разам з гэтым нямала чаго адбылося і ў літаратуры і культуры, да якіх мела і мае самае непасрэднае дачыненне і нашае выданне.

Першы нумар «Маладосці» вельмі знамянальны: ён выйшаў адразу ж пасля смерці «вождя и отца всех народов» з вялізным ягоным партрэтам на вокладцы. Зразумела, былыя ЦК КПБ, ЦК ЛКСМБ, асабіста куратар П.М.Машэраў (трэба па справядлівасці аддаць ім належнае за дапамогу ў выданні «Маладосці» ды супрацоўнікі і аўтары намагаліся дзейнічаць «у духу часу», але паступова часопіс з камсамольска-прапагандысцкага рупара пераўтварыўся ў дэмакратычнае выданне са свежай думкай і са свежым словам.

Мабыць, «Маладосць» у сваёй дзейнасці мае два этапы. Першы — у 1953 — 1957 гады. У той час часопіс меў невялікі аб'ём, быў, як кажуць, тонкі, мог друкаваць толькі невялікія падборкі вершаў, адно-два апавяданні і кароткія артыкулы ды нарысы. Але і тады ён своечасова паспрыяў стаць на ногі тагачаснаму пакаленню маладых — Н.Гілевічу, П.Макалю, С.Гаўрусёву, Р.Барадуліну, І.Пташнікаву, Г.Бураўкіну, У.Дамашэвічу, В.Адамчыку, Б.Сачанку, Я.Сіпакову, В.Зуёнку і іншым, якія напорыста ішлі ў літаратуру пасля XX з'езда КПСС, па-новаму асэнсоўвалі жыццё, рашуча ламалі літаратурныя схемы і стэрэатыпы, узбагачалі нашу прозу і паэзію новымі моўнымі пластамі з усіх беларускіх рэгіёнаў.

У сувязі з гэтым нельга не адзначыць плённую працу першага маладосцеўскага рэдактара А.Кулакоўскага, які разам з калегамі дбайна спрыяў літаратурнай моладзі і сам паказаў добры творчы і грамадзянскі прыклад аповесцю «Дабрасельцы», што засведчыла новы паварот ва ўсёй беларускай прозе — паварот да жывой рэальнасці і да праўды. На жаль, Аляксей Мікалаевіч тады паплаціўся за гэта, яго ганебна лінчавалі і вызвалілі з пасады, але яго тагачасны подзвіг ужо не мог не ўплываць на пазіцыю іншых галоўных рэдактараў «Маладосці», на дэмакратычную і зычлівую атмасферу ў ёй.

Змогшы з 1958 года друкаваць і паэмы, аповесці, раманы — тыя жанры, без якіх не можа быць развітая літаратура, — і стаўшы першым і па сённяшні дзень «тоўстым» маладзёжным літаратурным выданнем, «Маладосць» пачала набіраць вышыню, разам з «Полымем» адыгрываць вызначальную ролю ў беларускай літаратуры і культуры.

Да слова, маладосцеўцы на чале з П.Панчанкам далі святло такім нашым вядомым сёння творам, як «Жураўліны крык», «Трэцяя ракета», «Мёртвым не баліць» В.Быкава, «Сасна пры дарозе» І.Навуменкі, «Дзікае паляванне караля Стаха» У.Караткевіча. Затым, калі часопіс узначаліў А.Асіпенка, а пазней Г.Бураўкін, з'явіліся «Праклятая вышыня», «Абеліск», «Воўчая зграя» В.Быкава, «Плач перапёлкі» І.Чыгрынава, «Хатынская аповесць» А.Адамовіча, унікальная калектыўная кніга «Я — з вогненнай вёскі...» Яшчэ пазней «Маладосць», дружны калектыў якой у розныя часы плённа ўзначальвалі В.Зуёнак і А.Грачанікаў, утрымала набраную




вышыню, у неспрыяльныя «застойныя» гады даўшы нашаму чытачу такія змястоўныя творы, як «Чорны замак Альшанскі» і «Зброя» У.Караткевіча, «Паляванне на апошняга жураўля» А.Жука, «Падзямелле» М.Аўрамчыка, «Меч князя Вячкі» Л.Дайнекі, «Старажытная Беларусь» М.Ермаловіча, «Споведзь» Л.Геніюш і г.д.

Ці можам мы ўявіць беларускую літаратуру без вышэйзгаданых і іншых маладосцеўскіх твораў? Думаецца, варты самай пільнай увагі і многія творы, апублікаваныя ў апошнія гады, — скажам, лірычна-мастацка-фантастычны дзённік Я.Драздовіча, раман «Чалавек з брыльянтавым сэрцам» Л.Дайнекі, новыя аповесці І.Шамякіна, А.Асіпенкі, У.Дамашэвіча, цыкл гістарычных нарысаў «Гісторыя Беларусі ў ілюстрацыях» Міхася Чарняўскага і матэрыялаў «З архіваў КДБ», а да ўсяго, як і заўсёды, у кожным нумары — новыя і новыя імёны нашых пачаткоўцаў у паэзіі, прозе, публіцыстыцы, крытыцы і мастацтве.

Варта асобна сказаць некалькі слоў і пра «Бібліятэку часопіса «Маладосць», якой сёлета споўніцца 5 гадоў. Яна цяпер, калі нашым маладым усё цяжэй выдаць першую кнігу, адыгрывае своеасаблівую ролю выдавецтва, маючы магчымасць кожны месяц выдаваць па адной кнізе. Мне хацелася б шчыра заклікаць нашага чытача звярнуць большую ўвагу на гэтую «Бібліятэку» (на яе, дарэчы, можна падпісацца, кошт падпіскі зусім невялікі): дыяпазон яе асобных кніжак вельмі шырокі, а змест іх самы разнастайны. Тут — і «традыцыйная» і «новая» паэзія, і самая што ні ёсць шматаблічная проза — «вясковая», «гарадская», гістарычная, «містыка-фантастычная», прыгодніцка-дэтэктыўная і г.д. Як кажуць, творы на самы розны густ. І, паверце, многае з гэтага па мастацкіх і маральна-этычных якасцях значна вышэй за многія нізкапробныя «баевікі» і «секс-бомбы», што ў дрэнных перакладах на рускую мову літаральна абвальваюць тонамі на нашага даверлівага чытача ўвішныя кааператары, зусім не саромеючыся вытрасаць з яго кішэняў агромністыя сумы грошай.

Адным словам, даючы магчымасць паэксперыментаваць нашай творчай моладзі, мы верым, што многія з яе стануць майстрамі сваёй справы, належна падтрымаюць высокі ўзровень беларускай літаратуры. А гэта, у сваю чаргу, дае веру, што чытач, які разбіраецца ў літаратуры і мастацтве, жадае далучыцца да праўдзівага, прыгожага, здаровага і карыснага пачатку, не пакіне без увагі «Маладосць» і «Бібліятэку часопіса «Маладосць». Тым больш, што наперадзе прыемныя сустрэчы з новымі змястоўнымі творамі ва ўсіх жанрах.

# НА СЦЕЖКАХ ЗНАЁМЫХ І НЯЗВЕДАНЫХ

***Сустрэч з кніжкамі маладых і ўжо не маладых паэтаў у «Бібліятэцы часопіса «Маладосць» з часу яе выхаду (1988) адбылося нямала. Найперш усцешылі знаёмствы з тымі, хто толькі пачаў пракладаць сваю літаратурную сцежку.***

Напрыклад, у 1990 г. «Маладосць» запаліла святло для дваццацігадовых: у той год паляцелі ў свет першыя паэтычныя «ластаўкі» Людмілы Рублеўскай, Эдуарда Акуліна, Славаміра Адамовіча, Міхася Скоблы. З маладых па ўзросце, якія дэбютавалі ў маладосцеўскім дадатку ў 1991 г., аказаўся толькі адзін аўтар — Юрась Пацюпа. Пяцідзесяцігадовага Віктара Лужкоўскага, які таксама выдаў першую кніжку пазалетась, нягледзячы на сцвярджэнне аўтара прадмовы А.Вялюгіна пра «запал ягоны малады», назваць маладым не паварочваецца язык. Тое ж самае хочацца сказаць і пра іншых аўтараў літаратурнага дадатку 1991 г. — без малога саракагадовых Кастуся Жука, Зміцрака Марозава, а таксама Хведара Гурыновіча ды мінулагодняга аўтара Паўла Шруба, які родам з 50-х. Яны ўсе далёка не маладыя паэты і па ўзросце і па творчым рахунку, бо выдалі, за выключэннем П.Шруба, па дзве-тры кніжкі. Калі і адносіць гэтых членаў СП да сённяшняй маладой паэзіі, дык у якасці «ветэранаў маладой паэзіі» (Т.Чабан) ці ганаровых гасцей. І што, мусіць, крыўдзіць сапраўды маладых, хто чакае не прычакаецца выхаду свайго зборніка, дык гэта тое, што большасць маладосцеўскіх кніжак зноў, нават ледзь не адначасова перавыдасцца ў «Мастацкай літаратуры», праўда, у большым аб'ёме (зборнікі М.Мятліцкага, К.Жука, Х.Гурыновіча, З.Марозава...). Калі меркаваць па запланаваных выданнях у «Бібліятэцы...» на 1993 г., то «Маладосць» усё ж такі крытычна перагледзела свае падыходы і адносіны да маладых. І дзякуй Богу, бо хіба так магло цягнуцца далей?

У наш неспагадны час асабліва важна арыентавацца на літаратурную моладзь, бо ёй выдавацца становіцца цяжэй і цяжэй. «Маладосць» адчула, што не падтрымаць маладых — значыць зрабіць замах на заўтрашні дзень літаратуры. Буйныя выдавецтвы па сутнасці перакрываюць маладым шырокі доступ да выдання сваіх кніжак, яны, як правіла, даюць дарогу абраным аўтарам. «Бібліятэка...» — тая адзіная пляцоўка, якая дае мажлівасць маладым заявіць пра сябе шырока і прыкметна. Асабіста я ў маладосцеўскім дадатку бачу аўтарамі паэтычных кніжак Алеся Давыдава, Андрэя Гуцава, Ігара Пракаповіча, Сяргея Верацілу, Андрэя Пяткевіча, Алеся Ліпая, Галіну Дубянецкую, Алеся Пашкевіча, Ігара Сідарука, Ігара Бабкова, Людку Сільнову, Кацярыну Мяшкову, Юльяну Бармуту, Юры Гуменюка, Сержука Мінскевіча, Валеры Пазнякевіча, Юры Карэйву, Анатоля Брусевіча... Варта згадаць і тых, хто зрабіў прыкметныя крокі ў паэзіі на пачатку — у сярэдзіне 80-х, але не здолеў выдаць асобную кніжку: Сяргея Украінку, Леаніда Трубача, Станіслава Валодзьку, Міхася Гайцюкевіча, Сяргея Чыгрына, Віктара Вабішчэвіча, Вольгу Савасцюк, Жану Пахадню і іншых. Але над «Бібліятэкай...» згушчаюцца чорныя хмары, пытанне стаіць па-гамлетаўску востра: быць ці не быць. Гэта дзікі «рынак» хоча раскрыжаваць будучыню беларускай літаратуры XXI стагоддзя. Няўжо не ўратуе тое, што з такой цяжкасцю нараджалася для жыцця? Памятайма словы Н.Гілевіча: «Пакуль паэты будуць пець — не быць Радзіме безыменнай, зямлі бацькоў — не анямець!»

Згарманізаваць галасы аўтараў «Бібліятэкі...», пра якіх пойдзе гаворка, у адзінае цэлае, відаць, не атрымаецца, таму я прапаноўваю ўвазе чытача серыю кароткіх рэцэнзій-аглядаў. Кожная з нашых сустрэч, як думаецца, павінна даць уяўленне пра ступень самавыяўлення аўтара кніжкі, паказаць, як і якімі эстэтычнымі сцежкамі ён крочыць, што набыў і што страціў, чаго не змог дасягнуць.

## Сустрэча першая

## «ШУКАЮ ТВАР...»

*Юрась Пацюпа. Ноч. Вершы. Мінск, 1991,«Бібліятэка часопіса «Маладосць».*

Плынь радка, як і рух мыслення, непрадказальныя, няўлоўныя ў таемнасці сэнсаў, нават невытлумачальныя сваёй складанай вобразнай асацыятыўнасцю:

**Між табой і адбіткам у студні —**
**напружанасцю крык.**
**Між небам халодным і пыльнай**
**дарогаю — напятая цішыня.**
**А між будучыняй і мінулым —крыж.**

З аднаго боку, ён, аўтар зборніка «Ноч» Юрась Пацюпа, сапраўды такі — увесь у неразгаданасці паэтычнага зместу, у медытатыўнай і метафарычнай зашыфраванасці слова і вобразаў, нават у прытчавасці (вершы «У святле», «Голас гукаючага ў пустэльні», «Вандроўка на той свет», «Дарэшты» і інш.). З другога — ён імпрэсіяністычна ўражлівы, умее рабіць сапраўды яркія жывапісныя мазкі: «а пад вечар калі месяц у сажалцы паласкаў пыльныя кашулі аблок», «снег на двары як электрычны ток» і інш. Прыродныя вобразы, пейзажныя штрыхі ў яго вершах часам нязвычныя, выявы духоўнага пазнання свету незацёртыя, яны як бы вынік самааналізу праз паяднанне прыроднага і чалавечага. Успрыманне Ю.Пацюпы шматіснае, асацыятыўнае, але асноўныя яго стыхіі, якія б я вылучыў, — быццё, дух, прырода. Ці ж не яны прадвызначаюць глыбінна-шырокі змест паэтычнага слова і А.Разанава? Кірунак Ю.Пацюпы ў паэзіі менавіта і бачыцца ў рэчышчы разанаўскай традыцыі. Характэрны для аўтара «Ночы» гэтаксама пазнавальны рух думкі, якая скіравана ў глыб свядомасці, у нетры памяці і ўнутранага «я», да тайнаў быційнай, мудрай повязі чалавека з усім існым. Ці не пра гэта гучаць прызнанні ў вершы «Памяць»: «дух, як дрэва, скінуўшы цяжар, пойдзе ўдалеч каранямі босымі» і вершы «Крылы»: «я імгненне яднаю ўсё што не паядноўваецца».

Ю.Пацюпа ў многіх творах імкнецца дакрануцца да сутнасці ісціны і рэчаў-з'яў, улавіць рэха вечнага, невымоўнага, намацаць грань паміж рэальным і неспазнаным:

**губляецца промень**
**які спазніўся**
**і мы адыходзім**
**у траву**
**у ледзьве цёплыя камяні**
**у лясное рэха**
**мільгне прамень**
**які спазніўся**

Але ці заўсёды дасягае Ю.Пацюпа філасафічнасці, сапраўды глыбокай паэтычнай выяўленчасці? Далёка не заўсёды і не ўсюды. Ніяк не выпадае рабіць маладому аўтару столькі пахвальбы і рэверансаў, як робяць некаторыя крытыкі, якія прызвычаіліся ставіць між кнігамі і часопісамі тычкі, падзяляючы іх на наватарскія і традыцыйныя (апошняе гучыць ледзь не абразліва, бо, маўляў, традыцыйнае — ніжэйгатунковае).

У Ю.Пацюпы багата павярхоўнай, уяўна-мудрагелістай глыбакадумнасці. Яго вершаванае сілагізаванне часам нагадвае спантанную, разбэрсаную гульню словамі. Хаця, мажліва, нехта будзе даводзіць адваротнае: глядзіце, якая глыбіня... Прачытаўшы верш «Вароны», няхай чытач мяркуе сам:

**і ў цішыні зеленавокай**
**крычаць прастуджана вароны,**
**і восенню, наскрозь прамоклыя,**
**за трактарамі у барознах**
**бягуць, нядобрых сноў наклічуць,**
**абудзіцца ў грудзёх трывога...**
**— Не крумкайце! Бадай вы зніклі.**

**...і белай цішыні дарога,**
**шпакі ўцяклі; сярод зімы**
**вароны топчуцца — і мы.**

Паспрабуйце прапусціць праз розум ці душу наступныя радкі (верш «Студня»):

**у зялёнае поле безнадзейнасці**
**ныруюць квадратныя думкі**
**не дасягнуць**
**вадзянога люстэрка**
**дзе паснулі крывыя сны**

Цьмянасць, блытаніна думкі — гэта яшчэ не філасафізм. Радок маладога аўтара пазбаўлены жывых эмоцый, ён празмерна рацыяналістычна-сухі. Ю.Пацюпу бракуе часам вытанчанай эстэтыкі думкі-пачуцця («Вершы пра гной»), мілагучнасці слова, проста маляўнічасці вобразаў і яркасці параўнанняў: «імя, што пісана віламі, зіхціць у дажджавой вадзе», «сон глістом запаўзае ў вуха», «а зямля трашчыць — жукоў, нібы цвікі, уганяю», «блуканне пляскатых відаляў» і інш. Не можа не сімпатызаваць графічная раскаванасць верша Ю.Пацюпы («Спаленая вёска», «Вечар» і інш.), аднак ёсць у творах знакі прыпынку ці іх няма, а значнасці думкі ад гэтага не прыбаўляецца. Словам, «няма ні сэнсу, ні свабоды» пачуцця. Ю.Пацюпа ў прадмоўцы да «Ночы» прызнаецца, што яго першая кніга «ў пэўнай ступені эклектычная», гэта «рух, шлях да новае мовы». Так, каб знайсці свой адметна-непаўторны твар, маладому аўтару неабходна яшчэ нямала працаваць.

**Алесь БЕЛЬСКІ**

*(Працяг будзе)*

# ЮБІЛЕЕМ ГАРЭЦКАГА ПАДСВЕЧАНА

**ЧАСОПІСЫ Ў ЛЮТЫМ**

Калі па нейкіх прычынах вы, шаноўныя чытачы, яшчэ не пазнаёміліся з лютаўскімі нумарамі часопісаў, раю пачаць знаёмства з «Полымя». Амаль палову нумара ў ім займаюць творы М.Гарэцкага, якія дагэтуль нам не былі вядомы і толькі даследчыкі ведалі пра іх. Пра гэтыя публікацыі «ЛіМ» расказваў ужо («Дзе тая праўда, дзе тая мана...» А.Марціновіча, N8, 19 лютага 1993 года), таму не будзем запыняць на іх увагу. Адно хацелася б сказаць: наспявае патрэба ў выпуску чарговага, больш поўнага, у параўнанні з чатырохтомнікам, Збору твораў М.Гарэцкага.

Як вядома, у дадатак да яго колькі гадоў назад выйшаў аднатомнік, летась вярнулася з небыцця «Гісторыя беларускае літаратуры». Яшчэ адзін том зоймуць згаданыя матэрыялы, ды яшчэ — неапублікаваная эпісталярная спадчына, так што просіцца Збор твораў у сямі тамах.

Як ні цяжка цяпер з выданнем кніг, неабходна парупіцца, каб М.Гарэцкаму ўсё ж было дадзена зялёнае святло як мага хутчэй. Бо без М.Гарэцкага Адраджэнне немагчыма, калі, зразумела, разумець яго як духоўнае ўзвышэнне нацыі.

Ад М.Гарэцкага ў «Полымі» абавязкова захочацца перакінуць масток да ўспамінаў П.Мядзёлкі «Сцежкамі жыцця». Нават пакуль не столькі да саміх успамінаў (змешчаны толькі іх пачатак), колькі да артыкула-ўступу У.Калесніка «Галгофа адроджаных». Знакаміты літаратуразнавец, поруч з іншымі аспектамі, звяртае ўвагу і на праблему вінаватасці. І тых, хто жыў у «кручаныя дні» (Л.Калюга), і хто сам пацярпеў, і хто, так бы мовіць, супрацоўнічаў з уладамі.

На думку У.Калесніка, «праблему вінаватасці вырашаюць і ўспаміны Мядзёлкі». Але ў згаданым артыкуле ёсць яшчэ адзін момант. Працытую радкі, якія, на маю думку, надзіва актуальныя для сённяшняга дня: «Кожнаму беларусу павінна быць горка і цяжка на душы, што судовы працэс СВБ («Саюз вызвалення Беларусі». — **М.А.**)... знішчыў у зародку спробы супрацоўніцтва паміж радыкальна-дэмакратычнай грамадскасцю і камуністычнымі ўладамі на Беларусі. Архітэктарамі супрацоўніцтва былі палітыкі — Усевалад Ігнатоўскі, Алесь Чарвякоў, Язэп Адамовіч, лідэрамі Адраджэння — Вацлаў Ластоўскі, Язэп Лёсік, Аркадзь Смоліч, Сцяпан Некрашэвіч. Бальшавіцкая дыктатура аказалася няздольнай згуртаваць нацыю ў мірны час; самае большае, на што яна ішла,— гэта часовая садружнасць ва ўмовах варожых нашэсцяў, але і тады ўладай дзяліцца не хацела».

Ці не адбываецца нешта падобнае сёння, праўда, у іншым аспекце? Ці не з'яўляецца назойлівае навешванне жупела «чырвона-карычневых» на тых, хто прытрымліваецца камуністычнай ідэі, наследаваннем бальшавіцкіх метадаў? Няўжо незразумела, што нацыя зможа па-сапраўднаму адрадзіцца, калі адбудзецца кансалідацыя, калі людзі згуртуюцца дзеля адной і высакароднай ідэі — беларусы мусяць быць беларусамі? Ці ўрокі гісторыі нічому не вучаць? Ёсць аб чым задумацца?..

Да гэтых матэрыялаў прымыкаюць артыкул У.Гніламёдава «Постаць рэнесанская...» (аўтар закранае праблему духоўных вытокаў творчасці Янкі Купалы, паказвае яго, як «духоўнае тварэнне не толькі папярэдняга стагоддзя, а ўсёй нашай гісторыі, якую ён ведаў да самых глыбіняў і ўсведамляў вельмі асабіста — як уласную духоўную сутнасць, балюча перажываючы за свой народ...»), згадкі П.Пруднікава пра С.Ракіту «Паэт трагічнага лёсу» (шмат асабістага і разам з тым паўстае воблік аднаго з ахвяр сталінізму ў кантэксце эпохі — трагічнай, бесчалавечнай).

Як засведчылі раздзелы з кнігі У.Арлова «Таямніцы полацкай гісторыі» (яны змяшчаліся і ў іншых выданнях, у другім і трэцім нумарах «Полымя» прапануе гістарычнае эсэ «У пошуках украдзенага скарбу» з уступным словам В.Грыцкевіча), чытача чакае цікавая сустрэча. Аўтар, расказваючы пра Полаччыну, выкарыстоўвае невядомыя і малавядомыя факты, а калі карыстаецца тымі, што ўжо ўведзены ва ўжытак, па-свойму асэнсоўвае іх, дае ім новае вытлумачэнне.

Адметная публікацыя А.Сабалеўскага — «Данчык: шлях да Беларусі». Аўтар спрабуе высветліць (і нам, чытачам, паказаць), як Багдан Андрусішын станавіўся Данчыкам. Спасылаючыся на эмігранцкія выданні («Беларус», «Юнак», «Беларускі свет»), звяртаючыся да беластоцкай «Нівы», А.Сабалеўскі вяртаецца да вытокаў творчасці спевака, які з маленства, з дванаццацігадовага ўзросту пачаў далучацца да песні.

Артыкул адкрывае нямала новага з жыцця беларускага замежжа. Разгледзець яго зблізку дапамагае ў другім нумары і «Нёман». Год назад ён выпусціў свайго роду «часопіс у часопісе». Цяпер прапануецца чарговы выпуск «Беларускае замежжа: гісторыя і сучаснасць». Упершыню ёсць магчымасць прачытаць па-руску (пераклад Т.Лейкі) вершы Н.Арсенневай, пра творчасць якой згадвае М.Лужанін — «Паэт і час». Бадай, упершыню па-руску друкуецца і К.Акула — У.Арлоў пераўвасобіў фрагменты з яго рамана «Змагарныя дарогі» і сказаў некалькі слоў пра аўтара.

Як бачна з урыўкаў, пісьменнік, адштурхоўваючыся ад аўтабіяграфічных момантаў (у галоўным героі Сымоне Спарышы ўгадваецца сам К.Акула), па-свойму асэнсоўвае падзеі, звязаныя з гітлераўскай акупацыяй Беларусі. Сярод персанажаў і рэальныя людзі — Канстанцін Езавітаў, Францішак Кушаль, Радаслаў Астроўскі і іншыя. Меркаваць аб вартасцях ці недахопах мастацкага твора можна толькі пасля знаёмства з ім цалкам. У дадзеным жа выпадку, відаць, трэба пагадзіцца з У.Арловым: «Сяму-таму, выхаванаму на аднамерна-плоскай афіцыйнай трактоўцы тых падзей, погляды і ацэнкі Кастуся Акулы, магчыма, пададуцца спрэчнымі ці нават непрымальнымі, але ў любым выпадку неабходна з вартай павагай аднесціся да сведчанняў чалавека, які бачыў вайну знутры, прайшоў яе пакручастымі шляхамі і заслужыў за барацьбу з гітлераўцамі баявыя ўзнагароды».

І іншыя публікацыі пашыраюць уяўленне аб жыцці беларускай эміграцыі. У прыватнасці, змешчаны фотарэпартаж А.Клешчука «Усе дарогі вядуць на Бацькаўшчыну» — пра сустрэчу выгнаннікаў з роднымі сэрцу мясцінамі. Я.Шунейка («Мастацтва не ведае межаў») аналізуе творчасць двух мастакоў — Міколы Давідзюка з Беласточчыны і Анатоля Чайкоўскага з Германіі. Прадстаўлены і паасобныя іх творы. Ды, як кажуць, «няма таго, што раньш было»: «Нёман» ужо не можа дазволіць сабе каляровыя рэпрадукцыі, дзякуй Богу, што хоць наогул выходзіць з ілюстрацыямі.

«Мы — адзін народ» — так называецца гутарка з М.Белемуком, сакратаром клілендскага часопіса «Полацак», якая адбылася ў аддзеле мастацтва, крытыкі і бібліяграфіі «Нёмана».

Змешчана справаздача з міжнароднай канферэнцыі «Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў», што праходзіла ў Маладзечне.

І, безумоўна, нельга прамінуць матэрыялы С.Карузы, аб'яднаныя назвай «Беларусіка ў свеце». Змешчаны звесткі пра беларускі перыядычны друк за мяжой, а таксама агляд нью-йоркскай газеты «Беларус». Праўда, тут не абышлося без недакладнасцей. Рэдактарам «Беларускага голасу», які выходзіць у Канадзе, згадваецца С.Сіняк, а ён памёр ужо; неперыядычнае выданне «Грунвальд», што выпускаецца ў Эстоніі, называецца газетай...

Думаецца, «Нёману» варта было б больш шырока адзначыць 100-годдзе з дня нараджэння М.Гарэцкага, чым «неюбілейным словам» С.Дубаўца «Максім Гарэцкі». Канечне, часопіс неаднаразова прадстаўляў яго творчасць рускамоўнаму чытачу, ведаю, што цяпер рыхтуецца пераклад на рускую мову матэрыялаў, апублікаваных у другім нумары «Полымя», але выкарыстоўваць юбілей у якасці «художеств»... Чытаеш і думаеш: а можа, і ёсць рацыя ў тым, што спадчыннікі не кожнаму дазваляюць карыстацца рукапіснымі матэрыяламі пісьменніка? А дзеля чаго супрацьпастаўляць Гарэцкага і Чарота, Гарэцкага і Гартнага? Думаецца, калі хто бярэцца пісаць пра М.Гарэцкага, дык рабіць гэта трэба, схіляючыся перад велічнасцю яго — і таленту, і духу, а не клапаціцца адно аб тым, як лепей падаць самога сябе.

Такое вось маё, таксама «неюбілейнае слова».

А ў «Маладосці» — заканчэнне аповесці Т.Бондар «Імем Айца і Сына», аповесць У.Дамашэвіча «Адна — долі жадна», неапублікаваныя творы С.Шушкевіча і вершы Т.Зана, якія прыйшлі да чытача дзякуючы К.Цвірку. І шэраг іншых цікавых публікацый.

Ёсць яны і ў «Беларусі». Часопіс, як кажуць, тонкі, ды, як пераконвае чарговы нумар, важкасць зместу проста-такі «вылузваецца» з абмежаваных рамак: і публіцыстыка, і літаратурныя старонкі...

Удзячны чытач заўважыць лепшыя лютаўскія публікацыі і ацэніць іх. А крытыка? Скажам, аповесці Т.Бондар і У.Дамашэвіча заслугоўваюць асобнай гаворкі. Толькі — хто возьмецца? Крытыкі пачынаюць сабой любавацца. У лепшым выпадку сяброў-таварышаў згадваюць (ці іх родных), ставячы поруч з класікамі. Прачытайце тое ж «неюбілейнае слова» пра М.Гарэцкага...

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

**ВІНШУЕМ!**



*2 красавіка спаўняецца 60 гадоў паэту Віктару ШЫМУКУ. Віншуем Віктара Мікалаевіча з юбілеем і зычым яму здароўя, далейшых творчых поспехаў на літаратурнай ніве.*

**Віктар ШЫМУК**

## ХУТАР

Пра дзядзьку будзе мой расказ,
Пра лёс яго заплытаны.
Ён не хацеў ісці ў калгас,
Ён жыў на ціхім хутары.

Зямелькі той гектараў сем
Было ў яго на водшыбе,
І любаваліся усе,
Як жыта ён вырошчвае.

Расло яно заўжды сцяной
І зернем налівалася,
А потым не адной капой
У «бабках» красавалася.

І рос на хутары ячмень,
Авёс з бялюткай грэчкаю.
Усе расло! Высвечваў дзень
Старанне чалавечае.

А сад які у дзядзькі быў!
Не сад — куточак райскі.
Сваю зямельку ён любіў
Пяшчотна, па-сялянску.

Яму казалі і не раз:
— Ты, як бяльмо на воку.
Ісці пара табе ў калгас,
Каб жыць навідавоку.

А ён цягнуў, ён не ішоў,
Адкладваў на далей.
Яму сказалі: «Хо-ро-шо»...
І зноўку завіталі.

І падагналі трактар нейк,
Да самых сцен і вокан.
Былі і слёзы тут і енк,
Трашчалі дзверы, кроквы.

І дзядзька не стрываў тады,
Схапіўся за сякеру...
І потым доўгія гады
Тайгу глухую мераў.

Вось і ўвесь, сябры, расказ...
І дзядзька не вярнуўся
На хутар свой, сюды, да нас,
Да роднай Беларусі.

А хутар той зарос лазой,
Ды ранішнія росы
Бліщчаць гаручаю слязой
І ўлетку тут, і ўвосень...

## АДЗІНОТА

Ах, як ёй цяжка, як нялёгка,
Нібыта камень на душы.
Але яна не ўмее вохкаць
У гэтай жудаснай цішы.

І азірнуцца не паспела,
Як праплыло, прайшло жыццё.
І вось у доме састарэлых
Ёй быць аж да апошніх дзён...

Сагнулася, ў руках кіёчак
І рукі хворыя дрыжаць.
Калісьці ж мела яна дочак,
Магла і ткаць, магла і жаць.

І іх, маленькіх, гадавала,
І пела песні ім заўжды.
Пад столь у хаце падкідала —
Ды ўсё мінула, нібы дым.

Муж пасля фронту занядужаў,
Адправіўся ў апошні шлях.
Гаротна ёй было без мужа —
Ўсё на нагах, ды на нагах.

Усё у полі, ды у полі,
Штодзень — ні свет і ні зара.
Абы яны былі у школе,
Хай падрастае дзетвара.

Даўно-даўно павырасталі
Яе дачушкі на сяле.
Даўно вяселлі адгулялі,
А ёй, старой, не весялей.

Забыліся яны пра маці
І кінулі яе адну.
Так і жыла ў старэнькай хаце
Сярод сваіх нялёгкіх дум.

І азірнуцца не паспела,
Як праплыло, прайшло жыццё.
І вось у доме састарэлых
Ёй быць аж да апошніх дзён.

Глядзіць матуля на дарогу,
Душа у роспачы шчыміць.
І сэрца поўніцца трывогай,
Яно баліць, баліць, баліць...

## НАШ КАЛЯНДАР

75 гадоў з дня нараджэння паэта **Алеся Бачылы** споўнілася 2 сакавіка (1918 — 1983). Першы верш надрукаваў у 1934 годзе. Акрамя шматлікіх паэтычных зборнікаў, ён аўтар нарыса пра М.Багдановіча «Дарогамі Максіма», лібрэта опер «Яснае світанне», «Калючая ружа», «Калі ападае лісце», «Зорка Венера» і аперэты «Паўлінка». Мелодыя песні на вершы А.Бачылы «Радзіма мая дарагая» стала пазыўнымі рэспубліканскага радыё.

85 гадоў з дня нараджэння крытыка, літаратуразнаўца **Янкі Шарахоўскага** споўнілася 4 сакавіка (1908 — 1973). Працаваў у 1959 — 1961 галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». Вядомы таксама як празаік, перакладчык.

50 гадоў з дня нараджэння крытыка, літаратуразнаўцы **Алы Кабаковіч** споўнілася 7 сакавіка (1943 — 1985). Аўтар шэрагу кніг. Выбранае «Пасеянае ўзыдзе» выйшла ў 1991 годзе.

75 гадоў з дня нараджэння празаіка **Міколы Ткачова** споўнілася 8 сакавіка (1918 — 1979). Літаратурную працу пачаў у 1938 годзе. Выдаў раман «Згуртаванасць» (1951), кнігі прозы «Пошукі скарбаў» (1963, апавяданні і нарысы), «Дыханне агню» (1978, раман, апавяданні, нарысы). Працаваў у галіне перакладу.

90 гадоў з дня нараджэння паэта **Тодара Кляшторнага,** ахвяры сталінізму, споўнілася 11 сакавіка (1903 — 1937). Першыя вершы надрукаваў у 1925 годзе. Аўтар кніг «Кляновыя завеі» (1927), «Светацені» (1928), «Ветразі» (1929) і іншых. У 1970 годзе выйшаў зборнік выбраных твораў.

70 гадоў з дня нараджэння празаіка **Алеся Рылько** спаўняецца 27 сакавіка (1923 — 1976). Пісаў таксама для дзяцей, аўтар аднаактовак.

**Лідзія АРАБЕЙ**

# З ТАГО СВЕТУ



## Апавяданне

АПОШНІМ часам у раі зрабілася зусім сумна. Новых людзей не паступала, а з тымі, што тут абжыліся, усё перагаворана, можна сказаць, прыеліся адно аднаму. Кажуць, у пекле перанасяленне, можа, стражэйшы стаў адбор, альбо людзі болей грашыць пачалі, хто яго ведае, але пекла пеклам, а рай раем. Дзядзька Якуб, жывучы на зямлі, таксама не заўсёды ўсцерагаўся ад граху, былі, былі. Але калі Архангел перад варотамі райскімі паклаў на шалі ў адну місачку грахі, а ў другую ўсё добрае, што зрабіў на зямлі дзядзька, то добрае нашмат пераважыла і райскія вароты перад ім адчыніліся. Ён тут і абітаў, цешачыся райскім спакоем ды прыстойнаю кампаніяй. Але апошнім часам затужыў. Ну колькі можна чакаць таго прышэсця, каб уваскрэснуць, вярнуцца на зямлю, пабачыць, што там робіцца! Ніколі не быў дзядзька Якуб абыякавы да таго, як людзі жывуць. Вось бы і цяпер, хоць адным вокам глянуць, як там яны. Можа, нарэшце, парадак на зямлі навялі, камунізм пабудавалі.

І пачаў ён прасіць Архангела:

— Браток, адпусці... Хоць на дзянёк які... Слова даю, што вярнуся. Адпусці, а я табе вершык пачытаю. І пачаў чытаць:

Між спелага жыта
Сінее валошка,
Бяжыць паміж нівак
Крывая дарожка.

Скажы мне, дарога,
Хто ездзіць табою?
Куды ты крывенькай
Бяжыш паласою?..

Архангел расчуліўся, скінуў пальцам слязу, што выкацілася з вока. Ён і сам быў з Беларусі, з Уздзеншчыны, вёсачка там ёсць такая — Нізок. Стуль шмат знакамітых людзей на свет з'явілася, вось і Архангел...

Уздыхнуў ён, пакруціў галавою.

— І рад бы, ды не магу... Закон строгі... Да святога прышэсця нікога...

— Братачка, — зноў пачаў прасіць дзядзька Якуб. — Ну хіба на свеце ёсць законы, якіх нельга абмінуць? Бывала, на зямлі...

— То на зямлі, а то на небе...

— Братачка...

І так слёзна прасіў дзядзька Якуб Архангела, што той не вытрываў, здаўся.

— Добра... Толькі нікому ні слова! Даю табе адны суткі... І ні хвіліны болей!

Дзядзька Якуб ад радасці руку Архангелу пацалаваў, а той распасцёр свае шырокія крылы і кажа:

— Садзіся...

Сеў дзядзька на крыло Архангелава, і той паляцеў. Міма зор, міма месяца, аж дух у дзядзькі захапіла. Ці доўга, ці коратка ляцеў, пачаў прызямляцца. І кажа:

— Тут недалёка ёсць аэрапорт, але мы з табою туды не паляцім. Вось тут апусцімся. Бачыш курган?

І сеў Архангел на высокі груд, з якога лесвіца ўніз вяла. Апусціўся і кажа:

— Злазь. Адсюль да Мінска кіламетраў трыццаць, пехатою дойдзеш. Тут, на гэтым месцы, і чакаць цябе буду. Роўна цераз суткі.

Злез дзядзька з крыла Архангелава, падзякаваў шчыра і кажа:

— Буду як штык, не сумнявайся. Ніколі нікога ў жыцці не ашукваў, і цябе не ашукаю.

Махнуў Архангел крыламі і знік у паднябессі, а дзядзька на зямлі застаўся, пад самым Мінскам, у параўнанні з сусветным прасторам — то рукою падаць.

Спусціўся ён па лесвіцы з таго кургана на шашу і патупаў у бок горада. Ішлося лёгка, часам здавалася, што і ў яго, як у Архангела, крылы выраслі. Сам не агледзеўся, як да горада дапяў.

Найбольш цікавіла дзядзьку, ці пабудавалі ўжо тут камунізм. Перад тым, як адысці яму ў іншы свет, начальства абяцала, што скора. Дык які ж ён, камунізм, паглядзець бы на яго хоць адным вокам.

Вось і гарадская вуліца, абапал гмахі высокія, у адным, унізе, гастраном — чытаць дзядзька не развучыўся. Дай, думае, зірну, што цяпер людзі ядуць, што купляюць?

Заходзіць. Магазін вялізны, як стадола, а ў ім людзей, аж чорна. Хацеў дзядзька паглядзець, што там на прылаўках ляжыць, дык не падступіцца, не прабіцца. А людзі піхаюцца, штурхаюцца, сам не агледзеўся дзядзька, як да касы яго паднеслі. Глядзіць, а ў людзей у руках не грошы, а паперкі нейкія, на якіх зайчыкі, вавёрачкі намаляваныя.

«Так і ёсць, — падумаў дзядзька, камунізм... Грошы адмянілі... Але чаго тады людзі крычаць ды піхаюцца, хіба на ўсіх усяго не хопіць? Па патрэбнасці ж, як той казаў...»

Як паднеслі дзядзьку да касы, так і з гастранома вынеслі, і апынуўся ён на вуліцы. Патупаў далей. Ідзе, ідзе, на бакі азіраецца, да ўсяго прыглядаецца і раптам бачыць — лесвіца пад зямлю павяла. Няўжо метро? — здзівіўся дзядзька. Спусціўся па той лесвіцы. Як пад зямлёю ездзяць — добра ведаў, колькі па Маскве некалі ў метро пагойсаў. Але дайшоў да тумбаў, у якія грошы кладуць, і спыніўся. Бачыць, людзі туды нейкія кружочкі пхаюць, гэта зноў, мусібыць, замест грошай, а ў яго ж такога кружочка нямашака. Стаіць і думае — як тую тумбу прамінуць? А тут кабетка тупае, з торбачкаю ў руцэ, з торбачкі курыныя лапкі тырчаць. Бачыць — стары чалавек стаіць і нешта думае. Паспагадала.

— Мусіць, чалавеча, з вёскі прыехаў, не ведаеце, як да паяздоў прайсці. А пенсіянерам бясплатна, ідзіце вунь туды, дзе міліцыянер стаіць.

Падзякаваў дзядзька кабеціне, пакіраваўся туды, куды яна паказала. Яго ніхто не затрымаў і так ён да паяздоў прытупаў. Сеў у вагон, едзе і думае: во любата, во справядлівасць, пенсіянерам — бясплатна.

І раптам чуе: «Асцярожна, дзверы зачыняюцца, наступная станцыя «Плошча Якуба Коласа».

Аж падскочыў дзядзька Якуб ад такой нечаканасці, на той станцыі выбег з вагона, азіраецца. Ну, не станцыя, а палац, і ўся каласамі размаляваная, гэта, мусібыць, таму, што ён — Якуб Колас. У грудзях заласкатала, на слязу павяло. Памятаюць, памятаюць свайго паэта!

Выйшаў з метро на плошчу — і тут радасць нечаканая. Самога сябе ўбачыў, ды вялізнага, чыгуннага. Сядзіць ён, дзядзька Якуб, задуменны, няйначай, новы верш складае, альбо паэму піша. А вакол бярозкі зялёныя, любата.

Пахадзіў дзядзька туды-сюды — на незнаёмай вуліцы апынуўся, шумнай, люднай, народ па ёй — як мурашы, узад-уперад бегаюць. А збоку хлопцы, кабеты стаяць, у руках — пачкі цыгарэтаў.

«Гэта, мусібыць, так пры камунізме, — падумаў дзядзька. — Хто хоча закурыць — калі ласка, бярыце, частуйцеся». І так захацелася дзядзьку дымком дыхнуць, гэта ж, лічы, трыццаць сем гадоў цыгаркі ў губу не браў. Падышоў да хлопца маладога, папрасіў:

— Дай, сынок, закурыць.

А той вочы вылупіў, глядзіць на дзядзьку, як на вар'ята.

— Валі, валі... Бач, чаго захацеў, закурыць яму дай... Хто гэта табе дарам дасць?

— Дарам не дасі? — здзівіўся дзядзька. — А колькі ж твой пачак каштуе?

— Давай два рыся!

— Чаго-чаго?

— Два рыся!

— Якія рыся?

— Ты з неба зваліўся, ці што? А ну тупай адсюль! — вызверыўся хлопец.

Хацеў яму дзядзька сказаць, што ён і праўда зваліўся з неба, але гэта быў яго вялікі сакрэт, яго і Архангела. Глянуў ён на другіх хлопцаў і кабет, што стаялі з пачкамі цыгарэтаў, убачыў іх каменныя твары, уздыхнуў. «Во людзі, свайму народнаму паэту закурыць не дадуць...А яшчэ помнік паставілі... Не, з камунізмам у іх нешта не так...»

Вярнуўся дзядзька з той вуліцы назад на праспект. Бачыць — дэманстрацыя ідзе. Прыгледзеўся — але што гэта за дэманстрацыя? Людзі не сцягі чырвоныя нясуць, не партрэты Леніна ды Карла Маркса, а харугвы, абразы. Спераду бацюшкі ідуць у рызах раззалочаных, святыя песні спяваюць, падышоў бліжэй да той дэманстрацыі, а яна яго ў свае шэрагі і ўсмактала, і на пляц Волі прывяла, у царкву ўцягнула. Пачалося тут набажэнства. Праваслаўныя моляцца, хрысцяцца, паклоны б'юць. А спераду, на пачэсным месцы, дзе некалі багатыя купцы стаялі, — купка мужыкоў прыстроілася — усе спраўныя, гладкія, у касцюмчыках аднолькавых, пры гальштуках, свечкі ў руках трымаюць і таксама хрысцяцца. І гатовы пабажыцца дзядзька, што гэта начальнікі камуністычныя, ён іх здавён нюхам чуў, ды і па выгляду відаць, выраз твару той самы, быццам толькі што ў цэка ды ў абкомах за сталамі сядзелі.

Падзівіўся дзядзька Якуб, перажагнаўся, захацелася і яму памаліцца шчыра, ды перашкаджалі гэтыя, у касцюмчыках спраўных, пры гальштуках, такі ад іх ішоў смурод, так хлуснёю цягнула, што перажагнаўся дзядзька Якуб яшчэ раз і пайшоў з царквы.

Спусціўся назад да праспекта. А людзей на ім — цьма цьмою, туды-сюды, туды-сюды снуюць. Ды маладыя, здаровыя. Што гэта яны, — думае дзядзька, — нідзе не працуюць, не вучацца, днём рабочым швэндаюцца па праспекце... Некалі, у мой час, на гэтым праспекце толькі вечарамі бывала людна, калі людзі на шпацыр выходзілі. І тут яго вока выхапіла белую шыльдачку з сінімі літарамі: «Праспект Скарыны». Што гэта я? Дзе гэта я — пачаў азірацца дзядзька. Не, ён на тым самым праспекце... І будынак КДБ во стаіць... І кнігарня цэнтральная... Быў жа праспект Сталіна... Потым у Ленінскі перарабілі... А цяпер, выходзіць, Скарыны?.. Бессмяротную дзядзькаву душу цяплом агарнула. Ну нашчадкі, ну малайцы!.. І не пабаяліся... Каб некалі я пра такое хоць заікнуўся, то ў раі апынуўся б нашмат раней...

Яшчэ большае дзіва чакала дзядзьку на плошчы Леніна, калі ён над Домам урада, не пазнаць які было ўжо проста немагчыма, убачыў бел-чырвона-белы сцяг. «Божачка, — перажагнаўся дзядзька. — Уваскрос! Жыве! Жыве Беларусь! Сцягу ж ты мой родны, як жа хораша ты лунаеш!» Аж на слязу пацягнула дзядзьку ад такой прыемнай нечаканасці. А тут — яшчэ дзіва, на белай шыльдачцы сінімі літарамі прачытаў: «Плошча Незалежнасці». І гэта дзядзьку спадабалася, хоць крышку і вусцішна зрабілася. Хаця, чаго ўжо яму баяцца, ён сваё месца ў сусвеце заняў, яму ўжо нічога не страшна. Але няўжо не баяцца і тыя, хто ўсё гэта выштукоўвае? Нехай Бог іх крые і ратуе.

Пахадзіў яшчэ дзядзька Якуб па плошчы, да Чырвонага касцёла падышоў, думаў, можа, там якое кіно здымаюць, была ж там пры іх кінастудыя. Ажно бачыць — на касцёле крыж каталіцкі, а ўсярэдзіне зноў набажэнства, толькі ўжо каталіцкае... І вырашыў дзядзька нічому болей не дзівіцца, адстаў ён, пакуль у раі панаваў, тут усё перакруцілася і зразумець тыя перамены яму не па сілах. Але што б тут ні было, як бы што ні мянялася, пад яго нагамі ляжала родная зямля, якую ён надта любіў, па ёй хадзілі ягоныя нашчадкі і трэба было ўсё прымаць, як яно ёсць, маладыя ведаюць, што робяць.

Былі яшчэ ў Мінску месцы, куды вельмі цягнула дзядзьку Якуба, і ён ведаў, што не абміне іх, і цяпер ногі самі павялі яго да Саюза пісьменнікаў. У гэтай частцы горада не вельмі што змянілася, і дзядзька скора знайшоў вуліцу Энгельса. І скверык на месцы стаяў, і тэатр беларускі, яго дзядзька, праўда, ледзьве пазнаў, так знявечылі таго рэстаўратары, а далей, далей... Дзе ж той дамок, у якім Саюз пісьменнікаў месціўся? Як карова языком злізала... На гэтым месцы гмах вялізны, дзе ж саюз, няўжо ліквідавалі? І пачаў ён у людзей пытацца — у аднаго, у другога — дзе Саюз пісьменнікаў беларускіх? Людзі толькі плячыма паціскаюць — ніхто не ведае. Але адзін хлопец, барадаты, з доўгімі валасамі, сказаў дзядзьку адрас — вуліца Фрунзе, дом пяць.

Узрадаваўся дзядзька, што Саюз пісьменнікаў знайшоў сабе прыстанак, і пайшоў на вуліцу Фрунзе, той прыстанак шукаць.

Дзверы адчыняў з вялікім хваляваннем. А раптам убачыць каго знаёмага? Яшчэ ж толькі трыццаць сем гадоў мінула з таго часу, як ён з усімі блізкімі развітаўся, быць не можа, жывуць яшчэ яго сучаснікі. Можа, катарага Максіма ўбачыць — Танка ці Лужаніна? А можа, Янку Брыля? Той жа тым часам зусім малады быў... Ды ці мала каго? І замірала дзядзькава сэрца.

Увайшоў. Спыніўся ў вялікіх сенцах. Агледзеўся. У адзін бок доўгі калідор вядзе. У другі бок — мармуровая лесвіца. Стаіць дзядзька, думае, куды пакіравацца. А тут аднекуль хлопец выскачыў, з валасамі да плеч, у скураным пінжачку, бяжыць да дзвярэй, на хаду дзядзьку штурхнуў і прабурчэў яшчэ:

— Ходзяць тут усялякія...

А тым часам у дзверы яшчэ адзін маладзён ускочыў, прабягаючы, таксама дзядзьку штурхануў, але больш ветлівы аказаўся, хоць прабачэння і не папрасіў, але і не абляяў.

Стаіць дзядзька ў тых сенцах пісьменніцкіх, яшчэ ўсё думае — куды пакіравацца, да людзей, што туды-сюды снуюць, прыглядаецца. А тыя дзядзьку абмінаюць, бегаюць, хто штурхане, хто акуратна прабяжыць, і хоць бы адзін знаёмы, альбо хоць і незнаёмы, а проста так лірычны твар, каб па ім можна было пазнаць свайго брата — паэта. Усе нейкія хцівыя, ці то некага даганяюць, ці то самі ад некага ўцякаюць.

Адважыўся дзядзька, пачаў памаленьку па лесвіцы ўзнімацца, але тут ужо трэба было моцна за парэнчы трымацца. Хлопцы ды дзяўчаты так па лесвіцы ўзляталі ды зляталі, што і бессмяротную дзядзькаву душу маглі знявечыць. Хацеў сказаць ім дзядзька Якуб па-пушкінску: «Здравствуй, племя молодое, незнакомое!», але бачыў, што ніхто з таго племені не прыпыніцца, каб з ім павітацца.

Пахадзіў дзядзька яшчэ па тых лесвіцах, па калідорах, нікога знаёмага не сустрэў, літаратураю, пісьменнікамі тут і не пахла, выйшаў на вуліцу. На сонца глянуў. Дзень да вечара пачаў хіліцца, хутка на курган вяртацца, а ён пакуль так мала ўбачыў і нічагусенькі не зразумеў. Ішоў, азіраўся. Бачыць — кіёск газетны. А там, за шклом, кнігі, кнігі, а на вокладках бабы голыя намалёваны. То сядзяць, то ляжаць, то з голымі мужыкамі абдымаюцца. Плюнуў дзядзька і хацеў ужо адысціся, як раптам сярод той брыдоты ўбачыў такое знаёмае, роднае — газету «ЛіМ». Хоць і зменены ў ёй быў загаловак, не так намаляваны, як некалі, але як жа не пазнаць яе, слаўную? «ЛіМ» — заўсёды «ЛіМ». Толькі як жа яе з таго кіёска выбавіць? Грошай у дзядзькі Якуба ні капейкі, у раі грошы непатрэбныя, так што дзядзьку ніякіх камандзіровачных не далі. А ён ужо зразумеў, што ў гэтым камунізме дарма ўсё-такі нічога не даюць.

Але жаданне набыць «ЛіМ» было такое вялікае, што дзядзька ніяк не мог ад таго кіёска адступіцца, і вырашыў ён пайсці на хітрасць. Усунуў галаву ў акенца.

— Цётачка, прабач... Гэта я, старая галава, грошы дома забыўся, можа, ты мне напавер дасі газетку, я табе грошы потым прынясу...

А цётка на яго рукою — мах, быццам муху адганяла.

— Іш ты! Напавер!.. Хто гэта каму цяпер верыць... Ідзі, адкуль прыйшоў, стары валацуга!

«Ох-хо-хо, — уздыхнуў дзядзька, — каб я табе сказаў, адкуль я прыйшоў...»

Адступіўся ад вакенца, але ад кіёска адысці ніяк не можа, як прывязаны, снуе вакол яго. Зноў да цёткі той падкаціўся, так жа ласкава папрасіў:

— То, цётачка, дайце мне газетку, я тут, пры вас, пагляджу і аддам...

І як жа тут кабета вызверылася:

— Каму сказала — ідзі прэч! Газетку яму дай! Пакамечыць, потым ніхто купіць не захоча. Ідзі, ідзі, — і яшчэ рукою, ужо некалькі разоў — мах, мах на дзядзьку Якуба.

Нічога дзядзьку не заставалася, як тую газету ўкрасці. Украсці, пачытаць, а потым аддаць той злоснай кабеце. Грэх гэта ці не грэх? Можа, і грэх, але не такі ўжо вялікі, можа, за такі грэх з раю не выганяць? Але цяпер каб сказалі дзядзьку, што яго за такі грэх у пекла справадзяць, ён бы не спыніўся, магутная сіла кіравала ўжо яго духам — абы ўзяць у рукі «ЛіМ».

Пакруціўся ён яшчэ каля кіёска, бачыць, кабета адвярнулася, ён тую газету — цап — і дзёру. Ляцеў, як з гарматы стрэлены, сам не ведае, на якой вуліцы апынуўся. Спыніўся, аддыхаўся. Глядзіць, ці не гоніцца за ім хто, ці не бяжыць міліцыя са свістком, але вакол ціха, і людзей на гэтай вуліцы менш.

Глянуў дзядзька ў газету, але во бяда — цямнець пачало, нічога ў цемнаце не прачытаеш, літары ў адзін радок зліваюцца. Што ж рабіць? Зайшоў у нейкі пад'езд. Там лямпачка гарыць пад столлю. Не вельмі каб ярка, але ў пад'ездзе святлей, чым на вуліцы. Сеў дзядзька на прыступцы, газету разгарнуў. І так жа добра ад яе запахла, такім родным, такім сваім, даўно не чуў такога ласкавага паху. Першыя хвіліны толькі гартаў старонкі ды нюхаў іх. І раптам — стоп! Артыкул. Велізарны, на дзве паласы. «Новае прачытанне Якуба Коласа».

Пра ўсё забыўся тут дзядзька Якуб, надта ж цікава было пачытаць — што ж пра яго цяпер пішуць? Упіўся вачыма ў радкі. І хутка пачаў моршчыцца. Папракаюць... Ды за што папракаюць! За вершы пра Сталіна!.. За вершы пра Леніна!.. За верш пра кукурузу, за пісьмо, дзе каяўся, прызнаваўся у грахах, якіх не меў. Ах, прайдзісветы! І разумныя ж вы раптам аказаліся! А жылі б вы ў тыя часы! Хаця, і тут агаворка — «Была даніна часу»... Але пачакайце, хіба не той самы крытык хваліў мяне? І за вершы пра Сталіна, і за вершы пра Леніна, і за кукурузу? Так і ёсць, той самы! Жыве яшчэ курылка!

Пакрыўджаны, раззлаваны, хацеў ужо дзядзька Якуб кінуць газету, не дачытаўшы той артыкул да канца, ды раптам убачыў, што тут і «Новая зямля» ўспамінаецца. Пачаў чытаць, і ад сэрца крышку адлягло. Надта ж хваліў гэты крытык ягоную любімую паэму. І ніякая яна не кулацкая, і вечная тут мара селяніна пра зямлю, і эпічныя вобразы, і паэзія народнага жыцця. Падступіла да вока ў дзядзькі Якуба светлая сляза. Паразумнелі яны тут, ці што? Але, дальбог, той самы крытык пра ягоную паэму пісаў некалі зусім іншае... Ну, ды Бог яму суддзя, можа, і яны цяпер у «такі час» жывуць, можа, і яны некалі на «такі час» усё спішуць.

Толькі хацеў перагарнуць старонку, каб паглядзець, што яшчэ «ЛіМ» піша: як раптам дзверы ў адной кватэры адчыніліся і ў іх паказаўся бамбіза ў майцы і шараварах. Біцэпсы ў бамбізы аж вылазілі з той майкі, шыя — стаўбуном, валасы пад вожык пастрыжаныя. Глянуў на дзядзьку свірэпымі вачыма і пытаецца:

— Ты што тут робіш?

— Во, чытаю, — паказаў дзядзька на газету.

— Іш ты! — яшчэ больш узлаваўся бамбіза. — Іншага месца для чытання не знайшоў? Выціжоўваеш, як у кватэру залезці? Газеткаю прыкрыўся?

— Ды што вы, — хацеў апраўдацца дзядзька Якуб, але той і слухаць яго не захацеў.

— А ну марш адсюль, бо зараз сабаку нацкую!

У гэты час у кватэры і праўда загаўкаў сабака — груба, злосна.

Убачыў дзядзька, што не паразумецца яму з тым чалавекам, склаў газетку, пайшоў да выхаду. А той наўздагон прасіпеў злосна:

— Во жулікаў развялося!..

Выйшаў дзядзька Якуб на вуліцу, а там і зусім сцямнела. Паглядзеў на газетку, якую трымаў у руцэ, вырашыў той кіёск знайсці, каб аддаць. Ткнуўся туды-сюды — няма таго кіёска. Мусіць, далёка ад яго адбегся і згубіў... Ай, шкода... Яшчэ пахадзіў, пакруціўся... Натрапіў на іншы кіёск, але там мужык таргуе, значыцца, не той.

А час бяжыць, бяжыць, скора на курган вяртацца, каб Архангела не падвесці...

Але не мог дзядзька Якуб пакінуць зямлю не дазнаўшыся, можа, пра самае важнае, не дазнаўшыся, як тут ягоныя дзеці... Дзе б ён сёння ні хадзіў, што б ні рабіў, усё пра іх думаў. Там, на небе, у раі, ён маліўся за іх, але ці ж усім добра, за каго моляцца?

Як дазнацца пра дзяцей? Прыйдзеш у хату, дык напалохаеш... Каб пазваніць?.. Але не меў дзядзька манеткі для аўтамата. А яны вісяць на дамах, і даволі часта, і трубкі не паадрываныя, і людзі па іх звоняць, гамоняць. Спыніўся дзядзька каля аднаго. Там, у будачцы, хлопец стаіць, з некім размаўляе. Дачакаўся дзядзька, пакуль той хлопец размову скончыў, трубку павесіў і так шчыра пачаў прасіць:

— Сыночак, не пашкадуй двушку старому чалавеку, надта ж пільна трэба пазваніць...

А той глянуў на дзядзьку, як на дзіва, хмыкнуў і кажа:

—Ты, дзядзька, праспаў усё царства нябеснае... Якая двушка! Калі гэта было! Бясплатныя аўтаматы, ідзі, звані!

От жа ўзрадаваўся дзядзька Якуб, падзякаваў хлопцу, у будачку ўціснуўся. Са страхам трубку ўзяў, дрыжачым пальцам набраў нумар сынавай кватэры.

І раптам — такі родны, такі дарагі — сынаў голас:

— Я вас слухаю...

Заняло дыханне ў дзядзькі Якуба, слова сказаць не можа, але ж трэба гаварыць.

— Гэта ты, Данік?

— Я, ага...

— Гэта адзін ваш знаёмы звоніць... Вы яго, можа, і забыліся... Але вось мне цікава, як вы там маецеся?..

— А дзякуй, нічога, так сабе...

— Усе жывы, здаровы?

— Дзякуй Богу, усе жывы, здаровы... Але хто гэта гаворыць, нешта мне ваш голас дужа знаёмы...

Бытта не пачуў дзядзька Якуб тых сынавых слоў, далей пытаецца:

— А ў Міхаські як?

— І ў Міхаські ўсе жывы, здаровы...

— Ну то дзякуй Богу, дзякуй Богу...

І раптам сын сказаў, як выдыхнуў:

— Бацька...

Спужаўся дзядзька Якуб таго слова, выпусціў трубку, павісла тая на ланцужку, а стуль сынаў голас:

— Алё... Алё...

Узяў дзядзька трубку асцярожненька, паклаў на рычажок. Стаяў сцішаны, узрадаваны і разам поўны гаркаты — што не можа ён на сваіх дзетак паглядзець і яны яго ўбачыць не могуць.

Час было да кургана вяртацца. І ён патупаў на Маскоўскую шашу. Зноў ішлося лёгка, толькі сум падступаў час ад часу. Нічога ён не зразумеў, не разабраўся, што робіцца на зямлі. Лепей людзі жыць пачалі ці горш? Нешта тут, на зямлі, яму спадабалася, а нешта — не. Людзі вельмі злосныя зрабіліся, ці яны заўсёды такія былі? Грошы адмянілі, аўтаматы бясплатныя, пенсіянеры дарма ў метро ездзяць... Можа, яны ўсё яшчэ камунізм будуюць, у адной, асобна ўзятай незалежнай Беларусі? Хто іх там разбярэ. Але жывуць, жывуць людзі, а калі жывуць, то не згіне род чалавечы.

Узышоў дзядзька па прыступках на той курган. Толькі ступіў на вяршыню, як пачуў шум крылаў Архангелавых. Апусціўся той на зямлю, пахваліў дзядзьку.

— Малайчына, не спазніўся. Ну, сядай, паляцім дадому. Усеўся дзядзька на крыло Архангелава, і той рушыў у паднябессе.

— Ну як, — пытаецца, — там, на зямлі?

— Мала часу ты мне даў, не разабраўся, — адказвае дзядзька.

— А чаго табе разбірацца, — кажа Архангел. Няхай Бог разбіраецца, а ён, мусібыць, ведае, што робіць.

— Мусібыць, — не вельмі ўпэўнена пагадзіўся дзядзька.

І толькі тут агледзеўся, што дасюль трымае ў руках газету. «Ну што ж, — падумаў, — панясу яе ў рай, там дачытаю».

І яны зноў ляцелі — міма месяца, міма зор, у чарнату і холад космасу, зямля ўсё аддалялася ад іх, адплывала, пакуль сама не стала зоркаю.

Дзядзька Якуб вяртаўся ў сваё бяссмерце.

**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ**



# «ХАЙ БЕРАЖЭ НАС ДЗЕВА МАРЫЯ»

□

А белы дождж змывае кроў з зямлі,
Напружанне і злосць змывае з твараў.
Зноў да мяне сябры мае прыйшлі,
Вясёлыя, як водблiскі пажару.

Яны былі там, дзе крычалі: «Смерць!»
Яны былі там, дзе крычалі: «Слава!»,
І на мяне паблажліва глядзець
Яны цяпер, напэўна, маюць права.

Уражанняў не могучы стрымаць,
Яны смяюцца: «Заўтра будзе воля!»
А я маўчу. Я ведаю: зламаць
Для вязня краты — гэта не даволі.

Бо нашы душы бачыць белы дождж,
І гэта — душы вязняў ці забойцаў.
Мне сорамна, але змаганне больш
Мяне не вабіць выбуховай моцай.

Бо нехта мусіць зараз быць спілом,
Якое голас цішыні запіша.
Таму й прыйшлі вы сёння ў гэты дом.
Тут дождж ідзе. І вас ратуе ціша.

## ПЕСНЯ ШКАЛЯРОЎ

Пойдзем па свеце, брат мой бяскрылы.
Хай беражэ нас дзева Марыя.
Хай нам даруе, што не маліtвы
Нас падтрымалі ў час нешчаслівы,
І за плячыма ў торбе няважкай
Біблія, томік Вальтэра і пляшка.
На Беларусі трактаў багата,
А каля трактаў — карчомкі і хаты.
Ёсць у карчомцы піва і дзічына,
Ёсцека ў хаце красуня дзяўчына.
Пойдзем па свеце, брат мой вясёлы.
Поўня па небе коціцца колам,
Сонца між хмар, як дзяўчына ў кляштары,
Тварык хавае, бледны ад мараў.
Вецер — наш брат, а падліхвае ў спіну.
Бог, ты зляпіў нас —
чорт плюнуў у гліну.
Вось мы, дурныя і маладыя.
Хай беражэ нас дзева Марыя.

## КРЫЖАВАННЕ

Крыжаванне — падзея са звыклых.
Так, чарговы нязначны казан.
Што натоўпу духоўныя сілы
Аднаго — перад вернасцю мас.
І дыктатар картава абвесціць,
Што ён — супраць насілля і пут,
І пячатка яго — на пакеце,
У якім прыгавор да пакут.
Смерць схаваюць чырвоныя сцены,
Што Галгофу у кола ўзялі,
Ні маўчання ніхто не ацэніць,
Ні раскоціцца крык па зямлі.
Вапна з'есць неўваскрэслае цела,
Вучань дзіка зірне на дзяцей,
І адмовіцца ротам збялелым,
Быць апосталам мёртвым — працей.
Крыж забыты — страшней, чым пракляты,
Толькі трэба ўсё роўна ісці.
Перад богам, людзямі і катам
Ахвяруючы — вечна адзін.
Ахвяруючы — ворагам будзе,
І цвікі дабрачынна заб'юць.
І падумаюць добрыя людзі
За сцяною: «Вучэнні ідуць».

□

Апусцілася ноч, як памерлая птушка,
Чорным снегам апала на нашы дамы.
Цішыня адзіноты раптоўна аглушыць,
І сябе ўзненавідзім раптоўныя мы.
Шыбы вокнаў начных
адаб'юць нашы вочы,
Батлеемская зорка
пагасне ў траве.
Бльтаніна з рэлігій і кніжак прарочых,
І надзея на шчасце ў дурной галаве.
Асыпаецца неба па зорцы ў далоні
Цёмнатварай гадалкі
з мянушкай Зямля.
Мы нічога не зменім і не ўзаконім.
Прывід ночы на дзённага чхаў караля.
Можа, лепш памаліцца?
За вокнамі цёмна.
Можа, лепш проста легчы і ціха заснуць?
...І Джульета ніколі не сыдзе з балкона,
Каб жыцця ап'яняльную страсць удыхнуць.

## ДАЛІ

З гадзінніка цячэ павольна час,
Твар у люстэрку набывае рысы
Паганскіх стодаў.
Столь, як саван, вісне
Перад вачыма, і хавае нас.
А неба, як нявіннае дзіця,
Глядзіць праз шыбы лялечна-прыгожа,
І мне амаль што не шкада жыцця,
Але шкада таго, хто жыць не можа.
Глядзіся, свет, у здань сваю, у цень,
І не кажы, што ўсё мастак прыдумаў.
Дзе сонца праплывае па вадзе,
Там лётаюць смуглявыя красуні.
Свет! Ты не ўмееш над сабой пакпіць,
І як слімак, твой час паўзе старанна.
І мастакоў, што не баяцца жыць,
Ты запрашаеш позна альбо рана.
Разрэзанае мяса і гранат
Аднолькавага колеру для вечных.
Вада, якою рукі мыў Пілат,
Іх фарбы разбаўляе кожны вечар.

□

Самотныя вершы самотны напоўнілі дом.
Самота на твары так старыць, але —
не прагоніш.
Забіць бы яе цяжкай працай, заліць бы
віном —
Благі я пітух, а работнік, прызнацца,
найгоршы.
Напэўна, няблага было б дэтэктывы
чытаць,
З кабетамі сесці на лаўцы і свет
абмяркоўваць.
Але без цябе мае вочы сцямніла нуда,
Але без цябе не хачу я прыдумваць,
ні помніць.
Як трэскі на хвалях, бяздумна
гайдаемся мы
Па самай паверхні жыцця — караблямі
завемся.
Не промні, якія ляжаць на падлозе турмы,
А шэрыя пліты падлогі — і лёсы, і песні.
Не выслізнеш з месца, якое адвёў табе рок.
Здавалася ўсё манатонным — і трэшчына
раптам,
Самота, расстанне...
Карысным нам станецца ўрок:
Хто хоча самоты — той сам у ва ўсім
вінаваты.

□

У час, калі крылом сваім душа
Няроўную мяжу ў пяску пракрэсліць,
І будзе позна нешта вырашаць,
І за сталом трынаццаць рыпнуць крэслаў,
Ну што прамовіць, падзяліўшы хлеб,
Віно пусціўшы чарай кругавою?
Пра кроў, што праступае на крыле?
Ды госці хочуць святасці спакою.
Я не хачу, я не хачу ўміраць!
Хай зацвярдзее неба сінім лёдам,
Няхай не лётаць болей, не спяваць
І не прарочыць прад сваім народам.
Але запозна. Першы з-за стала
Падняўся і пайшоў хадой упартай.
Рассыпаная соль бялей крыла,
І тысяцца зброю рымскія салдаты.
Ах, як захочацца ўсе спыніць,
Вярнуць сабе дарогі і бясконцасць!

**РУКАПІСЫ НЕ ГАРАЦЬ**

# ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ... МУЗЫКАНТ?

Тры гады таму даследчык беларускай польскамоўнай літаратуры XIX ст. Уладзімір Мархель, ведаючы, што мы з піяністкай Г.Каржанеўскай выконваем цыкл канцэртаў «Анталогія беларускай вакальнай музыкі», прапанаваў нам ідэю канцэрта «Манюшка на радзіме». Ён жа зрабіўся і асноўным перакладчыкам тэкстаў рамансаў на беларускую мову. Сярод твораў, прадстаўленых у праграме «Манюшка на радзіме» (канцэрт адбыўся летась у лістападзе), быў і адзіны ацалелы нумар з оперы «Сялянка» — на вершы В.Дуніна-Марцінкевіча.

Заўважу, што на Беларусі ноты С.Манюшкі — рэдкасць. На шчасце, наведаўшыся ў Убель, на радзіму кампазітара, мы, дзякуючы дапамозе стваральніка Манюшкавага музея — В.Несцяровіча і ягонай дачкі І.Несцяровіч, цяпер дырэктара музея, зрабіліся ўладальнікамі 114 твораў С.Манюшкі. Сярод іх— арыя камісара Банавентуры Выкрутача «Ах!» з «Сялянкі». У заўвагах да выдання, польскага нотадруку 1988 года, пазначана: друкуецца ўпершыню (!).

Разгорнем вядомую кнігу «Музычны тэатр Беларусі (дакастрычніцкі перыяд)». У артыкуле А.Капілава «Музычны тэатр Беларусі XIX — пачатку XX стагоддзя» чытаем: «Сялянку» неаднаразова ставілі ў Мінску (1853, 1855), Бабруйску, Слуцку, Нясвіжы, Глуску. На мінскай сцэне сам В.І.Дунін-Марцінкевіч выконваў у оперы галоўную ролю Навума Прыгаворкі. Яго нешараговая музычнасць адзначалася многімі сучаснікамі. У прыватнасці, Адам Плуг сцвярджаў, што В.І.Дунін-Марцінкевіч «раней праславіўся як здольны артыст, выступаў ён у публічных канцэртах з маленькім тады сынам і дачкой, якія здзіўлялі сваім незвычайным талентам». Праўда, сучаснікі, на жаль, не пазначылі, у якой канкрэтна сферы музычнай творчасці выявіў свае здольнасці драматург. Усё ж найбольш верагодна, што гэтай сферай былі спевы. Сапраўды, наўрад ці В.І.Дунін-Марцінкевіч мог сур'ёзна разлічваць на поспех у публікі, калі б яго вакальныя дадзеныя не адпавядалі оперным патрабаванням. У партыі Навума Прыгаворкі ёсць разгорнутыя вакальныя нумары.

У афішы да спектакля надрукавана: «...опера в двух действиях на польском и простонародном языке, сочинения Викентия Мартинкевича с музыкою Монюшко, Кржижановского и прочих под заглавием «Селянка»... Што ж датычыць «прочих», дык можна дапусціць, што такім спосабам схаваў свае дачыненне да стварэння оперы хтосьці з мясцовых музыкантаў, блізка знаёмых з С.Манюшкам і В.І.Дуніным-Марцінкевічам. Мажліва, гэта быў Д.Стафановіч (першы настаўнік С.Манюшкі ды дачкі В.І.Дуніна-Марцінкевіча Камілы), а можа быць П.Карафа-Корбут (настаўнік музыкі Манюшкавай маці, які граў на 24-х інструментах)».

Вось пытанні, якія ў сувязі з гэтым паўстаюць.

Чаму не захаваліся менавіта мінскія партытуры С.Манюшкі?

Як здарылася, што опера, якая ставілася ў пяці гарадах, не ацалела?

Чаму, хаця даўно вядома пра існаванне аўтографа арыі «Ах!», надрукавана яна была толькі ў 1988 годзе?

Калі захаваўся аўтограф аднаго з нумароў оперы, ці не захаваліся ноты іншых? Калі так, дык дзе яны?

Хто ж з аўтараў-ананімаў на самай справе хаваецца сярод «прочих» у афішы «Сялянкі»?

Выпадак дае, здаецца, магчымасць адказаць на два апошнія пытанні. Сёлета чакаецца прэм'ера «Ідыліі» (а гэта і ёсць «Сялянка») В.Дуніна-Марцінкевіча на сцэне купалаўскага тэатра. Пастаноўшчыкі спектакля запрасілі мяне ў якасці музычнага кансультанта. Падчас сустрэчы з рэжысёрам М.Пінігіным ды кампазітарам У.Кур'янам мы шмат гаварылі пра С.Манюшку, я ўбачыў ксеракопію першага выдання лібрэта, ксеракопію аўтографа «Ах!» і даведаўся пра зусім ашаламляльны для мяне факт.

Аказваецца, Язэп Янушкевіч, даследчык творчасці Дуніна-Марцінкевіча, адшукаў у Польшчы праўнучку драматурга, і яна праспявала пад гітару шэсць нумароў з «Сялянкі» ды «Пінскай шляхты», аб'яўляючы пры гэтым: « Словы і музыка Дуніна-Марцінкевіча»(!).Што і запісаў Я.Янушкевіч на магнітафонную стужку...

А і праўда — рукапісы не гараць! Канечне, сведчанне праўнучкі — гэта толькі ўскосны доказ аўтарства. Але ж тое, што музычны матэрыял мог перадавацца ў гэтай сям'і з пакалення ў пакаленне як спадчына, — бясспрэчна. Ва ўсякім разе гэты факт сведчыць, што гаварыць пра беззваротную страчанасць музыкі «Сялянкі» рана. А В.І.Дунін-Марцінкевіч, магчыма, раскрыецца перад намі яшчэ адной гранню свайго цудоўнага таленту.

Надзвычай таленавіты і творчы чалавек, У.Кур'ян можа зрабіць адметныя апрацоўкі тых арый, што запісаў на стужку Я.Янушкевіч, і яны стануць унікальным рэпертуарным набыткам «Беларускай Капэлы».

**Віктар СКОРАБАГАТАЎ**

**P.S. Пані Марыя Фолтын, старшыня Таварыства сяброў Манюшкі, падчас нядаўняга візіту ў Мінску паведаміла, што знойдзена партытура оперы С.Манюшкі «Яўрэйскі рэкруцкі набор». Рукапісы не гараць!**

**В.С.**

**ВІНШУЕМ!**

***31 сакавіка Валянціну Пятровічу ГРЫЦКЕВІЧУ, гісторыку, філолагу, грамадскаму дзеячу спаўняецца 60 гадоў. Вядомы на Беларусі і за яе межамі не толькі сваімі публікацыямі, але і актыўнай культурна-асветніцкай дзейнасцю, Валянцін Пятровіч здолеў згуртаваць вакол сябе беларускую суполку ў Санкт-Пецярбурзе і аддае шмат сілы і ўвагі не толькі сваёй навуковай дзейнасці, але і наладжванню больш цесных сувязей паміж Беларуссю і Санкт-Пецярбургам, дзе ён зараз жыве і працуе. Напярэдадні юбілею Валянцін Пятровіч згадзіўся адказаць на некалькі нашых пытанняў.***



# ЗНОЙДЗЕЦЦА ПОПЫТ І НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ...

**— Валянцін Пятровіч, вы неаднойчы падкрэслівалі, што ніколі не займаліся палітыкай (асноўны накірунак вашай дзейнасці — навука, асветніцтва і культура). Ці не падманваеце вы сябе, гаворачы гэтак, хаця такі падман у нечым апраўданы: так лягчэй жыць, лягчэй рабіць тое, да чаго маеш схільнасці і прызванне? Што вы скажаце сёння: культура — гэта палітыка?**

— Але! Толькі ў іншай форме. Карэннае слова «культура» ў ягоным арыгінальным гучанні — ад слова «вырошчваць». Займацца культурай, а не палітыкай (я маю на ўвазе сябе і некаторых маіх равеснікаў, маладосць якіх прыпала на астатні этап сталінскага рэжыму і на хрушчоўскую адлігу) нас прымусілі знешнія фактары. Палітыка — і ў той час, і ў брэжнеўска-суслаўскі перыяд — была зручным месцам для тых, хто разлічваў на нейкі хуткі жыццёвы аванс. 'Той, хто меў у перспектыве іншае — самапаглыбленне, — займаўся культурай.

Просьба не разглядаць мае погляды на культуру і на палітыку як нейкую форму эскапізма. Ніякага адыходу ад жыцця ў іх няма. Я і зараз лічу, што «культываваннем» — «вырошчваннем» — можна дасягнуць далёкіх мэт не менш накіравана, чым сённяшнімі палітычнымі ўздзеяннямі.

**— Ці задаволены вы лёсам, жыццём, тым, што зроблена?**

— Дрэнна будзе, калі я буду задаволены і лёсам, і жыццём, і тым, што зроблена. Бо адразу знікае той імпульс, які рухае табою. Шкада, што не давялося на поўны голас сказаць тое, што хацеў, зрабіць тое, што — як хочацца верыць! — здолеў бы зрабіць.

Але было б фальшывым не прызнаваць, што ты нечым і задаволены. І ў першую чаргу асяроддзем — сям'ёю, сябрамі, атачэннем. Здаецца, добра, што ў Пецярбурзе склалася разумнае асяроддзе беларусаў, якое пры належных абставінах здолее актыўна дзейнічаць. Добра, што яно не залежыць ад чыёйсьці ласкі, а разлічвае толькі на свае сілы.

**— Ваш творчы багаж: кнігі, даследаванні, іншыя публікацыі?**

— Навуковых прац (не лічачы газетных публікацый) — больш за дзвесце, асобных выданняў — адзінаццаць. Дарэчы, першае з іх — не па гісторыі, а па эндакрыналогіі, бо пятнаццаць гадоў я працаваў урачом-практыкам.

«Тоўстыя» выданні — «Путешествие наших земляков» (Мінск, 1968), «Dešimt kelių is Vilniaus» («Дзесяць шляхоў з Вільні») (Вільня, 1972), «Шляхі вялі праз Беларусь» (разам з А.Мальдзісам) (Мінск, 1980), «Эдуард Пякарскі» (Мінск, 1990), «Адысея беларускай лекаркі» (Мінск, 1990) і інш. Рыхтую зборнік гістарычна-

**РЭЗАНАНС**

# ЗНОЎ ПРА НЯСВІЖСКІЯ СКАРБЫ

***Газета «ЛіМ» летась 8 верасня надрукавала артыкул пад назваю «Вярніце нарабаванае!». Яго аўтар В.Піліпчык гаварыў пра горкі лёс культурных каштоўнасцей беларускага народа, у прыватнасці, Нясвіжскага замка Радзівілаў, якія ў розны час апынуліся за межамі рэспублікі і найбольш у Расіі.***

Гэта сцвярджэнне бясспрэчнае. Мы маем дакументы і матэрыялы, якія сведчаць аб тым, што скарбы беларускай культуры частякам вывозіліся ў Маскву. Напрыклад, 2 лістапада 1940 года газета «Известия» паведамляла, што маскоўскі гістарычны музей у час экспедыцыі ў заходнія вобласці Беларусі вывез шмат каштоўных рэчаў, у тым ліку мэблю з маёнтка Завішча (каля Пінска), два арыгінальныя, аздобленыя разьбой крэслы з епіскапскага палаца ў г.Пінску і цудоўнай работы крэсла з косці рагоў аленяў, якое знаходзілася ў паляўнічай зале Нясвіжскага замка. Тая ж газета 7 верасня 1940 года сцвярджала, што Цэнтральны антырэлігійны музей (Масква) атрымлівае днямі з Пінска два вагоны старадаўніх кніг і рукапісаў (болей за 30 тысяч), якія захоўваліся ў бібліятэцы Пінскай каталіцкай семінарыі.

Знойдзены ў сховішчах дакументы пацвярджаюць інфармацыю аўтара артыкула аб каштоўнасцях Нясвіжскага замка Радзівілаў на час прыходу туды Чырвонай Арміі. Згодна спісу, састаўленаму 20 кастрычніка 1939 года адказнай асобай Саюза мастакоў (т.Гаўрыленка), было ўзята на ўлік 264 адзінкі карцін і партрэтаў, што ўпрыгожвалі залы замка Радзівілаў. Гэта былі фамільныя партрэты роду Радзівілаў, 20 работ мастака Фалато ( канец XIX — пачатак XX ст.), што адлюстроўвалі сцэны палявання і тыпы паляўнічых, некалькі скульптурных партрэтаў. У гэтым дакуменце гаворка ідзе пра 32 слуцкія паясы, што знаходзіліся ў рыцарскай зале замка, шматлікія каштоўныя рэчы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і самадзейнай творчасці беларускіх сялян. Напрыклад, там знаходзілася шафа, зробленая з неачышчаных бярозавых сучкоў, люстра з розных парод дрэва, аздобленае яловымі шышкамі і карой, вазы, распісаныя расліннымі арнаментам, гадзіннік, лямпы і многае іншае. Але нам цяжка згадзіцца з думкай, якая вынікае з тэксту артыкула, што аб гэтых каштоўнасцях ніхто ў Беларусі не турбаваўся.

Вядома, тагачаснае палітычнае становішча Беларусі і не давала рэспубліцы магчымасці суверэнна распараджацца сваімі багаццямі. Усё ж тое-сёе беларускія ўлады рабілі, ці дакладней — спрабавалі рабіць. Дакументы сведчаць аб тым, што за гэты час (верасень 1939 — чэрвень 1941) Бюро ЦК КП(б) Беларусі чатыры разы разглядала пытанне аб замку былога маёнтка Радзівілаў. Так, 27 снежня 1939 года Бюро ЦК КП(б)Б прыняло рашэнне арганізаваць у Нясвіжскім замку гістарычны музей і падпарадкаваць яго Упраўленню па справах мастацтва пры СНК БССР. Па невядомай прычыне праз два тыдні, 10 студзеня 1940 года, Бюро ЦК КП(б)Б прыняло другое рашэнне: замак Радзівіла перадаць пад Дом адпачынку НКУС БССР, пакінуўшы часова на месцы гістарычныя каштоўнасці. Але і на гэтым справа не скончылася. На пасяджэнні Бюро ЦК КП(б)Б ад 5 ліпеня 1940 г. зноў абмяркоўвалася пытанне аб выкарыстанні будынка і маёмасці былога замка Радзівіла. І зноў новае рашэнне:

«1. *Прызнаць немэтазгодным* арганізацыю музея ў будынку былога замка Радзівіла. Маёмасць замка размеркаваць наступным чынам:

а) бібліятэку і архіў перадаць Акадэміі навук;

б) найбольш каштоўныя мастацкія карціны, збор слуцкіх паясоў, частку мэблі, каштоўныя скульптуры і вазы перадаць Упраўленню па справах мастацтва пры СНК БССР для Рэспубліканскай карціннай галерэі;

в) збор зброі і частку маёмасці рыцарскай залы перадаць гістарычнаму музею. Частку рыцарскіх даспехаў перадаць кінастудыі «Савецкая Беларусь»;

г) збор паляўнічай залы сканцэнтраваць у музеі Белавежскага дзяржаўнага запаведніка;

д) усе касцюмы перадаць

публіцыстычных артыкулаў апошніх год «Міфы саступаюць неахвотна». Разам з братам Анатолем Грыцкевічам — кнігу «Постаці беларускай гістарыяграфіі) і шмат чаго іншага.

**— Ваш творчы багаж, які застаўся незапатрабаваны Радзімай, дзяржавай?**

— Мне здаецца, што я мог бы паслужыць Беларусі крыху больш, чым зараз. А менавіта — чытаннем лекцыйных курсаў, напрацаваных тут, у Пецярбурзе: «Методыка і тэорыя гістарычнага крыніцазнаўства», «Замежнае гістарычнае крыніцазнаўства», «Новая і навейшая гісторыя сярэдніх і меншых этнасаў Еўропы», «Асноўныя пытанні гісторыі, крыніцазнаўства і гістарыяграфіі Беларусі».

Але, ведаеце, ёсць добрае правіла: не хадзіць у той дом, у які цябе не запрашаюць. Хочацца спадзявацца, што хаця б на курс «Гісторыя Беларусі XIX стагоддзя», над якім я зараз працую, знойдзецца попыт і на Бацькаўшчыне.

**— Беларуская суполка ў Санкт-Пецярбурзе для вас што: 1) адтуліна, якая дазваляе зрабіць глыток свежага паветра ў рускім і рускамоўным горадзе? 2) абавязак? 3) спроба неяк уздзейнічаць на тыя працэсы Адраджэння, якія адбываюцца не толькі на Бацькаўшчыне, але і тут, у Расіі?**

— Усё пералічанае. Лічу Беларускую суполку (дай Божа, каб засталося так і надалей) надта гарманічным і ўдачлівым утварэннем, якое дазваляе кожнаму свядомаму беларусу самарэалізавацца ў няроўным, хоць надта блізкім па выхаванні і мове асяроддзі і дае магчымасць адчуваць даўнюю еўрапейскую і беларускую традыцыі ў гэтым самым еўрапейскім у Расіі горадзе, ніколькі не шкодзячы гэтаму асяроддзю і паасобку — кожнаму з сяброў суполкі.

**— Разам з кампазітарам і мастацтвазнаўцам Ігарам Мацыеўскім і этнографам Алегам Лысенкам вы рыхтуеце праграму для Салавянскага ліцэя, адчыненага летась у Санкт-Пецярбурзе. Чаму вы не згадзіліся выкарыстаць тыя вучэбныя праграмы, якія ўжо ёсць?**

— Бо яны не адпавядаюць тым задачам, якія мы ставім перад ліцэем. Дарэчы, цікава, што ініцыятары ўтварэння ліцэя паперш разлічвалі навучаць дзяцей толькі чэшскай, польскай, балгарскай, сербскай і харвацкай мовам, без уліку сваіх бліжэйшых суседзяў — усходніх славян, і нам давялося звярнуць іхнюю ўвагу на пэўную бессэнсоўнасць такога падыходу, тым больш што ў Пецярбурзе жыве шмат як украінцаў, так і беларусаў.

Пара разбурыць традыцыйнае ўяўленне аб духоўнай і матэрыяльнай культуры нашых народаў, што і прадугледжвае праграма, а сябры суполкі — настаўнікі-філолагі, гісторыкі, музыканты, этнографы — здолеюць навучыць русіфікаваных беларускіх і ўкраінскіх дзяцей роднай мове, здолеюць у поўнай меры пазнаёміць іх з культурай нашых продкаў.

**— Вашы пажаданні Валянціну Пятровічу Грыцкевічу — гісторыку, асветніку, юбіляру?**

— Здароўя!

**Са спадаром**
**ГРЫЦКЕВІЧАМ**
**гутарыў**
**Анатоль КІРВЕЛЬ**

*Санкт-Пецярбург*

---

Вялікаму тэатру оперы і балета і кінастудыі;

е) усю астатнюю маёмасць рэалізаваць праз дзяржаўны гандаль;

ж) коней перадаць раённым арганізацыям Нясвіжскага і Клецкага раёнаў, за выключэннем племянных коней, якія перадаць на адну з дзяржаўных канюшань.

2. Будынак былога замка перадаць у распараджэнне НКУС БССР для размяшчэння аўтадарожнага тэхнікума.

3. Для рэалізацыі гэтага рашэння стварыць камісію ў саставе: т.Красніка (камісара замка), т.Азірскага (нач.Упраўлення па справах мастацтва), т.Сіротка (сакратара Нясвіжскага райкома партыі)».

На дакуменце стаяць подпісы сакратара ЦК КП(б)Б Панамарэнкі і Старшыні СНК БССР Былінскага.

Нам невядома аб працы гэтай камісіі, але пэўна мала што было ёй зроблена, бо амаль праз паўгода, 6 студзеня 1941 года, зноў на Бюро ЦК КП(б)Б слухалася пытанне аб перадачы маёмасці і каштоўнасцей былога замка Радзівіла. Пастанавілі стварыць новую камісію. У тыднёвы тэрмін камісія павінна была прадставіць прапановы па размеркаванні маёмасці і каштоўнасцей былога замка Радзівіла паміж арганізацыямі і распрацаваць усе мерапрыемствы, звязаныя з улікам, ацэнкай, перадачай і перавозкай маёмасці і каштоўнасцей. Камісія павінна была кіравацца наступным: маёмасць і каштоўнасці замка перадаць:

а) бібліятэку і архіў — АН БССР;

б) каштоўныя мастацкія карціны і скульптуры — Карціннай галерэі БССР;

в) рыцарскія даспехі, зброю і другую маёмасць рыцарскай залы — гістарычнаму музею БССР і кінастудыі;

г) збор паляўнічай залы — музею Беластоцкага дзяржаўнага запаведніка;

д) касцюмы, мэблю — Вялікаму тэатру оперы і балета, БДТ-1, Дому работнікаў мастацтва.

Камісія працавала хутка. І ў пачатку 1941 года частка архіва і бібліятэка, якія захоўваліся ў Нясвіжы (большая і каштоўнейшая частка дакументаў раней была вывезена ў Варшаву), была перавезена ў Мінск (каля 60 тон) і размешчана ў Гістарычным архіве АН БССР. Былі перавезены ў Мінск і іншыя каштоўнасці Нясвіжскага замка. Але пачалася Вялікая Айчынная вайна. Гітлераўцы з першых дзён наладзілі сістэматычны вываз культурных каштоўнасцей з архіваў, музеяў і бібліятэк Беларусі. У Германію быў вывезены архіў Акадэміі навук, у тым ліку і матэрыялы Нясвіжскага архіва. Разрабаваны і вывезены багатыя фонды гістарычнага музея, у якіх знаходзіліся рэчы з нясвіжскіх збораў Радзівілаў.

Пасля вайны дакументальныя матэрыялы Нясвіжскага архіва былі вернуты і перададзены ў Дзяржаўны архіў Мінскай вобласці. Сёння фонд Радзівілаў захоўваецца ў Цэнтральным дзяржаўным гістарычным архіве РБ у Мінску.

Прыведзеныя ў нашым артыкуле звесткі аб лёсе каштоўнасцей Нясвіжскага замка падштурхоўваюць на новыя пошукі ў гэтай справе.

**Марыя БАБЁР,**
**навуковы супрацоўнік беларускага Навукова-даследчага цэнтра дакументацыі і рэтраінфармацыі**

---

**СТАРОНКІ ЎСПАМІНАЎ**

# ДЫРЫГЕНТ

## *Да 100-годдзя з дня нараджэння Іллі ГІТГАРЦА*

Спачатку трохі пра забаўнае. Была ў Мінску славутая гасцініца «Еўропа». Як тады казалі, фешэнебельная. Месцілася яна на рагу колішніх вуліцы Губернатарскай і Сабornага пляца (у савецкі час вуліца Леніна і плошча Свабоды). Велічная, з люстранымі шыбамі, з вусатымі швейцарамі ў залатых галунах. І там быў рэстаран, дзе асабліва ўтульная зала была аздоблена інкруставаным дрэвам, удзень залітая сонечнымі праменнямі, а ўвечары — ветлівым святлом з-пад абажураў. І тут аднойчы абедалі мы ўдвох з Іллёй Аляксандравічам Гітгарцам. Ну, то быў вядомы ў артыстычным свеце эпікурэец, аматар добра пасмакаваць і паласавацца рознымі прысмакамі і трынкамі. І вось, трымаючы на відэльцы сакавіты кавалак, аблізваючы губы, ён раптам глядзіць некуды і пра ўсё забывае. Я сабе падсілкоўваюся, а ён утаропіўся кудысьці — дый годзе! Заўважаю, што туды ж скіроўваюць позіркі і нашы суседзі насупраць. Куды ж і на каго глядзіць так пільна вядомы ўжо дырыгент?

У залу па-каралеўску велічна ўваходзіла Ларыса Александроўская. У дзівоснай сукенцы з пераліўчатага шоўку, ладная, добразычліва ўсмешлівая, прыгожая. Здаецца, дырыжор, знаёмы з гэтай опернай спявачкай з 30-га года, яшчэ студыйкай, які па некалькі дзён на тыдзень вядзе з ёй рэпетыцыі ў тэатры, павінен добра ведаць гэтую постаць жаночага харасства. Дык жа — не: нібы ўпершыню ўбачыў, нават забыўся на сваё любімае смакоцце...

Само прозвішча «Гітгарц» у музыкантаў, што працавалі з ім, выклікае розныя згадкі і асацыяцыі. Перш-наперш прыгадваюць ягоную схільнасць выбухова абурацца і лаяцца, калі хтосьці ў аркестры фальшывіў. Тут ён за пультам нагадваў раз'юшанага тыгра. І мянушка была ў яго: «Дэспат за пультам». І не надта строга сачыў ён за лексікам сваіх не самых прыстойных воклічаў. Я таму сведка. Але часцей за ўсё Гітгарц амаль адразу ж і забываў пра сваё шалёнае абурэнне і пасля рэпетыцыі мог абняць таго скрыпача або валтарніста і пачаць выслухоўваць чарговы анекдот або запрашаць таго ў піўны бар.

Помніцца мне і тое, што літарамі на паперы перадаць немагчыма. Напрыклад, на рэпетыцыях «Кармэн» ён спыняе аркестр і крычыць: «Першая скрыпка, вы цягнеце «ы-і-і-ы», а я вас прашу строга сачыць за нотным распарадкам і спяваць «і-ы-і-і-ы» з пераходам да суцэльнага «і-і». Як паўтарыць ягоны спецыфічны дырыгенцкі спеў? Дарэчы, сам Ілля Гітгарц быў па кансерваторскай адукацыі скрыпачом. Я не адзін раз чуў, як раптоўна плакала пад ягоным смыкам струна гэтага інструмента, які́м задуменным атрымліваўся ў яго Паганіні і колькі трагедыйных прадчуванняў ён здабываў са скрыпкі, іграючы музыку Сібеліуса. Але гэта так — «для размінкі» пальцаў, як ён казаў.

Галоўнае ягонае прызванне — дырыгент. Прастаяўшы тры сезоны за пультам аркестра Другога БДТ, ён у 30-ым годзе робіцца галоўным дырыжорам Беларускай студыі оперы і балета, якая паклала пачатак існаванню прафесійнага музычнага тэатра, вядомага цяпер як Дзяржаўны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета Беларусі. Вядома, што ад працаздольнасці і працалюбства, ад густу і цярплівасці, ад педагагічных якасцей і ад інстынкту такога музыканта залежыць лёс многіх спевакоў. І рэпутацыю І.Гітгарца як адмысловага музыканта і выдатнага настаўніка пацвярджала пасля студыі кар'ера нашых знакамітых оперных галасоў. Ларыса Александроўская ды Ісідар Балоцін, Соф'я Друкер ды Міхаіл Дзянісаў, Мікалай Пігулеўскі ды Валяр'ян Каліноўскі на занятках у студыі і потым, ужо як салісты толькі-толькі адкрытага ў 1933 г. opернага тэатра, чулі ад свайго патрабавальнага дырыгента і жорсткія заўвагі, і словы падтрымкі, і ўзрушаныя кампліменты.

Я часцяком бачыў Іллю Аляксандравіча ў хаўрусе з не менш апанаваным музыкай Юльянам Дрэйзіным. Вядомы перакладчык, педагог і публіцыст, ён быў адным з першых нашых музыказнаўцаў, які сапраўды па-навуковаму мог аналізаваць новыя з'явы ў культуры. Ягонаму пяру належыць і першы слоўнік «Музычныя тэрміны», выдадзены ў 1926 г. у Мінску, і грунтоўныя артыкулы пра новыя плыні ў сучаснай беларускай музыцы, і пераклады на беларускую мову лібрэта класічных опер. З эрудзіраваным суразмоўнікам Гітгарц паглыбляўся ў такія эстэтычныя глыбіні, што я, хаця і лічыў сябе гарачым аматарам музычнага мастацтва, сціпла трымаўся ўбаку і толькі слухаў дыялогі гэтых заўзятых знаўцаў харaства і сусветна вядомых пералаў культуры.

Затрымалася ў маёй памяці размова пра альты ў складзе сімфанічнага аркестра. З якім напалам абвяргаў Гітгарц меркаванне, што альт нібы больш грубы, чым скрыпка. Не, не! Альт таксама здольны спяваць пяшчотна, інтымна, патаемна, быццам бы «ў нос». Ці не таму ён — незаменны спадарожнік скрыпкі! Наогул смычковыя інструменты для Гітгарца былі — боскімі галасамі, якія па-свойму і нярэдка больш маляўніча за чалавечы голас раскрываюць тонкія душэўныя зрухі і далікатныя нюансы перажыванняў. Добрую палову аркестра складаюць якраз смычковыя — і гэта невыпадкова! Колькі невычэрпнага харaства нараджаюць тыя ж альты або віяланчэлі! А скрыпкі, калі пачынаюць выводзіць піцыката... А скрыпка з сурдзінай — быццам песня з туману... Такія маналогі на карысць інструмента І.Гітгарц мог гаварыць і пра флейты, і пра літаўры, і пра цымбалы, і пра барабан.

Але музыку стварае кампазітар, артысты выконваюць яе — інструменталісты або вакалісты. А дырыжор? Ці не ён кіруе тым, як час запаўняецца гукамі рознай працягласці, і менавіта з гэтых гукаў складаецца, зліваецца, гартуецца ў адно цэлае яна — музыка: сімфонія або уверцюра, кантата ці опера... Гітгарц быў з тых дырыжораў, якія пакланяюцца дакладнасці. Музыкант абавязаны выконваць ноты так, як яны напісаны Вердзі або Чайкоўскім, Аладавым або Крошнерам. Цэлая нота, бывае, цягнецца адну секунду, а палавінная — палову секунды, восьмая — восьмую і ... так да адной шэсцьдзесят чацвёртай секунды! Якраз гэтага і вымагаў ад артыстаў аркестра Гітгарц, ведаючы, што музыкант штодзённа па-рамесніцку трэніруецца ў выкананні гэтых драбнюткіх гукаў, каб з мікрадакладнай трапнасцю злучыць «пошчак» з пэўным музычным малюнкам, мелодыяй, вобразам.

Бачыце, колькі мне спатрэбілася слоў, каб наблізіць чытача да таго, чаго вымагаў ад інструменталістаў і спевакоў мой добры знаёмы ў свеце беларускага музычнага тэатра Гітгарц. Я сведчу, што такія розныя музыканты, як Аляксандр Амітон, Аркадзь Бяссмертны, Леў Гарэлік, Сямён Асновіч, оперныя салісты — Ларыса Александроўская і Рыта Млодак, Вера Малькова і Мікалай Сярдобаў, артысты балета — Сямён Дрэчын і Юлія Хіраска, ставіліся да творчых патрабаванняў гэтага адоранага прыродай дырыгента з пачцівасцю і шчырай павагай. Так, выканаўцы і спрачаліся з ім, і разыходзіліся ў ацэнках тых або іншых з'яў у мастацтве, але гэта не перашкаджала ім бачыць сапраўды здатнага захапляцца музычным харaством дасканалага знаўцу сваёй прафесіі. Прафесіі, без якой музычны тэатр наогул не можа жыць, рухацца і развівацца.

Калі ўжо самыя рэзкія словы бывалі сказаны, калі аргументацыю сваю Гітгарц, бывала, вычэрпваў дарэшты, ён рабіў паўзу і, гледзячы на вас сваімі вялікімі, светлымі ад суму вачамі, гаварыў зусім ціха: «Гэта ж — музыка...» Прамовіўшы тое, сам раптам нібыта абуджаўся і з палаючым позіркам паўтараў для самога сябе: «Гэта ж — музыка... музыка!..» З такім воклічам мог пасля фінальных гукаў опернага ці балетнага спектакля прайсці да флейтыста або арфісткі і гучна выказаць сваё захапленне тым, як музыкант па-майстэрску выканаў, магчыма, і зусім другарадны для агульнага гучання пасаж. І ў гэтым узрушэнні ад праявы харaства, непасрэдным і шчырым, быў ён — эрудзіраваны, высока прафесійны і ўсім сэрцам адданы сваёй справе дырыгент. Харaство ва ўсіх праявах яго вабіла, захапляла, хвалявала як мастака, заклікала тое харaство перакладаць на мову музычнага інструмента, вакалу, балетнай пластыкі.

Ці не такім адкрылася яму і харaство, з якім з'явілася ў незабыўны для мяне дзень падчас абеду ў рэстаране «Еўропа» маладая Ларыса Александроўская. Яна часта спявала ў операх, якімі дырыжыраваў Ілля Аляксандравіч. І аднойчы параўнала мастацтва музычнага тэатра з эхалотам, які па даўжыні сігналу вызначае глыбіню мора, — мастацтва, якое ствараецца такімі энтузіястамі, як І.Гітгарц. Яно і сапраўды памагае нашаму сэрцу далучацца да глыбіні запаветных чалавечых перажыванняў, каб наблізіцца душою да дабрыні і ісціны.

**Заір АЗГУР**

---

**Беларуская Акадэмія мастацтваў выказвае глыбокае спачуванне загадчыку кафедры графікі Савічу Уладзіміру Пятровічу з прычыны смерці БАЦЬКІ.**

# «ЦЯЖКА САПЕРНІЧАЦЬ З АСТАНКІНА...»

(Пачатак на стар. 5)

б па-беларуску? Спадзяюся, што калі-небудзь будуць такія тэхнічныя ВНУ: а з лістоў акадэмікаў, што страшаць нас беларускай мовай у тэхніцы, мы проста будзем смяяцца...

**— У лістах нашых чытачоў можна сустрэць пытанні: чаму Беларускае тэлебачанне ў асноўным тэлебачанне гаваруноў?**

— Бо прасцей пасадзіць чалавека ў студыі ды запісаць размову. А паспрабуй выехаць у экспедыцыю на здымкі, калі няма здымачнай тэхнікі, машыны, бензіну, відэачасу, трактаў... Апошнія два словы не ўсім чытачам знаёмыя. Гэта жорсткае нарміраванне часу карыстання апаратнымі, студыямі, здымачнай тэхнікай. Калі б 100 рэжысёраў захацелі адначасова здымаць ды манціраваць перадачы, то ім трэба было б даць столькі ж тэлекамер і апаратных. А ў нас усіх апаратных на выдачу ў эфір, на прагляды і мантаж толькі 10. Дзесяць, а не 100. Рэжысёры стаяць у чарзе, каб ажыццявіць сваю задуму...

**— Відаць, вам зручней трансляваць сесіі Вярхоўнага Савета, чым шукаць магчымасці для здымкаў?**

— Якраз наадварот. Калі працуе сесія, то мы нясём найвялікшыя выдаткі. Дзве перасоўныя станцыі прыкаваны да Дома ўрада. З раніцы да позняй ночы чатыры апаратныя з 10 заняты запісамі і мантажамі сесіі: вечарам мы абавязаны даць скарочаны рэпартаж. Астатнія перадачы чакаюць сваёй чаргі, калі сесія скончыцца.

**— Ці існуе на БТ такая з'ява, як палітычная цэнзура?**

— Гледзячы які сэнс укладваць у гэтыя словы. Сёння той цэнзуры, якая была некалі, увогуле няма. Век не забуду, як не пускаў цэнзар у эфір маю перадачу, дзе гаварылася, што Хатынь спалілі паліцаі. «Ты что, не понимаешь, дурачком прикидываешься? Хочешь сказать, что у нас была гражданская война?!» — крычаў ён на мяне, а я ніяк не мог зразумець, навошта прыпісваць немцам тое, што зрабілі «бобікі».

Цяпер іншы час і многае залежыць ад палітычнага спектру поглядаў саміх тэлежурналістаў. Перадэфірнага кантролю практычна няма — я не магу фізічна праглядзець усе перадачы. І тое, што ідзе ў выпусках навін, фарміруецца творчым аб'яднаннем інфармацыйных праграм.

Пазіцыя кіраўніцтва тэлерадыёкампаніі — утрымліваць баланс поглядаў, не дапускаць палітычных перакосаў у вяшчанні, не стравіць людзей да бойкі. Даследаванні сацыялагічнай службы прафесара Грушына з Масквы, з якімі мне даводзілася знаёміцца, паказваюць на «шызафрэнічны стан масавай псіхалогіі», калі адзін рэспандэнт на адно і тое ж пытанне дае процілеглыя адказы. У такіх умовах тэлебачанне мае патрэбу ў дапамозе сацыялогіі, каб працаваць адпаведна псіхалогіі грамадства.

Я веру ў розум і стрыманасць палітычных эмоцый сваіх супрацоўнікаў, давяраю ім.

**— А як тэлеаўдыторыя ўспрымае «абеларушванне» праграм БТ?**

— Нармальна. Столькі гадоў на тэлебачанні вайсковыя перадачы ішлі толькі на рускай мове і раптам у 1992 г. пайшлі па-беларуску. Чакалі крытыкі. А яе і не з'явілася. Ні аднаго ліста адмоўнага.

Ёсць крытыка беларускамоўных перадач за памылкі, за «суконную» мову, за няўменне распарадзіцца словам. Праўда, сустракаюцца лісты з абвінавачваннямі ў нацыяналізме, у тым, што дзяцей прымусілі вучыць беларускую мову... Ды мы імкнёмся не толькі «абеларусіць» наш эфір, але даць магчымасць адраджэнню мовы, культуры нацыянальных меншасцяў. Задуманы цыкл перадач «Шматгалоссе», дзе будзе гучаць і польская, і яўрэйская, і татарская мовы. Зараз ужо выходзіць тэлечасопіс для яўрэйскай меншасці «Мост», у Горадні — праграма для палякаў «Над Немнам».

Мы столькі гадоў жылі ў краіне, дзе дамініравала мова і культура «старэйшага брата», што вельмі насцярожана ставімся да культуры нямецкай, польскай, англійскай, амерыканскай. Выйшла перадача тэлекампаніі Эм-Ці-Ві — насцярожанасць: Беларускае тэлебачанне прадалося Амерыцы. Выйшлі навіны Бі-Бі-Сі — зноў крытыка: англічане — не славяне, і навіны іхнія нам непатрэбны. А моладзь прымае хораша. І заўважае нашы перамены.

**— Што робіцца па стварэнні беларускай тэлеінфармацыйнай прасторы?**

— Складанае пытанне. БТ заўсёды жыло ў інфармацыйным вакууме. У нас нават не ва ўсіх буйных гарадах Беларусі ёсць свае карэспандэнты. Не кажучы пра замежжа. Ды, дзякуючы падтрымцы ўрада, мы ўступілі ў Еўрапейскі Вяшчальны Саюз і ў хуткім часе зможам не толькі атрымліваць інфармацыю з усяго свету, але і пасылаць свае, беларускія тэлесюжэты ў свет. Гэтага, вядома, мала, ды на большае няма сродкаў.

**— Як вы ставіцеся да ідэі адзінай інфармацыйнай прасторы СНД?**

— Скептычна. Як задаволіць густы еўрапейскага гледача, таго ж жыхара Беларусі, і мусульманіна з Сярэдняй Азіі? Мне, напрыклад, сумна глядзець трохгадзінны канцэрт самадзейнага казахскага дамбрыста, а дамбрыст крыўдуе, калі яму паказваюць балет, дзе жанчыны з голымі нагамі. Мой калега з Ташкента скардзіўся, што Астанкіна паказала голага мужчыну, а гэта ўвогуле абраза нават яму, чалавеку з вышэйшай адукацыяй...

**— Што вы гледзіце штодзённа?**

— Беларускую праграму гляджу не толькі па абавязку. Ёсць перадачы і ў нас не горшыя, чым у Астанкіна. Гляджу праграмы Астанкіна і Расіі, Санкт-Пецярбурга, Сі-Эн-Эн, Бі-Бі-Сі, Эм-Ці-Ві. Замежныя музычныя кліпы — шыкоўная школа сучаснага тэлевізійнага мантажу, электроннай і камп'ютэрнай графікі. Гляджу з зайздрасцю і надзеяй, што і мы пачнём рабіць камп'ютэрныя застаўкі — калі знойдзем 120 тысяч долараў на абсталяванне. Патрэбна мне гэта не толькі як кіраўніку, але і як сцэнарысту, рэжысёру. Прафесіі, якім я аддаў жыццё, не магу кінуць.

— Дарэчы, каб гледачы ведалі, хто кіруе тэлебачаннем, раскажыце трохі пра свой прафесійны шлях.

— Нарадзіўся ў Клецкім раёне перад самай вайной. Дзякуй бацькам — выжыў. Рана асірацеў. Вучыўся спачатку ў Магілёўскім культасветвучылішчы, потым на дырыжорска-харавым аддзяленні Маскоўскага інстытута культуры. Пасля заканчэння інстытута паехаў у Горадню, дзе вучылася жонка. Быў мастацкім кіраўніком Дома культуры, потым запрасілі на работу ў сельскі абкам камсамола. За некалькі гадоў абышоў усю Гарадзеншчыну. Быў нейкі час выкладчыкам у сваім родным інстытуце. Але з дзяцінства мяне, як магнітам, вабіла кіно. Я і ў Маскву ездзіў вучыцца не на дырыжора, а на кінаакцёра. Ды толькі не ўразіў Тамару Макараву і Сяргея Герасімава... А вось калі ў Горадні адкрылася тэлебачанне — з ахвотай, хоць і не без страху перайшоў туды. І вось ужо 23 гады на тэлебачанні, прайшоў усе прыступкі, асвоіў усе асноўныя прафесіі. Свае фільмы раблю сам і як аўтар, і як рэжысёр, і як аператар. Цяпер вось... часовы перапынак.

**— Зараз вы — на высокай кіраўнічай пасадзе. Якую мэту ставіце перад сабой, працуючы ў гэтай якасці?**

— Галоўная мэта — зрабіць тэлебачанне нацыянальным. Вырвацца з правінцыйнасці і не разваліць гэтую махіну, якая ледзь трымаецца на гліняных нагах. Захаваць усё добрае, што было зроблена папярэднікамі; умацаваць кадры прафесіяналамі і ўтрымаць лепшых, якім не соладка ў нашых умовах жывецца. Паставіць у цывілізаваныя рамкі рэкламу на тэлебачанні, за атрыманыя сродкі даць магчымасць беларускаму гледачу бачыць лепшыя фільмы сусветнага кіно. Адкрыць беларускі нацыянальны тэлетэатр, стварыць шматгадзінны серыял па гісторыі Беларусі, згуртаваць вакол тэлебачання творчую інтэлігенцыю... Ды легчы каменем на шляху на экран рознай пошласці, дурноце. Пакуль не сапхнуць... А яшчэ захаваць для нашчадкаў свой чарнобыльскі відэаархіў, прывесці яго да парадку і зрабіць свой галоўны фільм.

**— Дзякуй вам за гутарку, і — хай збудуцца творчыя задумы.**

**Гутарыў Юрась ЛАГАДА**

# КУДЫ КЛІЧА ЗДАНЬ

(Пачатак на стар. 3)

Вядома, яшчэ за тры-чатыры гады перад гэтым немагчыма было ўявіць такую колькасць «выхадцаў» з партыі. І не таму, што людзі тады больш даражылі сваім членствам у КПСС. Вельмі часта іх трымаў там страх. Выключэнне з партыі тады было раўнасільна крушэнню ўсіх жыццёвых планаў. Ну, а на таго, хто сам выходзіў з КПСС, глядзелі, бадай, як на самазабойцу. Калі ж набылі размах перабудовачныя працэсы, у грамадстве пачалі ўсталёўвацца дэмакратычныя нормы, мільёны людзей пачалі ўсведамляць сапраўдную вартасць камуністычнай партыі, яе злавесную ролю ў гісторыі краіны.

З вялікім драматычным пафасам Легастаеў піша пра фактычнае паражэнне КПСС на першых выбарах народных дэпутатаў СССР у 1989 годзе, калі «не былі абраны дэпутатамі 32 першыя сакратары крайкомаў і абкомаў партыі, прычым сямёра з іх выбіраліся без альтэрнатыўных кандыдатаў. Не атрымалі вотуму даверу ад выбаршчыкаў партыйныя і савецкія кіраўнікі, як правіла, буйных прамысловых, навуковых цэнтраў, а таксама цэлых рэгіёнаў».

Ёсць сапраўды ад чаго прыйсці ў адчай! Яшчэ свежыя ў памяці былі іншыя выбары, калі таму ж сакратару ЦК ці абкома партыі, іншаму буйному чыгнушы месца ў Вярхоўным Савеце, не кажучы аб іншых органах дзяржаўнай улады, было забяспечана са стопрацэнтнай гарантыяй.

Са скрухай (думаю, не вельмі шчырай) піша Легастаеў аб тым, што ў выніку выбараў 1989 года прадстаўніцтва рабочых у Вярхоўным Савеце СССР скарацілася ўдвая ў параўнанні з іх прадстаўніцтвам у мінулым Вярхоўным Савеце. Быццам не ведае аўтар, у якіх кабінетах праходзіў падбор і адбор кандыдатаў у дэпутаты з «простага» народа.

Спекулюючы на сённяшняй ідэйнай сумятні, адэпты камуністычнай ідэі імкнуцца набыць палітычны капітал, не грэбуючы нічым. Можна, напрыклад, выдаваць (вядома, на словах) сябе за гарачых прыхільнікаў дэмакратычных свабод, іншых заваёў цывілізаванага свету. Вось, скажам, выступае на сесіі Вярхоўнага Савета рэспублікі народны дэпутат, член палітвыканкома ПКБ М.Качан. Схіляючы парламент да адмены пастановы ад 25 жніўня 1991 года аб прыпыненні дзейнасці КПБ-КПСС, ён настойліва апелюе да міжнародных норм права, Статута ААН, Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека, «па якой, — адзначае, — жыве ўвесь цывілізаваны свет, і якую мы пакляліся свята выконваць». Якое крывадушша! Ці не тую ж Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека КПБ-КПСС усе гады свайго панавання трымала ў тайне ад народа, хаваючы гэты дакумент у спецхранах?!

Любімая тэма газет камуністычнага накірунку — усхваленне міжнароднай палітыкі былога Савецкага Саюза, уведзенае ў прынцып пастаяннае ўмяшальніцтва ва ўнутраныя справы суверэнных краін, экспарт «савецкага ладу жыцця». Партыя камуністаў Беларусі, мяркуючы па публікацыях у яе органе, горача ўхваляе, напрыклад, інтэрвенцыю СССР у Афганістан, абрыньвае гром і маланкі на галовы тых, хто лічыць яе ганебнай. «Горбачевы, Яковлевы, Шеварднадзе, Волкогоновы, Арбатовы и их подельники, — піша «Мы и время», — разъедаемые червями коррупции, заимствования и дешевых лозунгов уже готовили поражение, которое, по их мнению должно было символизировать крах социализма». Адразу пазнаў ваш стыль, Віктар Валянцінавіч. Хацеў бы параіць вам спачатку зазірнуць у падручнік граматыкі або асноў стылістыкі. Ну што гэта за «разъедаемые червями коррупции, заимствования и дешевых лозунгов»? Дзе вы бачылі «червей заимствования»? Калі такія перлы злятаюць з вашых вуснаў на мітынгах, гэта яшчэ паўбяды. Улічваючы кантынгент публікі, якую вы збіраеце, многія проста недачуюць або не зразумеюць, пра што ім кажуць — мітынг усё-такі не партсход, да якога яны прывыклі. Але калі вы ўзялі ў рукі пяро, дык трэба было ўжо думаць. Далей у вас яшчэ лепей: «Жирные «взглядовцы» и истеричные поэтесы, приблатненные барды зашибали на «афганской теме» капиталец». Так і не зразумеў, якім чынам маглі «зашибать» на «афганской теме» «жирные «взглядовцы»? (Дарэчы, чаму «жирные»?) А вось што на афганскай тэме няблага «зашибал» блізкі сэрцу кожнага камуніста цяперашні рэдактар газеты «День» Праханаў, якога за кнігі пра подзвігі савецкай зброі ў Афганістане ахрысцілі ў народзе «салаўём генеральнага штаба», — гэта факт.

Небяспечна не тое, што ў нас шмат людзей, якія жывуць учарашнім днём. Небяспечная непрыхаваная гатоўнасць неакамуністаў учыняць любыя дзеянні, прадыктаваныя толькі іх уласнымі інтарэсамі. Чым іншым можна вытлумачыць іх братанне, іх саюз з нацыянал-патрыётамі самых карычневых адценняў? «Гэта не ў нас, гэта ў Расіі», — відаць, скажаце вы, таварыш Чыкін. Але хто не бачыў на мітынгах, скліканых партыяй камуністаў Беларусі, побач з чырвонымі сцягамі і партрэтамі Леніна сцягі манархічных колераў, пад якімі маршыруюць сёння члены Славянскага сабора «Белая Русь»? Вы, думаю, чытаеце іх друкаваную прадукцыю, хоць бы тыя ж «Славянские ведомости» і ведаеце, якім багам тут моляцца.

Я схільны пагадзіцца з думкай вядомага маскоўскага эканаміста і публіцыста Ота Лацiса, што для сучасных неакамуністаў (а яны, на маю думку, паміж сабой мала чым адрозніваюцца, дзе б ні жылі; успомнім, з якой помпай сустракалі Ніну Андрэеву беларускія камуністы) карпаратыўная дзяржава Мусаліні, ідэі нацыянал-сацыялізму бліжэй, чым ідэі аўтараў «Камуністычнага маніфеста».

Адна з казырных карт, якую сёння імкнуцца разыграць камуністычныя групоўкі, — нацыянальнае пытанне, якое быццам бы гранічна абвастрылася ў постсавецкіх рэспубліках былога Саюза «Ніколі ў СССР не было міжнацыянальных канфліктаў, ніколі на гэтай глебе не лілося столькі крыві», — без канца паўтараюць камуністычныя лідэры. Але не трэба быць вялікім аналітыкам, каб зразумець, што ўсё гэта вынік сямідзесяцігадовага камуністычнага ўладарання, калі па «мановению» пальца «бацькі народаў» перакройвалася па жывому нацыянальная карта краіны, што ўзмацняла недавер розных народаў адзін да аднаго. Што датычыць сённяшніх нацыянальных канфліктаў (а ўспрымаць іх без вострага сардэчнага болю не можа нармальны чалавек), дык чаму таварышы камуністы забываюць пра сталінскія рэпрэсіі, якія ў саракавыя гады абрынуліся на цэлыя народы, выліўшыся ў сапраўдны генацыд з незлічонымі чалавечымі ахвярамі?

На старонках камуністычных і патрыятычных выданняў «Мы и время», «Политика, позиция, прогноз», «Славянские ведомости» нярэдка можна ўбачыць публікацыі, у якіх выкрываецца русафобія, якую быццам бы ў рэспубліцы раздзьмуваюць дэмакратычныя суполкі. Думаю, што нічога не можа быць больш далёкага ад ісціны. Разам з тым заўважу, што ў згаданых выданнях не-не, а з'яўляюцца матэрыялы не вельмі ўжо замаскаванага антысеміцкага характару. Нешта я не чуў, каб гэта абурыла некага з камуністычных лідэраў. Вось такі двайны стандарт...

Асабіста я да розных «фобій» з нацыянальнай афарбоўкай заўсёды ставіўся і стаўлюся з велізарнай пагардай. Лічыў і лічу, што яны з'яўляюцца праявай комплексу непаўнацэннасці іх носьбітаў і ўвогуле не сумяшчальныя з такой чалавечай якасцю, як прыстойнасць.

Што датычыць нацыянальнай палітыкі ў нашай сённяшняй суверэннай Беларусі, дык, думаю, кожны здольны аб'ектыўна мысліць чалавек пагодзіцца са мной, што пры былой уладзе КПБ-КПСС было б немагчымым прыняцце Вярхоўным Саветам, напрыклад, таго ж Закона аб правах, культурным і сацыяльным развіцці нацыянальных меншасцей рэспублікі, закона, распрацаванага і прынятага па ініцыятыве дэмакратычных сіл.

Невялікія памеры газетнай плошчы прымушаюць мяне «закруглиться» ў гэтым завочным дыялогу. Хоць, вядома, закранутых вашым выданнем тэм засталося нямала. Узяць хоць бы непрымірымыя адносіны камуністаў да прыватнай уласнасці ў той час, калі практыка ўсяго цывілізаванага свету сведчыць, што грамадства без прыватнай уласнасці — будынак без фундамента. А што да сцвярджэння камуністычнага вучэння аб тым, што прыватная ўласнасць нараджае эксплуатацыю чалавека чалавекам, дык, здаецца, мала дзе ў свеце так эксплуатаваўся працоўны люд, як у нас, дзе ўся ўласнасць фармальна належала дзяржаве, а фактычна, тым, хто меў уладу.

Можна было б пагаварыць, Віктар Валянцінавіч, і пра паклёпніцкую кампанію, якую вы з нумара ў нумар ведзяце супраць беларускай інтэлігенцыі і, у прыватнасці, такіх яе славутых прадстаўнікоў, як Васіль Быкаў і Алесь Адамовіч. Чытаючы гэтыя брудныя пасквілі, я, бывае, думаю: з кім жа засталіся нашы дамарослыя камуністы? Хто з прыстойных, таленавітых, паважаючых сябе пісьменнікаў, кампазітараў, артыстаў хоць адзін раз выказаў сваю салідарнасць з той жа ПКБ, хто заявіў, што прагне адрадзіць крывавы камуністычны вопыт? Хаця тут я мо крыху і памыліўся. Ці не адным з самых актыўных аўтараў камуністычных выданняў з'яўляецца член Саюза пісьменнікаў рэспублікі Валянцін Мыслівец. Але і пры сваім магутным інтэлекце і такім жа літаратурным таленце ён, вядома, не можа запоўніць відочнага вакууму.

І апошняе. Вы, Віктар Валянцінавіч, неаднойчы выхваляліся ростам радоў Партыі камуністаў Беларусі. Гатовы ў гэта паверыць. Крывадушша камуністычных улад спараджала і крывадушша пэўнай часткі народа, раздваенне розуму і душ. Успомнім нашу гісторыю — пасля адмены прыгоннага права ў 1861 годзе па ўсёй краіне пракаціліся сялянскія бунты супраць царскага маніфеста, які даваў сялянам волю. Не помню, якому паэту належаць радкі: «Вчерашний раб, глотнув свободы, востребует цепей...» Ёсць такія, што ўжо «востребовали». Але ўпэўнены, сярод нас яны складаюць меншасць.

**Міхась ЗАМСКІ**

# «МЫ АДЧУВАЛІ, ШТО МЫ НАРОД!»

## *Лёс архіваў Беларускай Народнай Рэспублікі*

**Ганна СУРМАЧ**

ПАДЗЕІ 25 САКАВІКА 1918 ГОДА заклалі падмурак працэса адраджэння беларускай дзяржаўнасці. Яны лагічна прадоўжыліся ў наш час, калі на руінах савецкай імперыі паўстала Рэспубліка Беларусь. Але Дэкларацыя аб суверэнітэце толькі абвясціла нашу незалежнасць. Напоўніць яе рэальным зместам можна шляхам паслядоўнага нацыянальнага дзяржаўнага будаўніцтва, якое павінна ахопліваць усе сферы жыцця краіны. А гэта ўжо задача больш складаная і адказная. Цяжкім каменем на нашай шыі вісіць адзіны вопыт савецкага дзяржаўнага будаўніцтва, які не даў плёну, але скалечыў наша светаўспрыманне. Той далёка сягаючы ў гісторыю вопыт існавання самастойнай дзяржавы — Вялікага княства Літоўскага, не ва ўсім прыдатны для нашай сённяшняй патрэбы. У такой сітуацыі ўяўляецца надзвычай актуальным выкарыстанне вопыту дзяржаўнага будаўніцтва, менавіта, Беларускай Народнай Рэспублікі. У той час беларускім дзеячам удалося зрабіць многае для адбудовы сваёй дзяржавы. Прычым, на ўсіх напрамках дзейнасці: стварэнне структуры органаў улады і кіравання, закон аб грамадзянстве, пашпартная сістэма, спроба стварэння арміі, арганізацыя знешнепалітычнай дзейнасці, дыпламатычныя прадстаўніцтвы, стварэнне эканамічных структур. Трэба адзначыць, што ўсё гэта рабілася не выпадковымі людзьмі. Тады ў асяродку беларускіх адраджэнцаў склалася цэлая плеяда высокаадукаваных, вопытных палітыкаў, грамадскіх і культурных дзеячаў з высокай нацыянальнай свядомасцю. Па гэтай прычыне большасць з тых спраў, што ўдалося ім зрабіць, пазначана разумным, узважаным падыходам да іх выканання. Тое, што БНР не магла мець тады перспектывы, абумоўлена, на маю думку, найперш знешнімі абставінамі.

Пэўны час мне давялося займацца лёсам архіва БНР. Хацелася высветліць, наколькі поўна ён захаваўся, выявіць магчымыя шляхі пошуку таго, што страчана з гэтых каштоўных дакументаў. Лічу неабходным выкласці тут усе сабраныя факты дзеля далучэння да пошуку не знойдзеных частак архіва БНР новых сіл навукоўцаў, супрацоўнікаў архіваў, музеяў, бібліятэк.

НАЦЫЯНАЛЬНЫ АРХІЎ Рэспублікі Беларусь мае ў сваіх сховішчах знаёмы цяпер многім навукоўцам фонд N 62 у аб'ёме больш 200 спраў. Гэта частка архіва БНР, якая раней была ў партархіве пры ЦК КПБ. Па даволі абгрунтаваных меркаваннях гэты камплект дакументаў быў прывезены ў Мінск дзеячамі БНР — А.Цвікевічам, У.Пракулевічам і Л.Зайцам пасля самароспуску ўрада БНР на Берлінскай канферэнцыі ў 1925 годзе. Пра гэта сведчыць склад матэрыялаў, якія, відавочна, з'яўляюцца справаводчымі папкамі канцылярыі Рады і ўрада БНР у час знаходжання ў Коўне. Сюды былі далучаны пазней і тыя дакументы па гісторыі БНР, што былі забраны ў час рэпрэсій з хатніх архіваў беларускіх дзеячаў. У гэтых дакументах адлюстравана падрыхтоўка да склікання Першага Усебеларускага з'езда і іншыя матэрыялы па гэтай тэме. Ёсць асобныя пратаколы пасяджэнняў Рады БНР, перапіска, пашпарты, фінансавыя дакументы, журналы рэгістрацыі ўваходзячых і выходзячых дакументаў, дакументы па знешнепалітычнай дзейнасці БНР і інш. Комплекс дакументаў ф. N 62 уяўляе сабой найбольш поўную па колькасці і інфармацыйнай значнасці частку дакументаў па гісторыі БНР, з таго, што захоўваецца ў архівах Беларусі. На сённяшні дзень гэтыя дакументы толькі пачынаюць вывучацца даследчыкамі.

Другая па аб'ёме частка дакументаў БНР знаходзіцца ў Беларускім дзяржаўным архіве (былы Цэнтральны дзяржаўны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі). Гэта ф. N 325 — дакументы Народнага Сакратарыята БНР за перыяд з чэрвеня 1918 года па 31.12.1918 года ў колькасці 21 справы. Справаводчыя папкі канцылярыі Народнага Сакратарыята ўтрымліваюць звесткі аб упраўленчай і адміністрацыйнай дзейнасці ўрада БНР — перапіска па школьных справах, перапіска з Беларускай гандлёвай палатай на Украіне, пасведчанні на права пераезду беларусаў у родныя мясціны і выезду з Беларусі, спісы паштовых устаноў, пасведчанні членаў Рады БНР на права вядзення перамоў з урадамі іншых краін.

У гэтым жа архіве знаходзяцца і дакументы Генеральнага консульства БНР у Канстанцінопалі на чале з І.Ермачэнкам (ф. N 827, 465 спраў за 1921-23 гг.). У асноўным гэта дакументы пра эмігрантаў, пашпарты беларусаў, выехаўшых у Турцыю і іншыя краіны.

Некаторыя дакументы пра дзейнасць БНР ёсць у Беларускім дзяржаўным архіве-музеі літаратуры і мастацтва, дзе захоўваецца частка матэрыялаў рукапіснага аддзела Віленскага беларускага музея імя І.Луцкевіча (ф. N 3). Сярод іх — асабістыя дакументы дзеячаў БНР, дыпламатычныя пашпарты, законапраект аб Народным Сакратарыяце, Трэцяя ўстаўная грамата на польскай мове. Найбольшую цікавасць тут уяўляюць дакументы аб знешнепалітычнай дзейнасці БНР, сабраныя вядомым беларускім дзеячам К.Душ-Душэўскім для яго аналітычнай працы «Беларусь і Рыжскі мір».

Такім чынам, тры дзяржаўныя архівы Беларусі маюць дакументы па гісторыі БНР і выяўленчыя матэрыялы — фотаздымкі, аб'явы, лістоўкі. Трэба дадаць, што ў астатніх архівах могуць быць выяўлены дакументы, якія таксама маюць дачыненне да БНР, скажам, пратаколы сходаў у падтрымку абвяшчэння БНР з розных мясцін Беларусі. Выяўленчыя матэрыялы захоўваюцца і ў Дзяржаўным музеі Беларусі.

Як вядома, дзейнасць Рады і Урада БНР у асноўным адбывалася на эміграцыі. Таму і сталася так, што іх дакументы знаходзяцца і па-за межамі Беларусі. Найперш трэба сказаць пра Літву. У вядомым беларускім гісторыкам ф. N 21 у рукапісным аддзеле бібліятэкі Акадэміі навук Літвы захоўваецца багата матэрыялаў, звязаных з гісторыяй аднаўлення беларускай дзяржаўнасці. У Дзяржаўным архіве Літвы знаходзяцца дакументы з архіва Міністэрства беларускіх спраў пры Літоўскім урадзе, якое існавала прыкладна ў 1920-23 гг., гэта значыць у той час, калі ў Коўне знаходзілася Рада і Урад БНР.

Але ўсе пералічаныя тут комплексы дакументаў, што адлюстроўваюць працэс утварэння і дзейнасці БНР, складаюць далёка не ўвесь яе архіў, а, можна сказаць, толькі яго першую частку, прыкладна да 1925 года. Лёс другой часткі дакументаў БНР звязаны з гісторыяй існавання ў Празе Беларускага заграгічнага архіва (так ён названы ва ўсіх дакументах). Пра гэта варта расказаць больш падрабязна, бо да сёння не ўсё тут высветлена.

У ЛІСТАПАДЗЕ 1923 ГОДА Рада і Урад пераехалі з Коўна ў Прагу, дзе і знаходзіліся амаль да канца Другой сусветнай вайны. Гэта быў найбольш плённы перыяд дзейнасці кіруючых органаў БНР на эміграцыі. Неабходна адзначыць, што пераезд іх менавіта ў Прагу не быў выпадковым. У міжваенны час сталіца Чэхаславакіі была цэнтрам белай эміграцыі са славянскіх краін. Урад Т.Масарыка, прыхільніка ідэі панславізма, стараўся дапамагчы ўсім тым рускім, беларусам, украінцам, хто не прызнаў савецкую ўладу і вымушаны быў пакінуць радзіму. Эміграцыяй займалася Міністэрства замежных спраў Чэхаславакіі, на дапамогу ёй выдзяляліся спецыяльныя сродкі, дазвалялася дзейнасць розных эміграцыйных арганізацый. Добрую справу для беларусаў зрабіў чэхаславацкі ўрад у 20 — 30-ыя гады, прыняўшы на вучобу ў вышэйшыя навучальныя ўстановы моладзь з Заходняй Беларусі.

Такім чынам, у той час у Празе склаўся даволі значны беларускі асяродак. І хоць ён быў не такі вялікі па колькасці, але гэта былі грамадскія і палітычныя дзеячы, навукоўцы, студэнцтва, адным словам, беларуская інтэлігенцыя з высокай нацыянальнай свядомасцю. Менавіта па гэтай прычыне нарадзілася там ідэя арганізацыі Беларускага заграгічнага архіва. Тым больш, што свае архівы мелі і іншыя нацыі.

Архіў быў створаны ў 1928 годзе. Аснову яго склалі матэрыялы, сабраныя вядомым беларускім дзеячам М.Вяршыніным, ён стаў і першым загадчыкам архіва.

Архіў лічыўся ўласнасцю беларускага народа, распараджалася ім Рада БНР па ўзгадненні з Міністэрствам замежных спраў Чэхаславакіі. Аб гэтым была прынята спецыяльная рэзалюцыя на гадавым сходзе Рады 5.05.33 (ЦДАМЛіМ, ф.3, воп.1, спр.44, л. 96-99). Міністэрства замежных спраў таксама аплачвала пасаду загадчыка.

Архіў размяшчаўся ў будынку Таеканскага палаца, Ларытанская плошча — 102, насупраць «Града», дзе была рэзідэнцыя прэзідэнта Чэхаславакіі.

У 1934 годзе пасля смерці Вяршыніна загадчыкам архіва быў прызначаны другі знакаміты дзеяч — Тамаш Грыб.

Паводле звестак з артыкула М.Караленкі «Беларускі заграгічны архіў» («Шлях моладзі», N 3 (1119), 1938) у 1937 г. архіў меў чатыры аддзелы:

**— аддзел дакументаў (матэрыялы Рады БНР, дыпламатычных місій БНР, беларускіх замежных арганізацый, партый, біяграфічныя дакументы і перапіска беларускіх дзеячаў), прыкладна 15 тыс. назваў дакументаў;**

**— бібліятэка беларусазнаўства (беларускія выданні пра Беларусь на іншых мовах);**

**— аддзел перыядычных выданняў (часопісы, газеты, адозвы), 214 назваў;**

**— аддзел беларускай бібліяграфіі (гістарычная бібліяграфія і картатэка па ўсіх пытаннях беларусазнаўства), 12 тыс. пазіцый.**

На жаль, больш падрабязнай інфармацыі пра колькасць і састаў матэрыялаў архіва мы не маем. Але і так бачна, што там былі даволі вялікія і каштоўныя зборы. Архіў не толькі збіраў матэрыялы, але і па магчымасці папулярызаваў іх. У 1933 годзе на пасяджэнні Рады БНР 5 мая абмяркоўвалася пытанне пра ўдзел беларускага архіва ў выставе славянскіх ілюстраваных часопісаў у Празе, а потым — у Брно. Успаміналася пры гэтым, што і раней архіў выступаў на розных выставах (ЦДАМЛіМ, ф.3, воп.1, скр.44, л.96 - 99).

У 1938 годзе памёр Т.Грыб, і архіў застаўся без загадчыка. Справу аб прызначэнні новага чалавека на гэту пасаду неабходна было ўзгадніць з Міністэрствам замежных спраў Чэхаславакіі. Прэзідэнт Рады БНР Васіль Захарка звярнуўся да кіраўніка славянскіх архіваў праф. Славіка 2.02.38 з просьбаю дазволіць прызначыць на вакансію беларуса Пятра Бакача (ЦДАМЛіМ, ф.3, воп.1, скр. 151, л. 3-10). Праф. Славік напачатку пагадзіўся, але потым змяніў сваё рашэнне і адмовіў, спаслаўшыся на недахоп фінансаў у міністэрстве на ўтрыманне платнай пасады. Паміж Радай БНР і праф. Славікам узнікла канфліктная сітуацыя. Рада даводзіла, што архіў з'яўляецца яе ўласнасцю, а прафесар у сваю чаргу папракаў Раду, што яна мала займалася архівам. Захарка даказваў, што ўсе матэрыялы сабраны дзякуючы стараанням Рады і за яе сродкі. У рэшце рэшт дайшло да таго, што прадстаўнікам Рады нават было забаронена наведваць архіў. Прычына такой кардынальнай змены адносін праф. Славіка да беларускага архіва так і застаецца незразумелай. Згода так і не была дасягнута, і архіў апынуўся ў такім няпэўным становішчы напярэдадні сумных падзей, звязаных з акупацыяй Чэхаславакіі гітлераўскімі войскамі.

Пасля прыходу немцаў архіў прадаўжаў існаваць. Акупацыйныя ўлады падпарадкавалі яго Міністэрству ўнутраных спраў Пратэктарата Багеміі і Маравіі. Але адказная асоба таксама не была прызначана. Фактычна, архіў прыпыніў сваю дзейнасць, не вялося папаўненне фондаў.

Пытанне пра лёс беларускага архіва ўзнікла толькі ў сакавіку 1943 г., калі памёр прэзідэнт БНР В.Захарка. У яго быў даволі багаты асабісты архіў. Там знаходзіліся і афіцыйныя дакументы БНР не толькі за той час, калі Захарка быў прэзідэнтам (1928 — 1943), але і за ранейшы перыяд. Пасля смерці П.Крэчаўскага Захарка наследаваў ягоную пасаду і асабісты архіў. Здзіўляе той факт, што ў Беларускі заграгічны архіў гэтыя дакументы не былі перададзены, хаця, здаецца, так яно і павінна было быць. Трэба зазначыць, што адносіны паміж загадчыкамі архіва і Радаю былі даволі часта напружанымі. М.Вяршынін лічыў архіў сваім, што выклікала асуджэнне радаўцаў. Т.Грыб быў наогул не вельмі кантактнай асобаю і меў палітычныя разыходжанні з Радаю, хаця ў архіве працаваў самаадданна.

Пакінутым без гаспадара архівам Захаркі першапачаткова заапекавалася Ларыса Геніюш. У сваёй «Споведзі» яна апісала ўсю гэту сітуацыю («Маладосць», N 3, 1990, ст. 100 — 101). Геніюш непакоіў лёс архіва: «Мы вельмі баяліся, і не без падставы, што немцы будуць мець на яго зуб». Таму разам з М.Абрамчыкам і Ст.Грынкевічам яны адразу ж паехалі на кватэру Захаркі і заняліся сартыроўкай матэрыялаў: «Спакавалі мы з Міколам пару чамаданаў нашага дзяржаўнага архіва, і ён павёз гэта ўсё да сябе з думкаю — пераправіць у Францыю». Відаць, так яно і сталася. Ларыса Антонаўна заўважае таксама, што рабіць перагляд архіва ім ніхто не замінаў, немцы на пахаванні не былі і, здаецца, нічога не ведалі. Але, аказалася, што гэта не так.

Генеральны камісарыят у Мінску трымаў пад кантролем гэтую справу. Весці яе было даручана ўпаўнаважанаму палітычнага аддзела камісарыята доктару Рыхелю. 5.05.43 ён склаў сістэматызаваны вопіс усяго таго, што знаходзілася ў архіве Захаркі (ЦДАКР, Масква, ф. 5875, воп.1, спр. 40, л. 3):

**А. Беларуская народная рэспубліка:**

**1. афіцыйныя дзяржаўныя дакументы, дагаворы, мемарандумы, статуты, урадавыя заявы і інш.**

**2. палітычныя і гістарычныя акты, паведамленні асаблівай значнасці, навуковыя і палітычныя распрацоўкі, акрамя таго, газетныя выразкі, друкаваныя публікацыі, палітычная карэспандэнцыя і г.д.**

**3. палітычныя матэрыялы меншай значнасці.**

**Б. Агульны матэрыял, маючы дачыненне да Беларусі. Навуковыя матэрыялы, рукапісы, газетныя выразкі.**

**В. Беларуская эміграцыя за межамі Беларускай народнай рэспублікі.**

**Г. Небеларускія матэрыялы, Расія, Украіна, Польшча і інш.**

**Д. Непалітычныя матэрыялы, асабістае.**

**Е. Кнігі, брашуры, часопісы:**

**1. па Беларусі.**

**2. рускае пытанне. агульнаславянскі матэрыял, усходні рэгіён.**

**3. украінскі матэрыял.**

**4. непалітычнае, белетрыстыка, падручнікі, даведнікі.**

Д-ру Рыхелю аказваў дапамогу Іван Ермачэнка, вядомы беларускі дзеяч у Празе, былы консул БНР у Канстанцінопалі, на той час узначальваў Беларускую Самапомач. Л.Геніюш піша ў сваіх успамінах пра тое, што пражскія беларусы ставіліся з недаверам да Ермачэнкі за яго прыхільнасць да немцаў. Але яна вымушана была перадаць яму ключы ад кватэры Захаркі. Архіў быў перавезены на кватэру Ермачэнкі. Аб гэтым сведчыць распіска за подпісам д-ра Рыхеля, складзеная 9.05.43 (ЦДАКР, Масква, ф.5875, воп.1. спр. 40, л. 4). Пасля агульнага ўпарадкавання архіў перадалі на часовае захаванне ў беларускі аддзел Рускага замежнага архіва, які таксама існаваў у Празе. У Беларускі архіў, як бачна, дакументы спачатку не паступілі. Магчыма, таму, што там не было загадчыка і належнага прыгляду.

Перадача ў Рускі архіў была зроблена па вопісу (ЦДАКР, Масква, ф. 5875, воп.1, спр.40, л.6). Гэты вопіс больш падрабязны, чым папярэдні. Дзеля больш поўнага ўяўлення пра тое, што было ў архіве, мэтазгодна прывесці яго цалкам:

**ВОПІС**

**перададзеных 10 чэрвеня 1943 года davераным пры Генеральным камісарыяце Беларусі, д-рам Іаганам Ермачэнкам у Дзяржаўны архіў Пратэктарата Багеміі і Маравіі беларускіх кніг і дакументаў, пакінутых пасля смерці спадара Захаркі і спадара Крэчаўскага.**

**1. Беларусь у замежжы 690 шт.**

**2. Асабістыя пісьмы спадара Захаркі 160 шт.**

**3. Беларуская Рада ў Празе (9 сшыткаў за 1932-37 гг.)**

**4. Газетныя выразкі аб Беларусі з паметкамі спадара Захаркі.**

**5. Мемарандумы аб Беларусі і вольным горадзе Вільні.**

**6. Украінская карэспандэнцыя.**

**7. Агульная карэспандэнцыя спадара Захаркі.**

**8. Перапіска Саюза «Усход» з замежнымі дзяржавамі і канцылярыяй прэзідэнта Чэхаславакіі, акрамя таго, адзін звычайны і тры дыпламатычныя замежныя пашпарты.**

**9. Пісьмы да спадара Захаркі.**

**10. Беларускае прэс-бюро.**

**11. Агульная беларуская гісторыя.**

**12. Службовая перапіска і тэлеграмы.**

**13. Беларуская гісторыя.**

**14. Асабістая перапіска Крэчаўскага.**

**15. Беларускія газеты.**

**16. Друкаваныя выданні Беларускага нацыянальнага камітэта ў Празе.**

**17. 12 пакетаў з 224 экземплярамі розных кніг.**

**18. 675 часопісаў на розных мовах.**

**Прага. 10 чэрвеня 1943 г.**

**Д-р Свентак**
**Архіў Міністэрства ўнутраных спраў**

Д-р Рыхель даручыў Ермачэнку сваім лістом ад 10.05.43 (ЦДАКР, Масква, ф. 5875, воп.1, спр.40, л.5) зрабіць упарадкаванне архіва ў адпаведнасці з яго схемаю, а таксама высветліць, куды дзеліся з архіва Захаркі некаторыя арыгінальныя дакументы, якія там былі раней. Вядома ж, меліся на ўвазе матэрыялы, якія вывезлі М.Абрамчык і Ст.Грынкевіч. Недарма Ларыса Антонаўна падазравала, што немцы ўсё ведаюць пра архіў.

Ермачэнка, які ў той час меў многа спраў у Мінску ў сувязі з дзейнасцю Беларускай Самапомачы, вымушаны быў затрымацца ў Празе яшчэ на некаторы час, каб выканаць загад Рыхеля аб упарадкаванні архіва. 22.05.43 ён накіраваў ліст да гаўляйтэра Кубэ (ЦДАКР; Масква, ф.5875, воп.1, спр.40, л.2), дзе пісаў:

**«Мая работа з архівам пакуль не завершана — яшчэ патрэбна раскласці і ўключыць у каталог вельмі многа розных матэрыялаў, дакументаў і кніг. У гэтай справе мне вельмі дапамагае спадар Аўчыннікаў, але наша праца ў Мінску таксама не павінна прыпыняцца, таму прашу Вас, паважаны спадар гаўляйтэр, прыслаць да мяне сюды спадара Шукелайціса з Рады па культуры пры Беларускай Самапомачы ў Мінску, дзеля таго, каб мы маглі вярнуцца ў Мінск».**

Трэба аддаць належнае Ермачэнку. Вырашаючы пытанне аб упарадкаванні і захаванні асабістага архіва Захаркі-Крэчаўскага, ён палічыў неабходным скарыстаць сітуацыю дзеля таго, каб палепшыць становішча Беларускага заграгічнага архіва. Мабыць, яму не вельмі хацелася перадаваць беларускія дакументы ў рускі архіў. Ён меў на ўвазе, што яму ўдасца

наладзіць работу беларускага архіва і забраць туды дакументы Захаркі-Крэчаўскага. Як сведчыць наступны дакумент, гэта пытанне было нават узгоднена ўжо з нямецкімі ўладамі. Таму 25.05.43 Ермачэнка звярнуўся да начальніка паліцыі і СД Прагі з наступным лістом:

**«Выконваючы распараджэнне Генеральнага камісара Беларусі аб прывядзенні ў парадак пісемных матэрыялаў з пазусталасці па Захарку-Крэчаўскім, якія адыгрывалі значную ролю ў жыцці беларускага народа, я дазваляю сабе давесці да Вашага ведама, што я ўсе матэрыялы і кнігі здаю ў Беларускі архіў пры Міністэрстве ўнутраных спраў Пратэктарата (згодна загаду кіраўніка палітычнага аддзела Генеральнага камісара Беларусі сп.Лангера).**

**Але ў гэтым архіве на сённяшні дзень няма ніякага з беларускага боку кіраўніка, бо былы аснавацель гэтага архіва памёр, яго наступнік, які выконваў функцыі кіраўніка, таксама памёр, так што на некалькі рокаў праца ў беларускім архіве зусім не ішла.**

**Прымаючы пад увагу, што Беларускі архіў можа мець вялікае значэнне дзеля навукоўцаў, якія бы хацелі пазнаёміцца з матэрыяламі эпохі беларускага адраджэння, якія ў большасці сабраныя ў гэтым архіве, я рахую за патрэбным вызначыць новага беларускага кіраўніка гэтага архіву і як найадпаведнейшага кандыдата прапаную сп.Бакача Пятра, які цяпер знаходзіцца ў Эрфурце, Манштрасе - 3, у фраў Кюне.**

**Акрамя працы ў архіве, гэты сп. Бакач мог бы таксама быць карысным сп. праф. Баўэру (Рэйнхард-Гейдрых-Фонд), якому я гэтага чалавека таксама рэкамендаваў». (ЦДАКР, Масква, ф. 5875, воп.1, спр.40, л.9).**

Спадзеючыся актывізаваць дзейнасць беларускага архіва, Ермачэнка звярнуўся ў той час з прапановаю да беларусаў прысылаць матэрыялы ў архіў. Такі ліст 29.05.43 ён направіў вядомаму беларускаму дзеячу К.Езавітаву, які жыў у Рызе (ЦДАКР, Масква, ф.5875, воп.1, спр.40, л.10):

**«Дакументы і ўсялякія пісемныя ці друкаваныя матэрыялы перасылайце на адрас: Беларускі архіў пры Міністэрстве ўнутраных спраў — Пратэктарат Чэхіі і Маравіі. Прага.**

**... Магчыма, што кіраўніка архіва ўдасца мне пасадзіць яшчэ да свайго ад'езду ў Менск, дык потым паведамлю Вам яго прозвішча, адрэса была б тая самая, што і архіў. Калі ж ён яшчэ сюды не прыедзе, дык дастанеце потым ліста безпасрэдна ад яго.»**



*Дзеячы БНР на эміграцыі. 20 - 30-я гады. Злева направа: сядзяць -- Л.ЗАЯЦ, В.ЗАХАРКА, П.КРЭЧАЎСКІ, ЛАДНОЎ; стаяць -- Л.ДУБЕЙКОЎСКІ, Я.ЧАРАПУК, БЯЛЯЕЎ.*

*(Фота з Дзяржаўнага архіва - музея літаратуры і мастацтва)*

Але надзея Ермачэнкі не спраўдзілася і да прызначэння новага загадчыка архіва справа так і не дайшла.

ТРЭБА ЗГАДАЦЬ, што К.Езавітаў даў грунтоўны адказ на зварот Ермачэнкі (ЦДАКР, Масква, ф.5875, воп.1, спр.40, л.13). Гэты вядомы палітычны і грамадскі дзеяч, удзельнік І Усебеларускага з'езда, а потым працаўнік у структурах БНР, арганізатар беларускага грамадска-культурнага руху ў Латвіі, быў таксама і добрым гісторыкам, глыбока разумеў неабходнасць збірання гістарычнай спадчыны. Таму яго ліст да Ермачэнкі, як дасведчанага чалавека па беларускіх архівах, уяўляе вялікую цікавасць не толькі з пункту гледжання падыходу да гэтай справы, але і інфармацыйнай значнасці матэрыялу. Будучы сведкам многіх гістарычных падзей, Езавітаў ведаў пра лёс некаторых архіваў, якія і да сённяшняга дня не знойдзены. Спадзеючыся на тое, што пададзеная тут інфармацыя дапаможа ў пошуках страчаных гістарычных каштоўнасцей, прыводзім поўны змест названага ліста Езавітава да Ермачэнкі ад 5.06.43.

**МУЖУ ДАВЕРУ ПРЫ ГЕНЕРАЛЬНЫМ КАМІСАРЫ БЕЛАРУСІ**
**ДОКТАРУ ІВАНУ ЕРМАЧЭНКУ**

**Паважаны Спадару!**

**Дужа цешуся, што Вы зацікавіліся нарэшце і справаю Гісторыі Беларускага Адраджэнчага Руху і належачых да гэтае гісторыі архіваў. Сёння атрымаў Вашыя лісты ад 25 і 29 траўня 1943 года, і ахвотна пастараюся Вас паінфармаваць аб тым, што мне ў гэтай справе ведама.**

**1) З архівамі Беларускага Руху абыходзіліся дужа нядбала і не па-грамадзку. Гэтак напрыклад Архіў Беларускага Нацыянальнага Камітэта ў Менску, Архіў Вялікай Рады і Цэнтральнай Вайсковай Рады быў захоплены бальшавікамі ў студзені 1918 года, калі яны напалі на Беларускую Вайсковую Раду ўначы і арыштавалі мяне і Захарку. У лютым мы аднак захапілі ўладу ў Менску і зноў здабылі гэтыя архівы. Прычым высветлілася, што сакратар Усебеларускага Кангрэса Тамаш Грыб невядома куды падзеў архіў Кангрэса, які яму быў даручаны для апрацоўкі і надрукавання. Асталіся толькі дакументы Мандатнае Камісіі, якія перахоўваліся у Старшыні яе, гр. П.Крэчаўскага.**

**2) Архіў Народнага Сакратарыята і Рады БНР быў пры эвакуацыі з Менска ў снежні 1918 года вывезены міністрам Я.Варонкам у Вільню, а стуль у Коўню, дзе і перахоўваўся ў яго прыватнай кватэры да ад'езду яго ў Амерыку. Пры ад'ездзе ён загадаў добра запакаваць усе архівы і здаць іх на перахоўванне ў транспартную кантору ў Коўні з тым, каб, калі будзе ў Беларускага Урада магчымасць арганізаваць Архіў Беларускі за межамі, дык каб гэтыя дакументы былі перададзены туды, а калі б гэткае магчымасці ў Урада не было, дык каб прыватныя асобы аплачвалі фірме за перахоў дакументаў, а потым за перавозку іх туды, дзе будзе магчымым закласці Беларускі Архіў, хаця ж бы нават і пры Беларускім Нацыянальным Камітэце ў Амерыцы.**

**3) Дзеля невядомых мне прычынаў, Архіў гэты не трапіў у рукі эміграцыйнага ўрада БНР, але быў прададзены транспартнаю кантораю г-ну В.Ластоўскаму, які і перахоўваў яго ў сябе да свайго ад'езда Ў Менск.**

**4) У бытнасць сваю ў Коўні ў 1919 годзе я некалькі разоў, як былы слухач Віцебскага Археалагічнага Інстытута, дзе прызвычаіўся цаніць архівы, рабіў высілкі да таго, каб упарадкаваць дакументы і выдаць іх. Мною ў тым годзе былі ўпарадкаваны і выдадзены дакументы аб Польскай акупацыі ў Заходняй Беларусі ў маёй кнізе «БЕЛАРУСЫ І ПАЛЯКІ», а затым прыступлена было да працы «БЕЛАРУСЬ АД КЕРАНСКАГА ДА ПІЛСУДСКАГА», у якой я хацеў апублікаваць дакументы 1917, 1918 і пачатку 1919 гадоў. На жаль, праца мая асталася няскончанаю, бо дзе-хто з кіруючых беларускіх урадавых колаў знаходзіў, што яшчэ не прыйшоў час апублікоўваць дакументы гэтага перыяду. У часе гэтае працы я меў магчымасць пазнаёміцца з некаторымі дакументамі, што перахоўваліся ў міністра Варонкі, і памятаю, што архіў ягоны быў дужа карысны і багаты.**

**5) Пасля ад'езда свайго ў Менск В.Ластоўскі, у вялікім сакрэце, захаваў закуплены ім архіў Я.Варонкі ў Літве, не сказаўшы аб гэтым нікому, апроч свае былое жонкі-літвінкі, з якою ён быў разведзены, але якой дапамагаў выхоўваць дваіх сваіх дачок, а таму меў сталую сувязь. Трымаў ён справу ў сакрэце таму, што баяўся, каб савецкі ўрад не запатрабаваў выдачы гэтых дакументаў у БССР, што магло дужа зашкодзіць астаўшымся ў Беларусі старым беларускім дзеячам, а таксама магло гэтыя дакументы загубіць для Беларускага Руху. Не зажадаў ён здаць гэтыя дакументы і ў арганізаваны тады ў Празе Беларускі Архіў, бо становішча гэтага архіву было дужа няпэўным, а працаваўшыя ў ім працаўнікі не апублікавалі ніводнага беларускага дакумента і ніводнае працы аб Беларусі.**

**6) Не ведаю калі, але ўжо каля 1935-36 года сталася вядомым, што муж аднае з дачок Ластоўскага ў Літве зажадаў «звольніць пакой ад рожнага хламу» і таму прадаў жыдам і багатую бібліятэку Ластоўскага і «ўсякія паперы непатрэбныя». Аб гэтай распрадажы беларусы даведаліся дужа позна, а таму нічога набыць не змаглі. Затое выкарыстана гэта было Расейскім архівам у Празе, які праз аднаго з сваіх агентаў у Коўні закупіў архіўныя дакументы, якія яго цікавілі, і праз чэшскае консульства пераслаў іх у Прагу. Дык у Празе ў Рускім Архіве наш дохтар Т.Грыб, які нарэшце навучыўся цаніць беларускія архіўныя дакументы, з сумам мог толькі паглядзець на кнігі Пратаколаў Рады БНР ды іншыя дакументы, аб чым мне ён сам з хваляваннем пісаў незадоўга да сваёй смерці. Дужа сумаваў аб гэткай долі беларускіх дакументаў і інж.-арх. К.Душэўскі, які таксама не быў у курсе справы і спазніўся з закупкай дакументаў.**

**7) Тыя новыя дакументы эміграцыйнага ўрада БНР, якія перахоўваліся ў канцылярыі ўрада Цвікевіча, на жаль, трапілі ў Менск, бо Цвікевіч і Заяц ды Пракулевіч павезлі з сабой амаль усе дакументы, што было надзвычайнай памылкай, бо на гэтых дакументах потым будавалася абвінавачванне ў процісавецкай дзейнасці шмат каго з беларускіх «нацдэмаў».***

**На вялікі жаль, я сам ад 1921 года займаўся выключна працаю сярод беларускае меншасці ў Латвіі і выдавецтвам беларускіх кніг і падручнікаў, дужа рэдка перапісваючыся з Прагаю, Вільняю, Коўняю і Амерыканскімі беларусамі, а таму не меў магчымасці і часу далей цікавіцца справамі Беларускага Архіва больш энергічна, хаця ж некалькі разоў спрабаваў намовіць нябожчыка В.Захарку і Т.Грыба, каб яны заняліся апублікаваннем прынамсі тых дакументаў, якія яны мелі ў Празе. На гэта мне адказвалі, што яшчэ не ўсё сабрана, а таму трэба пачакаць.**

---

** Можна меркаваць, што гэта дакументы прыкладна за 1919 — 1925 гг.*

**Прыходзілася мне задаволіцца гэткім адказам, тым больш, што сам я не меў ніякае магчымасці заняцца друкаваннем беларускага архіўнага матэрыялу, бо ездзіць і працаваць над беларускімі дакументамі ў Празе ці ў Коўне, не меў ні часу, ні грашовых магчымасцяў.**

**Буду дужа задаволены, калі Вы сканцэнтруеце ў Беларускім Архіве ўсе дакументы, якія яшчэ захаваліся. Дужа раджу перагледзець добра дакументы і ўспаміны, якія перахоўваюцца ў Рускім Музеі ў Празе, а таксама пашукаць дакументы ў Варшаве і ў Парыжы, дзе павінен дзесьці быць архіў місіі палкоўніка Ладнова, бо ён не здаў, мне здаецца, гэтага архіву Ураду БНР, як гэта зрабіў я ў студзені 1921 года, калі закончыў працу Місіі ў Рызе, перадаў дакументы яе ў Коўню, а сам пераехаў для новай працы сярод беларускае меншасці ў Дзвінску.**

**Адраса былой жонкі Ластоўскага я не ведаю, але яго магчыма здабыць у Коўні.**

**Ніякае прыватнае маёмасці Крэчаўскага і Захаркі я не маю. Найцікавейшыя ж іхнія лісты былі забраны ў мяне падчас знамянітага БЕЛАРУСКАГА ПРАЦЭСУ Ў ЛАТВІІ латышскімі ўладамі, якія адабралі шмат цэнных кніжак, нават з аўтарскімі надпісамі.**

**Зараз пішу ўспаміны аб 1917-18 гадах і буду дужа рады, калі яны з высокаю Вашаю дапамогаю трапяць у друк асобнай кніжыцай, а пакуль што ўрыўкі гэтых успамінаў патроху друкую ў беларускай прэсе. Дужа шкодзіць гэтай працы тое, што я павінен займацца ёю ўрыўкамі, паміж іншымі працамі, якія павінен рабіць, каб забяспечыць сабе магчымасці існавання, а таксама, каб выканаць ускладзеныя на мяне грамадскія абавязкі.**

**Працую адначасна і над кнігаю БЕЛАРУСКІ БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СЛОЎНІК, для якой прашу Вас напісаць мне Вашую падрабязную аўтобіяграфію.**

**На заканчэнне хачу падзяліцца з Вамі сваімі думкамі ў справе арганізацыі збірання БЕЛАРУСКАГА АРХІВА.**

**Мне здаецца, што прызначэнне ў Празе кіраўніка Беларускага Архіва і даручэнне яму працы — яшчэ толькі пачатак гэтае справы. Каб хутчэй правесці гэтую важную справу, патрэбна:**

**1) Даць кіраўніку сродкі на капіраванне (перапіску і фатаграфаванне) усіх дакументаў, якія ўжо ёсць у Архіве і якія можа ў адзіночных экзэмплярах перахоўваюцца ў паасобных грамадзянаў, як выдадзеныя ім асабіста розныя пасведчанні, лісты, даручэнні і гэтак далей і з'яўляюцца прыватнаю ўласнасцю гэтых грамадзянаў.**

**2) Даць яму памочнікаў, прызначыўшы карэспандэнтаў-прадстаўнікоў Беларускага Архіва ў розных краінах, дзе працавалі і працуюць беларускія арганізацыі і дзе магчыма будзе адшукаць цікавыя дакументы для Беларускага Архіва.**

**3) Даць гэтым прадстаўнікам сродкі для капіравання і закупкі архіўных матэрыялаў, бо калі думаеце сабраць дакументы толькі шляхам прымусовага канфіскавання іх, дык можа здарыцца, што архівы будуць гэтак захаваны, што мы ніколі іх не здабудзем нават у копіях, бо нямала ёсць людзей, якія не пажадаюць іх здаваць, бо яны для іх складаюць асабістую, або фамільную памяць. І гэтае права ўласнасці трэба шанаваць!**

**4) Большасць прадстаўнікоў, калі да іх падыйсці пачалавецку, будуць працаваць «гонорыс-каўза», але аднак варта прадугледзець і аплату іхняе працы, як гэта і было ў Расейскага Архіва ў Празе, які толькі таму і змог сабраць аграмадныя зборы, а нават адкупляць іх і плаціць аўтарам за напісанне ўспамінаў. Ведаю, што расейскі Архіў адкупіў успаміны Ладнова, успаміны Разумовіча-Хмары, а здаецца і Галавінскага.**

**З свайго боку з ахвотаю дапамагу гэтай вялікай для нашае гісторыі справе збіраннем дакументаў па Латвіі і надсылкаю кніжак, якія зачапліваюць Беларускі Адраджэнчы Рух. Часткова дапамагаў я і раней у гэтай справе Т.Грыбу, надсылаючы яму тое-сёе з Латвіі. Калі паставіце ўсю гэтую справу салідна, дык цэлы шэраг нашых грамадзянаў, а я, напрыклад, ужо першы, саставіць свае тэстаманты гэтак, каб усе іхнія рукапісы, лісты і прыватныя архівы перайшлі б потым у распараджэнне Беларускага Архіва, як навуковаграмадскае ўстановы.**

**З грамадзянскім прывітаннем моцна цісну руку.**
**Жыве Беларусь!**
**5.06.43 К.Езавітаў**

ЯК МЫ БАЧЫМ з ліста Езавітава, частка беларускіх матэрыялаў трапіла ў Рускі замежны архіў у Празе (РЗА), створаны ў 1923 годзе белай эміграцыяй з Расіі пры дапамозе чэшскага ўрада. Гэты архіў быў многа большы за беларускі, меў шматлікія фонды і багатую, амаль 100-тысячную бібліятэку. У даведніку па матэрыялах архіва «Русский заграничный исторический архив при Министерстве иностранных дел Чехословацкой республики», Прага, 1936 (Б-ка Галоўархіва СССР, Б/Э, 09918, 09919, 09920) ёсць звесткі аб тым, што ў 1935 годзе туды сапраўды паступілі журналы Рады і Сакратарыята БНР. Відавочна, што былі гэта купленыя ў сям'і Ластоўскага дакументы з архіва Варонкі.

Акрамя гэтага, РЗА збіраў беларускія дакументы і іншымі шляхамі. Сюды паступалі беларускія перыядычныя выданні таго часу.

У канцы 1945 г. РЗА быў падараваны міністрам культуры Чэхаславакіі Здэнекам Неедлым саюзнай Акадэміі навук да яе 220-годдзя. Дзевяць чыгуначных вагонаў патрабавалася для перавозкі. У Маскве архіў адразу ж трапіў пад пільны нагляд НКУС, быў расфарміраваны. Асноўная частка дакументаў знаходзіцца цяпер у Дзяржаўным архіве Расійскай Федэрацыі (былы Дзяржаўны цэнтральны архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі, ЦДАКР СССР) у Маскве. Я выязджала ў гэты архіў з мэтаю выяўлення беларускіх матэрыялаў у фондах РЗА.

На сённяшні дзень там захоўваецца невялікая колькасць беларускіх дакументаў. Сярод іх дакументы БНР у колькасці 15 спраў за 1920-21 гг. (ф. N 6218). У асноўным, гэта дакументы знешнепалітычнай дзейнасці БНР, многія з якіх ёсць і ў фондах ЦДАМЛіМ Беларусі. Успомненых вышэй пратаколаў Рады і Сакратарыята няма. І дзе знаходзяцца — невядома. Ёсць таксама трохі дакументаў пра ўдзел беларусаў у Добраахвотнай арміі Дзянікіна на поўдні Расіі, пра дзейнасць Беларускага нацыянальнага цэнтра ў Адэсе. Захоўваюцца некаторыя асабістыя архівы. Найперш трэба назваць архіў успомненага тут І.Ермачэнкі (ф. N 5875), з якога ўзяты многія прыведзеныя тут дакументы, перакладзеныя з нямецкае мовы. Архіў складае 46 спраў за 1916 — 1944 гг. Гэта дакументы пра дзейнасць БНР, беларускіх эміграцыйных арганізацый, асабістыя дакументы Ермачэнкі.

У РЗА захоўваўся і архіў Генеральнага консульства БНР у Канстанцінопалі, якое ўзначальваў той жа Ермачэнка (ф. N 463 справы за 1918-23 гг.). У 1965 годзе ён быў перададзены ў Беларусь, у архіў Кастрычніцкай рэвалюцыі (ЦДАКР), дзе знаходзіцца і цяпер, пра што было згадана вышэй. Мабыць, усё гэта ў РЗА перадаў сам Ермачэнка ў канцы вайны.

Удалося знайсці сярод матэрыялаў РЗА і асабісты архіў вядомага беларускага эмігранта Міколы Судзілоўскага, які ён пераслаў туды ў 1933 годзе (ф. N 5825). Архіў налічвае 263 справы за 1877 — 1921 гг. з цікавымі дакументамі на розных мовах, але, у асноўным, яны маюць дачыненне да дзейнасці рускай эміграцыі.

У бібліятэчнай частцы РЗА беларускіх выданняў вельмі мала, усяго паўтара-два дзесяткі. Перыядычнага друку няма. У даведніку па фондах РЗА значылася, што ў той час там былі газеты: «Беларус вайсковы», Коўна, 1922; «Беларускае слова», Гродна, 1921 г.; «Беларуская крыніца», Вільня, 1926-36 гг.; «Беларуская ніва», Вільня, 1925-26 гг.; «Наша праўда», Вільня, 1927 г.; «Сын беларуса», Вільня, 1924 г.; «Сялянская ніва», Вільня, 1925-29 гг. Магчыма, што былі яшчэ і другія выданні. Трэба ўдакладніць, што бібліятэка РЗА не была перададзена ў Маскву цалкам. Большая яе частка засталася ў Празе і, магчыма, знаходзіцца ў Славянскай бібліятэцы. Там могуць быць і пералічаныя беларускія выданні. Вядома таксама, што многія беларускія выданні перадаваў у гэту бібліятэку і Т.Грыб.

Вяртаючыся да дзейнасці Беларускага заграінчнага архіва, трэба дапоўніць сказанае тым, што праіснаваў ён у Празе недзе да канца вайны. Нягледзячы на высілкі Ермачэнкі, Езавітава і іншых беларусаў, аднавіць яго працу па шырокім зборы беларускіх архіваў так і не ўдалося. Невядома таксама, ці былі ў рэшце рэшт вернуты з РЗА перададзеныя туды часова згаданыя вышэй дакументы асабістага архіва Захаркі-Крэчаўскага, якія мы можам разглядаць як законную частку Беларускага архіва. Ва ўсякім разе, у фондзе РЗА, што знаходзіцца ў ЦДАКР у Маскве, гэтых дакументаў няма. Верагоднасць таго, што гэтыя дакументы маглі заставацца ў РЗА да канца вайны, на маю думку, ускосна можа сцвердзіць выказанае вышэй меркаванне аб тым, што нават свае асабістыя дакументы Ермачэнка перадаў у Рускі архіў таму, што Беларускі знаходзіўся без нагляду. Але, у той жа час, дакументы Ермачэнкі і на сённяшні дзень засталіся ў фондах РЗА. Калі б ужо забіралі пэўныя органы ўсе беларускія матэрыялы, то ўзялі б і гэта.

Але, зноў жа, у РЗА няма зараз дакументаў БНР, якія гэты архіў набыў сам у Коўні. Суцэльная загадка. Можна толькі канстатаваць, што ўсе пратаколы Рады БНР, увесь асабісты архіў Захаркі-Крэчаўскага зніклі з Рускага замежнага архіва і не трапілі ў Беларускі. Калі і дзе гэта адбылося? Магчыма, гэта можна высветліць па дакументах на перадачу РЗА ў Маскву. Будзе відаць, ці паступалі яны ў Маскву, тады можна было б прадоўжыць пошук у закрытых сховішчах. Магло быць, што адразу з Прагі яны былі забраны савецкімі спецслужбамі. У час допыту Л.Геніюш Цанава дапытваўся ў яе пра беларускі архіў. Па яе словах, можна зразумець, што ён пытаўся пра тыя дакументы, якія вывез Абрамчык. Можа, усё астатняе ўжо было ў іх і не хапала толькі гэтага? Ці наогул меліся на ўвазе ўсе беларускія дакументы ў Празе? Сёння ўжо гэта ўдакладніць амаль немагчыма, спазніліся мы ў сваіх пошуках.

Больш-менш дакладна сёння ведаем толькі якраз пра тыя пару чамаданаў, вывезеныя ў Францыю. Вядома, што асабісты архіў М.Абрамчыка знаходзіцца зараз у ягонай удавы ў Парыжы. Будзем спадзявацца, што сярод іх ёсць і ўратаваныя дакументы з архіва Захаркі. Шкада толькі, што да сённяшняга дня навукоўцы не маюць доступу да гэтых матэрыялаў, і яны не ўведзены ў навуковы ўжытак.

Абсалютна невядома ў Беларусі, дзе цяпер знаходзіцца і ўвесь Беларускі заграінчны архіў, захаваўся ён у поўным комплексе ці раскіданы па частках. Мне думаецца, што ў спадарыні Абрамчыкавай яго няма. Ці ўдалося беларусам вывезці яго на Захад? Дзіўна, што нават больш магутная руская эміграцыя не здолела вывезці свой архіў на Захад, і ён апынуўся ў Маскве. Магчыма, беларускія дакументы аказаліся ў архіве Пратэктарата Чэхіі і Маравіі, знаходжанне якога таксама трэба паспрабаваць высветліць. Калі ўсё ж Радзе БНР, ці каму іншаму, удалося вывезці архіў у якую-небудзь краіну, то можам спадзявацца, што рана ці позна гэта стане вядома. Вялікую дапамогу ў пошуках магла б тут аказаць беларуская эміграцыя, а калі замежныя беларусы ўжо нешта ведаюць, то, можа, з цягам часу падзеляцца звесткамі і з нашымі даследчыкамі.

І апошні варыянт — дакументы былі вывезены на Усход і знішчаны, ці знаходзяцца ў спецыяльных сховішчах на тэрыторыі былога Саюза. Пакуль што яны не ўсе яшчэ адкрыты, і знаходкі ў іх яшчэ магчымы.

ПАДСУМОЎВАЮЧЫ ўсю выкладзеную інфармацыю, можна з ўпэўненасцю канстатаваць, што сёння яшчэ можна паспрабаваць вярнуць страчаныя архівы. Нашы папярэднікі стараліся сабраць і захаваць іх для нас. Але мы аказаліся няўдзячнымі нашчадкамі.

# ХРАМ РАДАСЦІ, ці БОЖА, УРАТУЙ КАЛОЖУ!

БАРЫСАГЛЕБСКАЯ царква XII ст. у Гродне больш вядомая пад назвай Каложская. Прыгажосць, створаная невядомым майстрам-творцам, якому Бог даў спасцігнуць Гармонію. Гармонію матэрыялу і формы, гармонію святла і ценю, прасторы і гуку, гармонію колераў, нарэшце, гармонію тварэння чалавечых рук і прыроднага асяроддзя. Барысаглебскі храм у Горадні — сапраўдны помнік гармоніі. Гэтая невялікая цэркаўка на самым адхоне нёманскага берага паўстае як апошняя сведка далёкай таямнічай цывілізацыі нашых продкаў, адгароджанай ад нас тоўшчай часу і сцяной нашага няведання.

Лёс быў нялітасцівы да яе. Розныя знешнія і ўнутраныя ворагі старанна сціралі з твару зямлі праявы культуры і нават усялякія згадкі аб ёй. У 1579 г. у Полацку, акупаваным войскам маскоўскага цара Івана Жахлівага, згарэла старажытнейшая беларуская бібліятэка, размешчаная ў Сафійскім саборы XI ст. Сам жа сабор быў узарваны другім царом — Пятром І. Згінуў у апошнюю вайну крыж Еўфрасінні Полацкай. У 1961 г. улады Віцебска ўзарвалі унікальную Дабравешчанскую царкву XII ст. Гэты сумны спіс можна доўжыць і доўжыць...

Адзінымі відавочнымі напамінкамі ад тых часоў усплёску ўсходнеславянскай культуры, з якой вырасла культура беларуская, засталіся Спаса-Еўфрасіннеўская царква ў Полацку ды Барысаглебская ў Гродне. Але і ім не ўдалося зберагчы непаўторнае аблічча, атрыманае ад сваіх стваральнікаў. Дзеці аднаго часу, гэтыя два храмы і падобныя і шмат у чым розныя. Уражанне прапарцыянальнасці і лёгкасці ад знешняга выгляду полацкага храма адразу знікае, як толькі пераступіш яго парог. Навісае столь, магутныя слупы і сцены быццам сціскаюць памяшканне, робяць яго маленькім. У храме трапляеш пад магутны павеў старажытнасці, адчуваеш яе літаральна скурай.

У Каложы няма такога кантрасту, і інтэр'ер выдатна дапасоўваецца да знешняга вобліку. Тут нічога не прыгнятае чалавека. Наадварот, гэта храм ціхай радасці. Збудаваная як прыгарадная царква, Каложа і зараз знаходзіцца як бы ў прыгарадзе, хоць сённяшні горад далёка выйшаў за межы XII ст. Сучасная забудова абышла гэтую мясціну. Да царквы прымыкае Новы парк, які паступова пераходзіць у лес. У гэты адасоблены куток парку ля ўпадзення Гараднічанкі ў Нёман людзі ідуць менавіта да Каложы.

Знешні воблік і інтэр'ер храма настолькі незвычайныя, што стварылі падставу сучасным даследчыкам для выдзялення адметнай гарадзенскай архітэктурнай школы XII ст. Па колькасці помнікаў яна самая маленькая ва Усходняй Еўропе. Не параўнаць з такімі архітэктурнымі плынямі, як, напрыклад, кіеўская, полацкая, смаленская, ноўгарадская, якія прадстаўлены дзесяткамі храмаў. З прыналежных да гарадзенскай школы, акрамя Каложы, вядомы яшчэ дзве царквы ў Гродне (дакладней, іх руіны пад тоўшчай зямлі), недабудаваны храм у Ваўкавыску, княскі палац, кавалак мураванай сцяны на Старым гарадзенскім замку. Усе яны адкрыты археолагамі. Аўтару гэтых радкоў пашанцавала натрапіць на след яшчэ аднаго храма, размешчанага на Новым замку (былым гандлёва-рамесным пасадзе). Узвядзенне ўсіх гэтых помнікаў зараз успрымаецца як магутны культурны ўсплёск, і паколькі ён прыйшоўся на даволі кароткі адрэзак часу — усяго некалькі дзесяцігоддзяў, — напрошваецца думка, што аўтарам яго быў адзін чалавек. Невядомы нам дойлід...

Каложа была яго апошнім і самым дасканалым творам.

Хоць самай адметнай рысай гарадзенскай архітэктурнай школы даследчыкі лічаць асаблівасці будаўнічай тэхнікі, аднак найбольш уражвае унікальнасць і багацце дэкору. Падобнага аздаблення храма няма больш не толькі на Беларусі, але і ў цэлым свеце. Яно сапраўды вясёлкавае, прапарцыянальнае, выключна выверанае па колерах, і нават самы страшны вораг — час — не змог прытушыць свет гэтай весялосці. На сценах, збудаваных з вузкай чырвонай цэглы-плінфы, размешчаны крыжовыя кампазіцыі, выкладзеныя з рознакаляровых маёлікавых плітак. Трохі выцвілыя ад часу, яны, аднак, цалкам захавалі эфект, на які разлічваў іх стваральнік. Да маёлікавых кампазіцый дапасаваны шліфаваныя камяні, сабраныя ў тутэйшых мясцінах і дасканала падабраныя па колерах. Ад усяго гэтага проста адчувальна павявае цеплынёй і пяшчотай.

Унутраная прастора храма скампанавана так, што яна здаецца большай, чым на самай справе. Магчыма, гэтаму дапамагае форма слупоў — круглая, а не квадратная, як звычайна. Па ўсіх сценах у сярэдзіне храма відны чорныя круглыя дзіркі, якія як бы сеткай пакрываюць усю паверхню сценаў. Гэта адтуліны ад спецыяльных збаноў-галаснікоў, умураваных у сцены вусцем вонкі. З дапамогай гэтага ствараўся незвычайны акустычны эфект. Мы гаворым «ствараўся», бо ад той пачатковай Каложы няшмат чаго засталося. Ад храма XII ст. захавалася менш паловы. І мы толькі ўяўляем, як велічна тут у спевах і малітвах гучала хвала Богу. Уяўляем, як зіхацела пад промнямі сонца квяцістая падлога, выкладзеная з маёлікавых зялёных, жоўтых, карычневых плітак (апошні ацалелы кавалачак гэтай падлогі раскапаў археолаг А.Трусаў у 1983 г.). Так, усё гэта мы можам толькі ўяўляць, бо дах з купалам не захаваўся, як і верхнія часткі сцен з вокнамі ў іх. Самыя цяжкія страты перажыў храм падчас абвалу берага Нёмана, падмытага вадой увесну 1859 г. Адзін стары часопіс так паведамляў аб гэтай падзеі («Старые годы», 1915 г., кастрычнік, стар. 51): «Гибель Коложской церкви в Гродне — самый ужасный пример нашего небрежения в вопросах сохранения древностей. Построенная над обрывом крутого берега Немана, церковь издавна угрожала падением, хотя была перестроена извне (крыша и главка) в католическом вкусе (царква доўгі час была уніяцкай. — А.К.), однако прекрасно сохранила все основные стены, украшенные крупными майоликовыми узорами. В царствование Николая Павловича было издано Высочайшее повеление о необходимости тщательного за церковью ухода и вскоре после того в 1859 г. половина церкви рухнула вместе с оползшим берегом в Неман! Восстановили (из дерева) недостающие стены, перекрыли остатки крышею и возобновили служение».

Палова храма, якая ацалела і зараз моцна трымаецца на сваіх старажытных падмурках, — хвала будаўнікам XII стагоддзя!

Сапраўдны шэдэўр бывае дасканалым і закончаным ва ўсіх сваіх частках. Хоць ад царквы засталася толькі паўночная сцяна, менш за палову заходняй і дзве апсіды, усё роўна яна не страціла сваёй пекнасці і прывабнасці. Сапраўдная асалода — правесці далонню па шліфаванай паверхні камянёў дэкору, па цаглінах, на якіх выступаюць знакі майстроў-цагельнікаў (месцамі відны нават адбіткі іх пальцаў). Я асцярожна датыкаюся сваімі пальцамі да гэтых адбіткаў і ўздрыгваю ад пачуцця кантакту з чалавекам, які жыў на 800 год раней. Ён і я — адно цэлае. Ён пакінуў мне свой напамін — Каложу, і я ўдзячны яму...

Людзі — дзіўныя істоты, яны часта жывуць адным днём і за сваімі надзённымі інтарэсамі забываюць на вечнае. А гэтае вечнае часта мае канкрэтнае фізічнае аблічча, якое лёгка паламаць... Каложа неспадзявана трапіла ў кола падобных, не зусім чыстых людскіх інтарэсаў, што само па сабе азначае пагрозу...

Рашэннем N 246 ад 18 верасня 1989 г. гродзенскі аблвыканкам перадаў Барысаглебскі храм XII ст. Рускай праваслаўнай царкве. Вонкава гэты акт выглядае як сапраўды вартае ўхвалы імкненне вярнуць божы дом Богу. Але далейшыя падзеі пераконваюць, што людзі, прыняўшыя гэтае рашэнне, не кіраваліся дбаннем аб помніку — беларускай нацыянальнай святыні. Тое, што сталася з Каложай пасля нядоўгага гаспадарання ў ёй Рускай праваслаўнай царквы, прымушае крыкам крычаць: «Людцы, што вы нарабілі?!» За мінулы год быў у Каложы разы са два і больш не стае сілы заходзіць. Перад вачамі стаіць сцяна храма (адзіная больш-менш ацалелая) з навешанымі на яе чорнымі трубамі і рабрыстымі батарэямі паравога ацяплення, якія трымаюцца на металічных клінах, глыбока ўкалочаных у мур XII ст. Рэстаўратары (дзяржаўныя, не царкоўныя) баяліся лішні раз дакрануцца да гэтай сцяны. Колькі было разважанняў і спрэчак, перш чым пачалі здымаць з яе позні слой алейнай фарбы, які шкодзіў цэгле, не даваў ёй «дыхаць», перакрыўшы доступ паветра. Памятаю, як рэстаўратары рыхтавалі аднаўленне інтэр'ера, як падбіралі колеры, тэхналогіі, каб, не дай Бог, лішні раз драпнуць старажытныя муры. А першы святар Каложы Аляксандр Котаў зладзіў у апсідзе кацельную і ў ахоўнай зоне помніка выкапаў катлаван пад будаўніцтва свайго дома! Ён стаўся сапраўды вартым нашчадкам расейскага святара, які гаспадарыў на Каложы яшчэ пры цары. Вось чытаем у згаданым часопісе ў тым жа артыкуле: «Но 12 марта 1908 г. Археологическая комиссия обратилась к гродненскому епископу с запросом о самовольных переделках, произведенных в остатках Коложской церкви, с просьбою подвергнуть взысканию виновных.

Из ответа епископа явствовало лишь то, что в 1906 г. им дано было словесное разрешение иеромонаху местного Борисоглебского монастыря Рафаилу освятить один из престолов... ...В 1906 г. пробита была о.Рафаилом в одной из стенок алтаря (у столба близ апсиды) дверь и самовольно заделаны древние ниши...».

Гарадскім уладам, якія наогул вызначаюцца памяркоўнасцю ў адносінах да культурнай спадчыны, удалося дамагчыся адстаўкі святара-варвара. Няхай не ўсе праваслаўныя святары такія, і я асабіста ведаю сярод іх сапраўды вартых усебаковай павагі людзей. Але сам факт дапушчэння такога дзікунства з боку святара (і не толькі на Каложы) вельмі красамоўны.

Зараз у царкве перад алтаром стаяць вартыя жалю вырабы з фанеры, стружкавых пліт і дрэва. Не заходжу больш туды, бо не магу пазбавіцца ад надзвычай прыкрага адчування, што ў тваёй святыні гаспадараць чужынцы.

А ў гаспадароў Каложы магчымы новыя перамены. Другі святар, можа быць, саступіць месца трэцяму. А як будзе помніку?

Цяпер дадалася новая бяда, дакладней, вярнулася старая. Павялічваюцца трэшчыны ў апорнай мураванай платформе, зробленай на



месцы абваленага пад Каложай берага. Гарадзенская інтэлігенцыя стварыла камітэт выратавання Каложы. Арганізоўваецца збор сродкаў. Дай Бог, каб не спазніліся. Няхай мы ўмацуем бераг, абаронім помнік ад сляпых разбуральных сіл прыроды. А ад людзей?

Адчуваю сваім абавязкам гісторыка выказаць агульную ацэнку з'явы, бо тое, што адбываецца з Каложай, — праява рэальнай з'явы нашага сённяшняга жыцця.

Здаецца зразумелым, што ніякую справу, а тым больш звязаную з захаваннем нацыянальных культурных каштоўнасцяў, нельга ператвараць у кампанію. Маецца на ўвазе сапраўдная кампанія бяздумнай перадачы царкоўным канфесіям былых культавых будынкаў і іншай маёмасці, якая праводзіцца ўладамі ў лепшых традыцыях савецкай кампанейшчыны. Многія з храмаў не проста памяшканні для адпраўлення культу, але і выключна каштоўныя помнікі. Дзяржава, перадаючы іх царкоўным арганізацыям, павінна забяспечыць стопрацэнтовую гарантыю захавання і не нанясення шкоды. Зрабіць гэта можна, напрыклад, праз перадачу помніка на пэўных умовах. Што тычыцца двух унікальных помнікаў: Каложы і Спаса-Еўфрасіннеўскай (Прэабражэнскай) царквы, то гаворка можа быць толькі аб вельмі абмежаваным выкарыстанні іх для культавых мэтаў. Рэгулярныя службы і сама прысутнасць у гэтых помніках вялікай колькасці людзей шкодзяць ім. На ўласныя вочы назіраў у Полацку, як мінскія мастакі-рэстаўратары закрывалі тканінай фрэскі XII ст. у Еўфрасіннеўскай царкве, каб ўратаваць іх ад копаці дрэнных свечак і людскога тлуму падчас службаў. У гэтых храмах, на мой погляд, можна весці службы толькі адзін-два разы ў год па вялікіх святах.

Хоць і не хочацца, але даводзіцца вылучыць у гэтай справе палітычны аспект. Нашы цяперашнія ўлады, перадаючы былыя уніяцкія храмы праваслаўнай царкве, завязваюць палітычны вузел, бо уніяцкая царква, хоць і павольі, адраджаецца і мае патрэбу ў храмах. Перадаючы шматлікія матэрыяльныя каштоўнасці менавіта Рускай царкве, улады завязваюць і другі вузел — падставу для расколу праваслаўнай царквы, калі дойдзе да абвяшчэння беларускай аўтакефаліі. Найяскравейшы і найсвяжэйшы прыклад мы бачым на суседняй Украіне, дзе зараз сталася аж тры праваслаўныя царквы. Каму гэтыя вузлы давядзецца развязваць?

З Рускай праваслаўнай царквой сітуацыя ясная. Яна не змагла і наўрад ці зможа стаць нам роднай, бо гэта арганізацыя чужой дзяржавы, як бы там ні пераконвалі ў адваротным яе кіраўнікі.

А вось нашы, так бы мовіць, родныя ўлады — як расцаніць іх паводзіны? Ці, можа, сапраўды «Пасля нас хоць патоп»?!

Застаецца толькі малітва: «Божа, уратуй Каложу!».

**Алесь КРАЎЦЭВІЧ**

*Наступны нумар "ЛіМа" выйдзе 9 красавіка г.г.*





ЗАСНАВАЛЬНІКІ:

**САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**ГАЗЕТУ РЭДАГАВАЛІ:**

| | |
|---|---|
| Х.ДУНЕЦ | (1932-35) |
| І.ГУРСКІ | (1935-41) |
| А.КУЛЯШОЎ | (1945-46) |
| М.ГОРЦАЎ | (1947-49) |
| П.КАВАЛЁЎ | (1949-50) |
| В.ВІТКА | (1951-57) |
| М.ТКАЧОЎ | (1957-59) |
| Я.ШАРАХОЎСКІ | (1959-61) |
| Н.ПАШКЕВІЧ | (1961-69) |
| Л.ПРОКША | (1969-72) |
| Х.ЖЫЧКА | (1972-76) |
| А.АСІПЕНКА | (1976-80) |
| А.ЖУК | (1980-86) |
| А.ВЯРЦІНСКІ | (1986-90) |

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**

**Святлана БЕРАСЦЕНЬ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Юрась ЗАЛОСКА, Міхась ЗАМСКІ, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Барыс ПЯТРОВІЧ (адказны сакратар), Юрась СВІРКА**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі -- 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара -- 33-25-25; адказны сакратар -- 33-19-85; аддзелы: публіцыстыкі -- 33-25-25, пісьмаў і грамадскай думкі -- 33-19-85, літаратурнага жыцця -- 33-24-62, крытыкі і бібліяграфіі -- 33-22-04, паэзіі і прозы -- 33-22-04, музыкі -- 33-21-53, тэатра, кіно і тэлебачання -- 33-21-53, выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў -- 33-24-62, навін -- 33-19-85, мастацкага афармлення -- 33-24-62; фотакарэспандэнт -- 33-24-62; бухгалтэрыя -- 26-86-40.

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ". Рукапісаў рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*

*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.*

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку"

Індэкс 63856. Тыраж 15.000. Нумар падпісаны 25.03.1993 г.

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12